выбар перакладнікам лексычных і граматычных сродкаў, была друкаваная ў Вэнэцыі чэская Б і б л і я 1 5 0 6 г. [18], пра што ўпершыню выказаў меркаваньне ў 1873 г. І.Пэрвольф[19] і што на шырокім фактычным матэрыяле абгрунтаваў у сваёй манаграфіі П.Уладзіміраў. Гэтыя высновы былі пацьверджаныя й пазьнейшымі дасьледнікамі[20]. Варта зазначыць той факт, што Скарына, гэтаксама як і іншыя тагачасныя перакладнікі Бібліі на «народныя» мовы, спасылаецца ў прадмовах толькі на «клясычныя» тэксты — Вульгату, Сэптуагінту, гэбрайскую Біблію, ні словам не згадаўшы Вэнэцыянскую Біблію 1506 году.

Да выяўленьня ў якасьці крыніцы Бібліі 1506 г. бальшыня дасьледнікаў і бібліёграфаў лічыла, што Скарына рабіў свае пераклады з В у л ь г а т ы [21]. Сапраўды, тэксталягічна Скарынаў пераклад у цэлым адпавядае тэксту Вульгаты, які пакладзены ў аснову чэскага перакладу. Аднак там, дзе паміж тэкстамі Вульгаты й чэскай Бібліі 1506 г. назіраюцца разыходжаньні, Скарынаў пераклад выяўляе блізкасьць да апошняе, што на багатым ілюстрацыйным матэрыяле пацьвердзіў ужо П.Уладзіміраў[22]. Вось яшчэ колькі красамоўных прыкладаў:

1Цар 18.6: Внегда навращевашеся Давыдъ Збитвы, неся главу Голиаѳову вруце до Ерусалима — A když nawraczowal se Dawid z bitwy nesa hlawu Goliassowu w rukú do gerusaléma — cum reverteretur percusso Philistheo David;

2Цар 13.4: прочто такъ худеешъ и налици перепался еси — pročz tak chrzadness a na twárzy przepadl gsy se — quare sic adtenuaris macie.

Адваротных выпадкаў, г. зн. супадзеньняў чытаньняў Скарынавага тэксту з Вульгатай пры разыходжаньні зь Біблiяй 1506 г., дасьледнікі не засьведчылі.

1.3. Тэксталягічныя назіраньні над некаторымі кнігамі Скарынавай Бібліі выразна выяўляюць яшчэ адну крыніцу перакладу — ц а р к о ў н а с л а в я н с к і я біблійныя тэксты. Аднак, калі выкарыстаньне Скарынам у якасьці крыніцы чэскай Бібліі 1506 г. практычна ні ў кога з дасьледнікаў не выклікае ніякага сумневу, дык меркаваньні наконт царкоўнаславянскае крыніцы перакладу ўтвараюць самы шырокі спэктар поглядаў, часам супрацьлеглых і ўзаемавыключальных.

Нявысьветленым і да сёньня застаюцца два галоўныя пытаньні. Па-першае, у якім аб'ёме выкарыстаў Скарына царкоўнасла-

вянскія тэксты: дагэтуль ня выяўленыя поўнасьцю й дакладна тыя біблійныя кнігі або іх разьдзелы, дзе назіраецца залежнасьць ад царкоўнаслявянскае крыніцы. Па-другое, ня вызначаныя ня толькі канкрэтныя крыніцы, але нават іхны тып (поўныя тэксты паасобных або ўсіх кніг Бібліі, парэмійнікі, іншыя богаслужбовыя або чытальныя кнігі з выбранымі фрагмэнтамі кніг Старога Запавету).

П.Уладзіміраў, разглядаючы адносіны тэксту Скарыны да царкоўнаслявянскіх тэкстаў, прыводзіць значна менш бясспрэчныя прыклады ў пацьверджаньне іхнае блізкасьці, чым у выпадку з чэскай Бібліяй. Даволі часта ягоная аргумэнтацыя здаецца непераканаўчай: за блізкасьць тэксту прымаецца падабенства лексыкі, граматычных і сынтаксычных формаў[23]. У прыкладах П.Уладзімірава можна сустрэць нават памылкі «па карысьць» царкоўнаславянскага тэксту, як у прыкладзе з Кнігі Быцьця 7.21: «искажена есть *и оумре* всяка плоть. — 1499 и Острожск.: и оумре всяка плоть... — 1506: y zkaženo gest wsseczko tielo»[24] — выдзеленыя словы ў Скарыны адсутнічаюць! Нягледзячы на гэтыя недахопы аргумэнтацыі, выкліканыя жаданьнем Уладзімірава ўбачыць як мага большую залежнасьць Скарыны ад царкоўнаслявянскіх тэкстаў, у бальшыні прыведзеных прыкладаў назіраецца відавочная блізкасьць абодвух тэкстаў. На падставе гэтага дасьледнік прыходзіць да высновы, што некаторыя разьдзелы Скарына цалкам перапісвае з царкоўнаслявянскага тэксту, крыху іх выпраўляючы, іншыя ж уяўляюць сабою пераклад з чэскай Бібліі, сям-там вы-праўлены паводле царкоўнаслявянскага тэксту[25]. Гэтую выснову П.Уладзіміраў пашырае фактычна на ўсе біблійныя кнігі, перакладзеныя Скарынам, за выняткам чатырох (Премудрости Соломона, Юдифь, Есфирь и Песня Песней), з прычыны таго, што той ня мог мець адпаведных царкоўнаслявянскіх тэкстаў[26]. Іншую думку выказаў на гэты конт А.Сабалеўскі ў рэцэнзіі на працу П.Уладзімірава, дапусьціўшы, што Скарына ня меў у сваім распараджэньні ніякіх царкоўнаслявянскіх старазапаветных тэкстаў, апрача Псалтыра й Парэмійніка[27]. І сапраўды, пададзеныя Уладзіміравым ілюстрацыі блізкасьці Скарынавых тэкстаў да царкоўнаслявянскіх належаць да фрагмэнтаў, што ўваходзяць у парэмійныя чытаньні (прыкладам, першыя 10 разьдзелаў Кнігі Быцьця, пачатак Кнігі Іова, песьня Анны ў Першай Кнізе Царстваў, песьня трох юнакоў і г.д. — паводле Сабалеўскага[28]). Аднак Сабалеўскі ў сваіх меркава-

ньнях абапіраўся толькі на матэрыял кнігі П.Уладзімірава, прызнаўшыся, што ня меў магчымасьці самастойна азнаёміцца ані з тэкстамі Скарыны, ані зь невядомаю й недаступнаю яму чэскаю Біблiяй 1506 г.

Пазьнейшыя аўтары, што ў сваіх працах закраналі гэтае пытаньне, не праводзячы, за рэдкім выняткам, самастойнага тэксталягічнага аналізу[29], таксама абапіраліся на выніку дасьледаваньня П.Уладзімірава. Шырокі дыяпазон меркаваньняў — ад фантастычных гіпотэзаў аб выкарыстаньні Скарынам старажытных сьпісаў Мэтодавага перакладу ў мараўскай рэдакцыі, дзівосным чынам знойдзеных Скарынам у Чэхіі[30], да поўнага адмаўленьня наяўнасьці ў яго царкоўнаславянскіх тэкстаў[31] — выкліканы або спэкуляцыйнымі разважаньнямі безь непасрэднай працы з тэкстамі, або асаблівасьцямі выбраных для дасьледаваньня фрагмэнтаў.

Найбольш праўдападобным, улічваючы цяперашнюю ступень дасьледаванасьці праблемы, можна лічыць меркаваньне, што Скарына меў толькі некаторыя фрагмэнты царкоўнаславянскага тэксту, магчыма, у складзе парэмійніка або іншага літургічнага зборніка, прыкладам, трыёдзі[32]. Нельга пагадзіцца з дасьледнікамі, якія лічаць, што царкоўнаславянскі тэкст пакладзены ў *аснову* Скарынавага перакладу. Нават у тых разьдзелах, дзе бясспрэчна ўжытыя фрагмэнты царкоўнаславянскіх біблійных тэкстаў, тэкстуальная аснова перакладу цалкам адпавядае чэскай Бібліі, у тым ліку й там, дзе назіраюцца істотныя разыходжаньні паміж чытаньнямі Вульгаты й Сэптуагінты. Вось колькі прыкладаў (царкоўнаславянская крыніца — Зборнік F19-51 зь Бібліятэкі Акадэміі Навук Літвы):

Быцьцё 2.7-8: Скар.: Создалже естъ г[о]с[по]дь богъ человѣка *вземъ персть отземли...* И насадил былъ... раи кохания изначала. — F19-51: *прьсть вземъ от земля...* раи на въстоцѣхъ въ едеме. — 1506: z blatu zemie... ray rozkossy;

Быцьцё 8.21: Скар.: *неприложу ктому проклинати земли, задела человѣческая.* — F19-51: *инеприложю ктомоу проклятии земля за дѣла ч[е]л[овѣ]ческа.* — 1506: nikolit' wijecze nebudu zlorzečzyti.

аднак у тым самым разьдзеле:

Быцьцё 8.14: Скар.: седмнадесятого дня. — 1506: sedmnezczyetneho. — у Сэптуагінце, царкоўнаславянскай Бібліі й Вульгаце(!) — 27-га.

Сустракаюцца, аднак, хоць і вельмі рэдка, выпадкі, калі Скарына пры разыходжаньні «ўсходняга» й «заходняга» чытаньняў аддае перавагу царкоўнаславянскаму варыянту:

Быцьцё 2.2: И доконалъ ест богъ дня *шестаго* дело свое. — 1506: dne sedmého — Vulg.: die septimo. (У F19-51 — въ дьнь *шостый* (NB: o!), дзе «шостый» напісана паверх вышкрабанага «седмый»!).

Можна было б спадзявацца, што калі б Скарына меў у сваім распараджэньні поўны царкоўнаславянскі тэкст паасобных кніг, ён бы ўзяў яго за тэксталягічную аснову для перакладу або нават проста выдрукаваў бы яго без істотных зьменаў, як ён гэта зрабіў з Псалтырам або Апосталам. Аднак аналіз перакладу паказвае, што ў ім даволі пасьлядоўна перададзеная структура чэскага тэксту, і разам з тым Скарына без істотнага парушэньня гэтае структуры ўлучае ў пераклад невялікія фрагмэнты царкоўнаславянскага тэксту. Аднак без глыбейшага дасьледаваньня амаль немагчыма вызначыць у гэтых улучэньнях хоць бы нейкую сыстэму: матывы Скарыны застаюцца незразумелыя, а ягоныя тэкстуальныя рашэньні непрадказальныя. Яны мала падобныя на рэгулярную філялягічную апрацоўку чэскага тэксту з надтрымкай тэксту царкоўнаславянскага, а нагадваюць хутчэй «прыпамінаньні», аднаўленьне з памяці фрагмэнтаў ужываных у царкоўнай службе старазапаветных урыўкаў, добра вядомых «на слых» зь дзяцінства кожнаму праваслаўнаму.

Найбольш пэўным ключом да пошуку царкоўнаславянскай крыніцы можа быць урывак з Кнігі Іова 2.9 (II, 716), адсутны ў чэскай Бібліі і ў Вульгаце. Выкананыя Ўладзіміравым тэксталягічныя дасьледаваньні гэтага ўрыўку далі толькі прыблізныя вынікі, зь якіх выцякае, што крыніцу трэба шукаць сярод паўдзённаславянскіх тэкстаў[33].

З увагі на сказанае вышэй уяўляецца малаверагодным, каб Скарына карыстаўся ў сваёй працы нейкімі сьпісамі Генадзеўскай Бібліі 1499 г., як мяркуюць некаторыя аўтары[34]. Зазначым, што значна бліжэй храналягічна й геаграфічна да Скарыны стаяць тэксты зводу старазапаветных кніг, створанага на беларускіх землях — у Супрасьлі й Вільні, пра якія Скарына мог ведаць і нават быць знаёмы з гэтымі тэкстамі[35].

1.4. Часам дасьледнікі Скарынавых перакладаў разам з разгледжанымі вышэй крыніцамі дапускаюць выкарыстаньне беларускім асьветнікам і іншых тэкстаў, сярод якіх называліся сьпісы

Шарашнатацкай Бібліі або рукапісныя чэскія Бібліі[36], гэбрайскія старазапаветныя тэксты[37]. Разглядаючы праблему выкарыстаньня гэтых або якіх іншых дадатковых крыніцаў, варта заўважыць, што ў непасрэднай працы над перакладамі біблійных тэкстаў Скарыну было цалкам дастаткова мець у распараджэньні чэскую Біблію 1506 г., Вульгаты й ня вызначаныя дакладна царкоўнаславянскія тэксты. Гэтыя крыніцы мелі для перакладніка дастатковую вагу і аўтарытэт, зь якімі наўрад ці маглі ў гэтым сэнсе спаборнічаць Шарашпатацкая Біблія або іншыя рукапісныя тэксты. Улічваючы тое, што пашырэньне кола крыніцаў не палегчыла б, а значна б ускладніла працэс перакладу, можна меркаваць, што Скарыну для канкрэтнае працы над перакладам, апроч вядомых чэскага й лацінскага ды невядомага царкоўнаславянскага, было непатрэбна й немэтазгодна выкарыстоўваць іншыя тэксты.

Разам з тым у працы над прадмовамі да біблійных кніг Скарына мог выкарыстоўваць тэксты Бібліяў на іншых мовах. Так, прыкладам, застаецца нявысьветленым паходжаньне цытаваных Скарынам грэцкіх назоваў паасобных кніг — яны адсутнічаюць і ў прадмовах чэскай Бібліі, і ў камэнтарах Мікалая Лірана, — а таксама дзьвюх цытатаў («Бивлос Генезеосъ Іс[у] Хр[и]сту»(Мт 1.1) — I, 7 і «І[су]съ оназореос овасилефс топ іудеон»(Ян 19.19) — I, 740), хоць гэтыя веды маглі быць часткаю агульнай эрудыцыі Скарыны і для такіх цытатаў ён мог і не патрабаваць канкрэтных крыніцаў. Што датычыць заўвагаў Скарыны аб крыніцах, выкарыстаных ім для перакладу адсутных у гэбрайскім тэксце фрагмэнтаў кніг Данііла Прарока і Эстэр («...Ато еже положилъ есми • Сътеодозиева выкладу Греческаго, О Съеронимова Латинскаго выложих» — III, 724; «Речиже нижей положеные... знашолъ есмъ вписме греческомъ выкладу Ѳеотосиева • ивокнигахъ латинъских ерасимовыхъ, ивыложихъ наруский языкъ» — III, 764), дык яны цалкам адпавядаюць гэткім жа заўвагам чэскай Бібліі, якія маюць крыніцай Еранімаў камэнтар[38], а ня сьведчаць пра выкарыстаньне пры перакладзе грэцкіх тэкстаў.

Аналіз ужываньня Скарынам гэбраізмаў у прадмовах да праскіх выданьняў дае падставы меркаваць, што ён выкарыстоўваў, магчыма з дапамогаю кансультантаў, гэбрайскія тэксты, найправадападобней выдадзенага тамсама ў Празе Пяцікніжжа (1518).

2.

2.1. Дасьледаваньне перакладу як працэсу й выніку пераня-сеньня тэксту з адной моўнай сыстэмы ў другую прадугледжвае йсnаваньне дакладна акрэсьленых колькасных і якасных пара-мэтраў абедзьвюх моўных сыстэмаў, без чаго аналіз трансфар-мацыяў, рэалізаваных у працэсе перакладу, будзе пазбаўлены неабходных пунктаў суаднясеньня. У выпадку Скарыны дась-леднік сутыкаецца ў гэтым пляне з сур'ёзнай праблемай — ня-пэўным статусам мовы перакладу.

Вызначаючы характар Скарынавай мовы, навукоўцы звычайна не выходзяць за межы прасторы, двума полюсамі якой зьяў-ляюцца беларуская (або яе адпаведны гістарычны варыянт) і царкоўнаславянская мовы. У межах гэтай прасторы выказвалі-ся, аднак, самыя розныя меркаваньні. Разглядаючы палярныя выказваньні, можна заўважыць, што адныя аўтары (А.Сабалеў-скі, І.Воўк-Левановіч, А.Флароўскі, А.Мартэль)[39] лічылі мову Скарынавых выданьняў царкоўнаславянскаю, іншыя (П.Уладзі-міраў, Ц.Ломцеў, М.Алексютовіч)[40] былі схільныя лічыць яе беларускаю. Пры гэтым часта крытэрыем заняцьця першай або другой пазыцыі былі хутчэй не лінгвістычныя, а ідэалягічныя фактары — ігнараваньне або пераацэнка беларускіх элемэнтаў у мове Скарынавых выданьняў.

У выніку ўсебаковага дасьледаваньня правапісна-графічных, марфалягічных і лексычных асаблівасьцяў перакладных Ска-рынавых выданьняў была зробленая выснова аб сынкрэтычным характары мовы Скарыны, дзе царкоўнаславянская моўная ас-нова прыкметна парушаецца элемэнтамі беларускай, чэскай і польскай моваў[41]. На думку вядучага дасьледніка ў гэтай галіне А.Жураўскага, заслуга Скарыны палягае ў тым, што ён адпа-ведна патрэбам свайго часу стварыў асобны тып гібрыднай царкоўнаславянска-беларускай пісьмовай мовы, узбагаціўшы свае пераклады беларускімі моўнымі сродкамі ў такой меры, што мова ягоных перакладаў заняла самае крайняе становішча ў беларускай рэдакцыі царкоўнаславянскай мовы[42].

Пры нязначных адрозьненьнях у фармулёўках, практычна ўсе дасьледнікі прызнаюць царкоўнаславянскую аснову Скарынавай моўнай сыстэмы, «парушаную» або «здэмакратызаваную» эле-мэнтамі беларускае моўнае стыхіі. На нашую думку, гэтая мадэль патрабуе пэўнага ўдакладненьня.

Паводле сваёй лінгвістычнай тэрміналёгіі Скарына вызначае мову перакладных выданьняў як «рускую», прычым нідзе ў сваіх кнігах ён выразна не супрацьпастаўляе яе мове царкоўнаславянскай. Вынятак мог бы складаць «Псалтыр», у абодвух выданьнях якога зьмяшчаюцца глёсы для тлумачэньня незразумелых «простым людзям» словаў. Аднак Скарынава формула, ужытая ў прадмове да «Псалтыра», — «...рускыми словами, а словенскым языком...» (III, 10) — дагэтуль не знайшла адназначнага тлумачэньня й застаецца прадметам здагадак і спрэчак[43], а глёсы ў тэксце «Псалтыра» можна разглядаць не як пераклад асобных лексэмаў зь іншае мовы, а як тлумачэньне архаізмаў і барбарызмаў у межах адной моўнай сыстэмы. Зрэшты, апроч прадмовы да «Псалтыра», слова «славянская» нідзе ў Скарыны ня згадваецца, затое бясспрэчная царкоўнаславянская (у беларускай рэдакцыі) мова ягоных г. зв. неперакладных выданьняў часам характарызуецца ім як «руская»[44], што прымушае асьцярожна ставіцца да Скарынавай тэрміналёгіі.

Можна нагадзіцца з тым, што для перакладу Бібліі Скарына стварыў свой варыянт «рускай» літаратурнай мовы, прычым яго сьвядомая адмова выкарыстаць для гэтай мэты старабеларускую або царкоўнаславянскую мовы ў іх «чыстых» варыянтах наўрад ці можа тлумачыцца ягонай недастатковай падрыхтаванасьцю да такой задачы. Нягледзячы на некаторыя памылкі й недакладнасьці ў праваніссе й граматыцы, ён у розных фрагмэнтах сваіх перакладаў даў прыклад дастаткова добрага валоданьня кожнаю з гэтых дзьвюх моваў паасобку, каб магчы вытрымаць у адным моўным рэжыме хоць бы й цэлыя біблійныя кнігі. Аднак замест гэтага Скарына, кіруючыся сьвядомаю ўстаноўкаю, будуе сынкрэтычную гібрыдную мову, цалкам аб'яднаўшы сыстэмы абедзьвюх моваў на ўсіх структурных узроўнях, стварыўшы своеасаблівую царкоўнаславянска-беларускую моўную амальгаму, сьцёршы ўсе межы паміж дзьвюма моўнымі стыхіямі, ужываючы кантрасныя «альтэрнатыўныя» граматычныя й лексычныя формы як варыянтныя і ўзаемазамяняльныя ў залежнасьці ад патрабаваньняў кантэксту, стылю або толькі аднаму яму вядомых прычынаў. Матывы выбару гэтых формаў застаюцца яшчэ адной з шматлікіх Скарынавых загадак — не заўважаецца ніякага вызначальнага ўплыву на гэты выбар ні патэнцыйнай царкоўнаславянскай, ні рэальнай чэскай крыніцы[45], нават відавочныя запазычаньні з царкоўнаславянскага тэксту й

выразныя багемізмы выступаюць у Скарынавым тэксце бессыстэмна й непрадказальна. Адзін з найяскравейшых прыкладаў сустракаем у Песьні Песьняў, дзе той самы сказ «hledala gsem ho a nenalezla» ў 3.1 Скарына перакладае «Искала есми его инезнашла есмъ», а праз адзін радок, у 3.2 — «Соглѣдахъ его инезнаидох»! На жаль, нават самы стараныя статыстычныя аналіз разьмеркаваньня альтэрнатыўных формаў не дапаможа раскрыць мэханізм стварэньня тэксту Бібліі Скарыны.

Сьцьверджаньне аб царкоўнаславянскай аснове Скарынавай мовы, абгрунтаванае статыстычнаю перавагаю рэлевантных царкоўнаславянскіх формаў (А.Жураўскі адзначае перамогу цсл. моўных рысаў над беларускімі зь лікам 63,4%:36,6%[46]) наўрад ці можна прыняць безумоўна. На нашу думку, з большай мерай верагоднасьці можна сьцьвярджаць, што ў аснове Скарынавага «ідыялекту» ляжыць сукупнасьць моўных зьяваў, *супольных* для абедзьвюх моваў: адзіная графічная сыстэма, адзіны прынцып правапісу, вялікая колькасьць агульных граматычных формаў, шырокі пласт лексыкі агульнаславянскага паходжаньня.

Апроч аб'ектыўных лінгвістычных перадумоваў магчымасьці стварэньня такога моўнага «кангляментату», існавалі й сацыяльна-гістарычныя. У Скарынавыя часы ўжо вельмі яскрава выявіліся колькасныя й якасныя перамены ў структуры царкоўнаславянска-беларускай дыглёсіі. Дынамічны працэс наступу беларускай мовы ў сфэрах, якія традыцыйна абслугоўвала мова царкоўнаславянская, парушыў соцыялінгвістычную раўнавагу, якая існавала некалькі стагодзьдзяў на беларускіх землях. Злучыўшы дзьве мовы ў адну, Скарына ў межах сваёй творчасьці штучна зьліквідаваў стан дыглёсіі, прыпыніўшы заняпад царкоўнаславяншчыны ін'екцыяй беларускага элемэнту, а беларускую моўную стыхію падмацаваўшы традыцыйнаю царкоўнаславянскаю рошчынай. Так былі злучаныя маладая сіла й дынамізм новага з прэстыжнасьцю й глыбінёю традыцыі старога. На жаль, палітычная гісторыя Беларусі наканавала нечаканы ход моўным працэсам: ня пройдзе й стагодзьдзя, як беларускую мову з толькі што занятых ёю пазыцыяў выцісьне новы пэрсанаж — мова польская, а царкоўнаславянская, замацаваўшыся ў сваім канфэсійным бастыёне, з пашырэньнем маскоўскіх уплываў верне страчаныя ёю пазыцыі, хоць і ў значна абмежаваных рамках.

# СПАСЫЛКІ

[1] Найпаўнейшая анатаваная бібліяграфія Скарыніяны В.Тумаша (Пяць Стагодзьдзяў Скарыніяны / Апрацаваў Вітаўт Тумаш. БІНіМ, Ню Ёрк, 1989), на жаль, спыняецца на 1981 годзе. Яе ў значнай ступені дапаўняе рэтраспэкцыйны паказальнік Я.Няміроўскага й Л.Осіпчыка (Францыск Скарына: Жыццё і дзейнасць: Паказальнік літаратуры. Менск, 1990).

[2] Першая публікацыя твораў Скарыны — прадмоваў і пасьляслоўяў — пабачыла сьвет толькі ў 1969 годзе (Ф. Скарына. Прадмовы і пасляслоўі. Менск, 1969). Факсымільнае выданьне Бібліі ў 3-х тамох (Біблія. Т.1. Менск, 1990; Т.2, Т.3. Менск, 1991), бясспрэчна, дасьць трывалы грунт для далейшых дасьледаваньняў. Спасылкі на Скарынавы тэксты ў артыкуле пазначаюцца паводле гэтага выданьня (том, старонка).

[3] Распачаў цкаваньне ў 1928 годзе першы сакратар ЦК КПБ В.Кнорын, асудзіўшы дасьледаваньне творчасьці «сярэднявяковага манаха Скарыны» як праявы «нацдэмакратызму» (Кнорын В. За культурную рэволюцыю. Менск, 1928. С.80). З таго часу й да 1941 году скарыназнаўства ў падсавецкай частцы Беларусі замірае зусім.

[4] Владимировъ П. Докторъ Францискъ Скорина. Его переводы, печатные изданія и языкъ. СПб., 1888.

[5] Соболевскій А. Рэцэнзія на манаграфію П.Уладзімірава // Журналъ Министерства Народнаго Просвѣщенія. Ч.259. СПб., 1888. С.321-332.

[6] Флоровский А. Чешская библия в истории русской культуры и письменности. Франциск Скорина и продолжатели его дела // Sborník filologický. III. Třída České akademie věd a umění. Sv.12. Praha, 1940-1946. S.153-258.

[7] Владимиров П. Цыт. пр. С.100.

[8] Францыск Скарына і яго час. (Далей — ФСЯЧ). Менск, 1988. С.200, 202, 216. Апошняя цытата — з «Апостала»: Францыск Скарына. Зборнік дакументаў і матэрыялаў. Менск, 1988. С.305.

[9] Мова выданняў Францыска Скарыны. Менск, 1990. С.9.

[10] Неміроўскі Я. Выкарыстанне перакладаў Ф.Скарыны // ФСЯЧ. С.296-297; Галенчанка Г. Спісы з выданняў Ф.Скарыны // ФСЯЧ. С.505-506.

[11] Жураўскі А. Царкоўна-славянская пісьменнасць на Беларусі // ФСЯЧ. С.541-543.

[12] Сабалеўскі А. Цыт. пр. С.328.

[13] Łowmiański H. Рэц. на: Stankievič A. Doktar Francišak Skaryna pieršy drukar bielaruski. 1525-1925. Vilnia, 1924 // Ateneum Wileńskie. R. III. Zesz. 9. S.167-169.

[14] Первольфъ І. Славяне, ихъ взаимныя отношенія и связи. Т.III. Ч.2. Варшава, 1888. С.224-225; Флоровский А. Цыт. пр. С.171; Крапивин П. К

вопросу о появлении полонизмов в старобелорусском языке // Беларуская лексікалогія і этымалогія. Менск, 1968. С.88-89.

15 Biblij Czeská w Benátkách tisstená. 1506.

16 На гэтую супярэчнасьць зьвярнуў увагу Х.Ротэ: Rothe H. Sounds and Words: Reflections on Reading Skaryna // The Journal of Byelorussian Studies. Vol.VI, No.1. London, 1988. P.21.

17 Гл. артыкул «Гэбрайскія элемэнты ў праскіх выданьнях Францішка Скарыны» ў гэтым нумары «Запісаў».

18 Biblij Czeská w Benátkách tisstená. 1506.

19 Первольфъ І. Славянскія взаимности съ древнейшихъ временъ до XVIII вѣка // Журнал Министерства Народнаго Просвѣщенія. №170. 1873. С.307; №172. 1874. С.204-206.

20 Флоровский А. Цыт. пр. С.166-186; Мова выданьняў Францыска Скарыны. Менск, 1990. С.10.

21 Прыкладам, І.Штрытэр (1783), А.Шлёцэр (1803), Ё.Добраўскі (1806).

22 Владимировъ П. Цыт. пр. С.129-142.

23 Целунова Е. Языковая ориентация Ф.Скорины в свете его переводческой техники // Франциск Скорина и Вильнюс. Вильнюс, 1991. С.111.

24 Владимировъ П. Цыт. пр. С.143.

25 Тамсама. С.171.

26 Тамсама. С.49, 163.

27 Соболевскій А. Цыт. пр. С.327.

28 Тамсама.

29 Адзінае спэцыяльнае перакладазнаўчае дасьледаваньне, мэта якога — вызначыць моўную арыентацыю Скарыны ў сьвятле яго перакладніцкае тэхнікі: Целунова Е. Цыт. пр.

30 Дышыневіч В. Скарына і славянская кніжная традыцыя // Спадчына Скарыны. Менск, 1989. С.154.

31 Целунова Е. Цыт. пр. С.107. Целунова Е. О церковнославянском протографе Библии Франциска Скорины (на материале Книги Чисел) // Slavia. Roč.59 (1990). Č.3. S.244-250. Высновы аўтара абумоўленыя выбарам фрагмэнту, якi й сапраўды не выяўляе ніякае залежнасьці ад магчымага царкоўнаславянскага пратографа, чаго нельга сказаць пра некаторыя іншыя фрагмэнты Скарынавых біблійных выданьняў.

32 Магчымае выкарыстаньне Скарынам Трыёдзі сьвяточнай Фіёля адзначыў ужо Уладзіміраў. — Цыт. пр. С.155.

33 Владимировъ П. Цыт. пр. С.155-157.

34 Копреева Т. Франциск Скорина и русская рукописная книжная традиция // Белорусский просветитель Франциск Скорина. Федоровские чтения 1977. Москва, 1979. С.70.

[35] Зборнікі Бібліятэкі Акадэміі Навук Літвы F19-51 (Пяцікніжжа Майсеева) і F19-52 (Кнігі Ісуса Навіна, Юдыты (з разьдзелу 13), Руты, Царстваў, Эстэры), а таксама Дзесятаглаў Мацея Дзясятага з Бібліятэкі Расейскай Акадэміі Навук у Санкт-Пецярбургу 24.4.28 (Іоў, Псалтыр, Прыпавесьці, Эклезіяст, Песьня Песьняў, Прамудрасьць, Ісус Сырахаў).

[36] Соболевскій А. Цыт. пр. С.330-331; Ясінскі А. З культурнае гісторыі Чэхіі пачатку XVI-га сталецьця // Чатырохсотлецьце беларускага друку. Менск, 1926. С.56-57; Флоровский А. Цыт. пр. С.171.

[37] Немировский Е. Франциск Скорина... Менск, 1990. С.346, 351.

[38] Владимировъ П. Цыт. пр. С.123-125.

[39] Соболевскій А. Цыт. пр. С.326; Воўк-Левановіч Я. Мова выданьняў Францішка Скарыны // 400-лецьце... С.262-263; Флоровский А. Цыт. пр. С.169; Martel A. La langue polonaise dans les pays ruthènes. Lille, 1938. P.104.

[40] Владимировъ П. Цыт. пр. С.247; Ломцеў Ц. Скарына як пачынальнік беларускай літаратурнай мовы // Беларусь. 1945. №3. С.7-13; Алексютовіч М. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. Менск, 1958. С.66.

[41] Жураўскі А. Мова выданьняў Ф.Скарыны // ФСЯЧ. С.424-425.

[42] Тамсама.

[43] Неадназначнасьць разуменьня гэтае формулы выявілася ўжо ў працы Ўладзімірава і ў рэцэнзіях на яе Сабалеўскага, Мурко й Будзіловіча.

[44] Прыкладам, ФСЯЧ. С.176.

[45] Пар.: Запольская Н. Структурно-функциональный статус гибридных вариантов славянских литературных языков (Бивлия Ф.Скорины) // Доклады по проблемам языкознания: К XI международному съезду славистов в Братиславе. МГУ. Москва, 1993. С.54.

[46] Мова выданняў Францыска Скарыны. С.219.

# ГЭБРАЙСКІЯ ЭЛЕМЭНТЫ Ў ПРАСКІХ ВЫДАНЬНЯХ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Сяргей Шупа
Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва (Вільня)

Беднасьць дакумэнтальных матэрыялаў пра жыцьцё й дзейнасьць Францішка Скарыны змушае з большаю ўвагай зьвярнуцца да самае значнае, цэльнае й годнае веры крыніцы — тэкстаў выдадзеных ім біблійных кніг. Давесьці тое, што ў самых Скарынавых тэкстах схаваныя нявычарпаныя рэзэрвы для дасьледнікаў, і будзе мэтаю гэтых нататак.

Аб'ектам нашага дасьледаваньня сталіся гэбраізмы ў Скарынавых тэкстах. Іхную прысутнасьць адзначалі амаль усе, хто так ці йначай дасьледаваў Скарынавы прадмовы, пасьляслоўі й пераклады з гледзішча тэксталёгіі або лексыкалёгіі. Аднак звычайна аўтары ня йшлі далей за канстатацыю фактаў і выказваньне меркаваньняў пра тое, што ў працэсе рэдакцыйна-перакладніцкай працы Скарына зварачаўся да гэбрайскіх крыніцаў[1]. Сыстэматычны разгляд шматлікіх гэбраізмаў у Скарынавых тэкстах дагэтуль не праводзіўся. Паспрабуем зрабіць колькі крокаў у гэтым новым кірунку.

З гледзішча матываванасьці ўжываньня гэбраізмы ў тэкстах Скарынавых выданьняў падзяляюцца на дзьве катэгорыі. У першую зь іх уваходзяць элемэнты тэксту, якія «непазьбежна» прысутнічаюць у любым біблійным перакладзе — уласныя імёны (антрапонімы, тапонімы і іх дэрываты), біблійныя рэаліі, а таксама адзінкавыя выпадкі «лінгвістычных сюжэтаў», як, прыкладам, славуты שִׁבֹּלֶת (Суд 12.6). Ужываньне гэтых тэрмінаў загадзя запраграмаванае, таму яны вызначаюцца ідэалягічнай нэўтральнасьцю й не даюць ніякай інфармацыі аб інтэнцыях аўтара-перакладніка. Да таго ж, гэтыя тэрміны, адолеўшы значную адлегласьць паміж гэбрайскім тэкстам і Скарынавым перакладам, запоўненую некалькімі тэкстамі-пасярэднікамі (лацінскім і чэскім або грэцкім і царкоўнаславянскім), непазьбежна

зазнавалі істотнае дэфармацыі, што пазбаўляе іх цікавасьці і з гледзішча формы. З увагі на пералічаныя фактары гэтая катэгорыя гэбраізмаў пакінутая па-за ўвагаю дасьледаваньня.

У другую катэгорыю ўваходзяць непасрэдна цытаваныя гэбраізмы, адпаведна вызначаныя адмысловым камэнтаром. Сустракаюцца яны вылучна ў тэкстах дадатковага характару — прадмовах, інцыпітах і пасьляслоўях біблійных кніг Скарынавага перакладу — і ўяўляюць сабою як паасобныя словы, гэтак і цэлыя фразы.

Найчасьцей гэта гэбрайскія адпаведнікі назоваў паасобных кніг Бібліі, якія падаюцца паралельна з лацінскімі, грэцкімі й беларускімі. Гэты прыём часта сустракаўся ў перакладных Бібліях Скарынавага часу, ужыты ён і ў асноўнай крыніцы Скарынавага перакладу — у чэскай Бібліі 1506 году, хоць і ў значна вузейшым аб'ёме. Пачынаючы з сваёй трэцяй кнігі праскага выданьня — Прыпавесьцяў Саламонавых (6.10.1517), Скарына падае гэбрайскія назовы ва ўсіх кнігах, за выняткам тых, якіх няма ў каноне гэбрайскай Бібліі (Ісуса Сірахава, Прамудрасьці Божай, Юдыт), а таксама названых паводле ймя (Рут й Даніілa Прарока).

З гледзішча спосабу трансьлітарацыі гэбрайскіх тэрмінаў у дзейнасьці Скарыны выразна назіраюцца два асобныя пэрыяды. Першы зь іх ахапляе кнігі Прыпавесьцяў Саламонавых, Эклезіяст, Песьню Песьняў і Кнігі Царстваў (6.10.1517—10.08.1518). У гэтым часе ў Скарынавай перадачы гэбраізмаў відаць пэўную непасьлядоўнасьць, аднак у цэлым няцяжка заўважыць схаваны за іхнымі формамі лацінскі прататып. Іхнаю крыніцаю найпраўдападобней былі лацінізаваныя формы з хрысьціянскіх экзэгетычных тэкстаў, якімі Скарына карыстаўся пры напісаньні прадмоваў: **Маслотгъ** (ЕК 1адв. — III, 386) < masloth; **Коелеѳъ** (ЕК 1 адв. — III, 386) < coeleth; **сира сирим** (ПП 1адв. — III, 422) < syra syrim; **Малахим** (ТЦ 119 — II, 354) < malachim і інш.[2] Пры гэтым назіраюцца ваганьні ў перадачы некаторых графэмаў: th (<ת) — **т г**: **Маслотгъ** (ЕК 1адв. — III, 386) і **ѳ**: **Масшлоѳъ** (ПС 2адв — III, 292), sh (<ש) — **с** і **сш** (тыя самыя прыклады). У некаторых выпадках Скарына замяняе лацінізаваную форму на традыцыйную царкоўнаславянскую (з грэцкае): **Самȣилъ** (ПЦ 5 — II, 125) (пар. лац. Samuel).

Другі пэрыяд распачынаецца выхадам Кнігі Ісуса Навіна, калі Скарынаў падыход да трансьлітарацыі гэбраізмаў кардынальным

чынам мяняецца. **Пачынаючы з гэтай кнігі й да апошняй вы-дадзенай у Празе — Кнігі Судзьдзяў, г. зн. у пэрыядзе паміж 20.12.1518 г. і 15.12.1519 г., Скарына, за рэдкімі вынияткамі, падае гэбрайскія лексэмы й цытаты ў даволі дакладнай і пасьлядоўнай фанэтычнай транскрыпцыі паводле ашкеназійскае традыцыі чытаньня гэбрайскага тэксту.**

Найбольш выразна зьмена ў прынцыпах трансьлітарацыі заўважаецца пры параўнальным разглядзе тых самых тэрмінаў, ужытых у ранейшых і пазьнейшых кнігах: **Бресшиѳ** (ПЦ 2 — II, 119) < *breshith і **Брешисъ** (КБ 94 — I, 191) < בְּרֵאשִׁית; **Геллегадборимъ** (ПЦ 2 — II, 119) < *hellehadborim і **Ельгадворимъ** (ДЗ 66 — I, 731) < אֵלֶּה הַדְּבָרִים; **Есшуе бенъ нунъ** (ПЦ 2 — II, 119) < *ioshue ben nun і **Егошуя бинъ нунъ** (ІН 5 — I, 741) < יְהוֹשֻׁעַ בִּן־נוּן; **Самуилъ** (ПЦ 2адв. — II, 120) < *Samuel і **Шмуелъ** (КБ 4адв. — I, 12) < שְׁמוּאֵל; **Малахим** (ТЦ 119 — II, 354) < *malachim і **Млохимъ** (КБ 4адв. —I, 12) < מְלָכִים; **Софтимъ**(ПЦ 2 — II, 119) < *sophtim і **Шофтимъ** (КС 48 — II, 99) < שֹׁפְטִים.

Таямнічыя новыя веды, здабытыя Скарынам у канцы 1518 году, выявіліся і ў цытаваньні гэбрайскага тэксту Торы — таксама ў больш або менш выразным ашкеназійскім фанэтычным афармленьні. Скарына тройчы ўжывае ў прадмовах непасрэдныя цытаты — кожны раз з мэтаю арыгінальна й крыху экзатычна праілюстраваць свой гістарычна-філялягічны камэнтар. Першая цытата сустракаецца ўжо ў другім абзацы Кнігі Ісуса Навіна: **Вайкра Моше Леѡшеа Бинъ Нунъ Егошуа. Се есть по руский, И назвал Моисей Ѡшеа сына Навина Исусъ** (ІН 1адв. — 1.734) Паказальна, што ў Скарынавым перакладзе адпаведнай мясьціны Кнігі Лічбаў гэты сказ выглядае крыху інача: **И назвал е Ѡзию сына Наѵина Ісъ** (ЛК 30адв. — 1.512) — з прычыны тэкстуальнае розьніцы крыніцаў перакладаў. Можна меркаваць, што фраза ў прадмове да ІН была перакладзеная *ad hoc* з гэбрайскага арыгіналу без увагі на Скарынаў тэкст, што можа сьведчыць аб наяўнасьці ў Скарыны канкрэтнай гэбрайскай крыніцы і аб прысутнасьці побач перакладніка-кансультанта. Яшчэ больш гэта пацьвярджаецца ў прадмове да Кнігі Эстэр, дзе Скарына, нібы вытанчаны эстэт, вянчае свой красамоўны гістарычна-лінгвістычны эскіз гэбрайскага этнагенэзу шчодрай цытатай. Вось яна: **Яко пишеть о том Моисей въ первыхъ книгахъ**

своихъ рекомыхъ Брешисъ, врозделении лехъ лехо гл҃а. Вайомеръ Ядонай ель Яврамъ леХъ лехо меорецехо Ѹмимоладесехо Ѹмибес явихо ель га орець ешеръ ореєко. То єстъ порускии рече гдь коавраму изыйди ѿземлѧ твоеѧ иѿродины твоеѧ иѿдому ѿца твоего, вземлю юже покажу тобѣ (КЕ 2 — 2.655). Сярод іншага зварачае на сябе ўвагу тое, што Скарына лякалізуе гэтую цытату ў іўдзейскіх каардынатах — падае назоў Кнігі Быцьця па-гэбрайску, а разам зь ім — назоў разьдзелу паводле парадку суботніх чытаньняў.

Знаёмства Скарыны з гэбрайскай Біблія́й пацьвярджаецца і ўжываньнем пры спасылцы на гэбрайскія крыніцы талмудычных тэрмінаў для абазначэньня Бібліі і асобных яе частак: Есримъ вѣ Ярба Тоестъ двадцеть ичетырехъ закону ихъ (КЕ 1адв. — 2.654); Дареасра (ПЦ 4 — 2.123) — *арам.* תְּרֵי עֲשַׂר «дванаццаць» [малых прарокаў]. Прысутнічае й згадка пра Талмуд: **Книга стго пророка божиа Даниила написана естъ воюдеи Халдеиским ѧзыком Ѧеврейскими словами. Ѧко и иные многие книги тымъ обычаемъ вних написаны суть, Наболеи Талмут то естъ Ѹчение закону или правъ Моисеовых** (ДП 4 — 3.703).

З усяго сказанага вышэй можна зрабіць выснову пра тое, што **ў пэрыяд паміж жніўнем і сьнежнем 1518 году Скарына ў Празе ўступіў у кантакт зь іўдзейскімі коламі, заручыўшыся іхнаю дапамогаю й кансультацыямі ў пытаньнях гэбрайскае філялёгіі й біблеістыкі**.

У сувязі з гэтым варта зазначыць, што не пазьней чым у 1512 годзе, незадоўга перад зьяўленьнем Скарыны ў Празе, там была заснаваная першая ў землях цэнтральна-ўсходняй Эўропы гэбрайская друкарня. У 1514 годзе да яе дзейнасьці далучыўся Гершон бэн Шломо га-Когэн (пам. 1544), заможны і ўплывовы чалавек, які заняў у ёй вядучае месца і стаўся пачынальнікам славутай у гісторыі гэбрайскага кнігадрукаваньня дынастыі Гершанідаў, адным з шэдэўраў якой сталася Праская Пасхальная Хагада (1526), неаднаразова перавыдадзеная факсымільна ў нашыя часы. На працягу некалькіх пакаленьняў друкарня нашчадкаў Гершона заставалася адной з найвыдатнейшых гэбрайскіх друкарняў Эўропы[3].

У тым самым 1518 годзе, калі Скарына пашырыў свае веды ў галіне гэбрайскай філялёгіі, з друкарні Гершона выйшла Майсеева Пяцікніжжа. Гэтае выданьне магло стацца прэтэкстам для знаёмства Скарыны з калегамі з адзінае на той час у Празе (апрача Скарынавае) нелацінічнае друкарні, а таксама непасрэднаю крыніцаю, якую ён выкарыстаў пры падрыхтоўцы наступных кніг Бібліі. Цалкам верагодна, што якраз да сваіх калегаў друкароў і выдаўцоў зьвярнуўся наш першадрукар па дапамогу ў пытаньнях гэбрайскае мовы й біблійнае тэксталёгіі.

Наяўнасьць некаторых адхіленьняў ад прынцыпаў фанэтычнае транскрыпцыі гэбраізмаў у кнігах другога пэрыяду (**ЦИНОѲЪ** (ПЕ 3 — 3.677) — праўдападобна з cynoth, а не з קִינוֹת «Плач [Ераміі]»; **ГЕЛ҄ЛЕС҄МОТ҄** (КВ 1адв. — 1.194) — з hellesmoth, а не з אֵלֶּה שְׁמוֹת) дазваляюць меркаваць, што наўрад ці Скарына валодаў гэбрайскай мовай сам — інакш гэтыя адхіленьні былі б неапраўданыя — і што ў момант падрыхтоўкі да друку адпаведных кніг ён зь нейкіх прычынаў ня мог скарыстаць з дапамогі сваіх кансультантаў.

Магчыма, меркаваньні пра гіпатэтычныя сувязі Скарыны з праскай гэбрайскай друкарняй маглі б атрымаць дадатковае пацьверджаньне ў выніку параўнаньня выданьняў абедзьвюх друкарняў з кнігазнаўчага й мастацтвазнаўчага гледзішча, а таксама вывучэньня гістарычных крыніцаў праскага гэбрайства.

Праская друкарня Гершанідаў згадвалася з розных нагодаў у скарыназнаўчых публікацыях, праўда, бяз сувязі з пытаньнямі, разгляданымі ў гэтым дасьледаваньні. Першы згадаў яе Ё.Добраўскі ў 1796 годзе, даводзячы чэскую лякалізацыю Скарынавай Прагі як прыклад выгаднейшага разьмешчаньня друкарні ў Чэхіі дзеля друку кніг для Польшчы[4]. У той самай сувязі — дзеля высьвятленьня прычынаў выбару Прагі Чэскай для сваёй друкарскай дзейнасьці — разглядае гэтае пытаньне, праўда, больш падрабязна, А.Флароўскі ў працы «Чешская библия в истории русской культуры и письменности»[5]. Між іншым, згадвае ён і пра выдадзенае ў 1518 годзе Пяцікніжжа — як помнік высокага паліграфічнага майстэрства, што зноў жа сьведчыць пра высокі ўзровень друкарскае справы ў Празе. Згадку пра Пяцікніжжа паўтарае ў адной з працаў і дасьледнік расейска-чэскіх культурных кантактаў А.Мыльнікаў[6]. Даволі дзіўнае выказваньне на разгляданую тэму сустракаецца ў грунтоўнай манаграфіі Я.Неміроўскага: «В 1521-1522 гг. документы упоминают о еврей-

ском типографе Майере. Может быть, именно он в 1513 г. напечатал первую еврейскую книгу в Праге»[7]. На жаль, аўтар не падае крыніцы гэтае згадкі, і таму застаецца няясным, што за асоба й што за падзеі меліся на ўвазе.

Адзіны аўтар, які разглядае гэбраістычныя й кабалістычныя элемэнты ў творчасьці Скарыны і дапушчае ў сувязі з гэтым наяўнасьць адпаведных кантактаў у Празе, — лёндански дасьледнік Гай дэ Пікарда. У сваіх працах[8] ён, аналізуючы тэксты й гравюры праскіх выданьняў, спрабуе выявіць уплывы на Скарынаву творчасьць сакрэтнае дактрыны, а таксама гэбрайскага фальклёру й дэманалёгіі. Багатая эрудыцыя й інтуіцыя аўтара будуюць шэраг цікавых і шмат у чым справядлівых гіпотэзаў. На жаль, недастатковая абгрунтаванасьць сьмелых і арыгінальных меркаваньняў дасьледніка сталася прычынаю няўвагі да іх як скарыназнаўцаў, гэтак і кабалістаў.

Зьяўленьне элемэнтаў гэбрайскае філялёгіі й біблеістыкі ў творчасьці Скарыны дастаткова выразна абумоўленае тагачасным эўрапейскім ідэалягічным кантэкстам. Эпоха Адраджэньня ня толькі абудзіла інтарэс эўрапейскага грамадзтва да антычнасьці й клясычных старажытнасьцяў. У сувязі з насьпяваньнем пераменаў у рэлігійным жыцьці, якія пазьней прывялі да шырокага рэфармацыйнага руху, пазначыўся новы пагляд на Сьвятое Пісаньне, што, сярод іншага, выявілася ў павышэньні цікавасьці да арыгінальнага гэбрайскага тэксту й да гэбрайскай філялёгіі[9]. Адным зь піянэраў хрысьціянскае гэбраістыкі й заўзятым зьбіральнікам гэбрайскіх рукапісаў быў Піка дэля Мірандала (1463-1494), які пэўны час жыў у Падуі і зь дзейнасьцю якога бясспрэчна быў знаёмы Скарына.

Іншым славутым сучасьнікам Скарыны быў нямецкі гуманіст Ёган фон Ройхлін (1455-1522), заснавальнік хрысьціянскае навуковае гэбраістыкі[10]. Важнай падзеяй эўрапейскага інтэлектуальнага жыцьця пачатку XVI стагодзьдзя сталася спрэчка паміж Ройхлінам і выхрыстам-юдафобам Пфэфэркорнам у 1509-1520 гадох аб значэньні гэбрайскае кніжнае й філязофскае культуры для хрысьціянскае тэалёгіі, выкліканая апублікаваньнем эдыкта імпэратара Максымільяна аб зьнішчэньні ўсіх гэбрайскіх кніг. Умяшаньне Ройхліна, які пераканаў імпэратара, што Талмуд, Зогар, розныя экзэгетычныя камэнтары ды іншыя гэбрайскія кнігі ня маюць у сабе ніякай ерасі й не скіраваныя супраць хрысьціянства, сталася пачаткам шматгадовае спрэчкі

гуманістаў і абскурантаў, гэтак званай «Вайны Кніг», у якую быў уцягнуты увесь эўрапейскі вучоны сьвет.

Вось жа гэбрайскія элемэнты ў творчасьці Скарыны, а такcама ягоныя магчымыя кантакты з гэбрайскімі друкарамі й навукоўцамі ў Празе выглядаюць відавочным адгалоскам гэтае ідэалягічнае дыскусіі, выразным сьведчаньнем гуманістычнае пазыцыі Скарыны, прызнаньнем бясспрэчнае каштоўнасьці духовае спадчыны Народу Кнігі для эўрапейскае, а значыць, і беларускае культуры.

## СПАСЫЛКІ

1 Гл., напр., Лабынцаў Ю. Пачатае Скарынам. Мн., 1990. С.130; Немировский Е. Франциск Скорина. Мн., 1990. С.346, 351; Жураўскі А. Асветніцкая і педагагічная дзейнасць Ф.Скарыны // Францыск Скарына і яго час. Мн., 1988. С.248. Пытаньні дыялектнае асновы трансьлітарацыі гэбрайскіх тэрмінаў у выданьнях Скарыны ў супастаўленьні з лацінскімі й чэскімі крыніцамі разглядаюцца ў працы Мошэ Альтбаўэра «Элемэнты ашкеназійскага дыялекту гэбрайскай мовы ў кірылічнай транскрыпцыі зь І-ай паловы XVI ст.»:
משה אלטבאואר. יסודות של עברית אשכנזית בתעתיק קירילי מהמחצית הראשונה
של המאה הט״ז (Jerusalem, 1982).

2 У гэтых прыкладах лацінскія формы для параўнаньня ўзятыя з камэнтару Мікалая Лірана паводле выданьня: Prima pars Lyre. Libri biblie cum postillis additionibus et replicis contenti in prima parte Lyre. [Nürnberg, 1497]. Аднак Скарынавы формы не заўсёды адпавядаюць формам, ужытым як у камэнтары Лірана, гэтак і ў чэскай Бібліі 1506 г.: **вайкра** (ПЦ 2 — 2.119) < *vaicra - vaiecra (Lyre) - Vagethra (1506); **вайдабберъ** (ПЦ 2 — 2.119) < *vaidabber - vaiedaber (Lyre) - Wagedaber (1506); **геллегадборимъ** (ПЦ 2 — 2.119) < *hellehadborim - ellcaddaberim (Lyre) - Eleaddaberim (1506); **дибре гаіоминъ** (ПЦ 2 адв. — 2.120) < *dibre haiomin - dabreiamim (Lyre) - Dabreyaným (1506), што сьведчыць пра выкарыстаньне Скарынам іншае, нявёдамае нам крыніцы.

3 Hebrew Printing in Prague // Encyclopedia Judaica. Jerusalem, s.d. Vol.13. Col.976.

4 Dobrowsky J. Litterarische Nachrichten von einer auf Veranlassung der böhm. Gesellschaft der Wissenschaften im Jahre 1792 unternommenen Reise nach Schweden und Russland. Prag, 1796. S.102.

5 Флоровский А. Чешская библия в истории русской культуры и письменности // Sbornik filologický XIII. Praha, 1940-1946. S.196.

6 Мыльнікаў А. Ф.Скарына і чэшскае кнігадрукаванне // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968. С.189.

7 Немировский Е. Франциск Скорина. Мн., 1990. С.225.

8 Picarda G. Francis Skaryna and the Cabala. London, 1992; Idem. The Allegorical Heraldica of Francis Skaryna. London, 1992.

9 Сваё стаўленьне да гэбрайскага арыгіналу Біблії Скарына даволі выразна выказаў у Першай прадмове да кнігі Ісуса Сірахава: оскудеють слова еврейская, внегда будуть преложена воинъший язык. Нетокмо убо сама сия книга, но изаконъ ипророци иины е всакие книги немалую имають разность егда съединаго языка водругый прекладаются (ІС 2 — 3.511).

10 У 1506 годзе ён выдаў першую грунтоўную гэбрайскую граматыку, напісаную хрысьціянінам (Rudimenta hebraica. Pforzheim, 1506), у якой у аснову далейшай хрысьціянскай гэбраістыкі была пакладзена сэфардзкая фанэтычная традыцыя. Перадача гэбраізмаў у ашкеназійскім фанэтычным афармленьні дае больш шанцаў вэрсіі пра жывы іўдзейскі кантакт Скарыны з гэбрайскай мовай, чым пра кніжны хрысьціянскі. Аб адрозьненьні сэфардзкага й ашкеназійскага вымаўленьня гэбрайскае мовы гл.: Pronunciation // Encyclopedia Judaica. Jerusalem, s.d. Vol.14. Col.124.

# КІТАБ З ФОНДАЎ КАЗАНСКАГА ЎНІВЭРСЫТЭТУ (№1446)

Беларускія татары кітабамі называлі ня кожную кнігу, а толькі рукапісныя зборнікі пэўнага складу, у якіх сабраныя гісторыі прарокаў, легенды, усходнія казкі маральна-выхаваўчага зьместу, апісаньні абрадаў, рытуалаў, а таксама асноўных абавязкаў мусульманаў.

Кітаб, які захоўваецца ў фондах бібліятэкі Казанскага Ўнівэрсытэту (сыгнатура 1446; далей у тэксьце — КУ-1446), належыць да ліку найстарэйшых рукапісаў гэткага роду. На думку А.Антановіча, які знайшоў і апісаў гэты кітаб, ён быў перапісаны ў сярэдзіне XVII ст. з арыгіналу канца XVI — пачатку XVII ст.[1]

Старабеларускі тэкст у кітабе КУ-1446 займае 35 аркушаў (ад 41 да 76; аркуш 42 згублены); на старонках тэкст разьмешчаны ў дзьве калёнкі («а» і «б» у трансьлітарацыі). Тэкст рукапісу можна падзяліць на дзевяць частак:

1. 41б-55а — тлумачэньне, як карыстацца «аракулам», і сам «аракул» або варажбітная кніга.
2. 55б-59б — павучаньне аб малітве й тлумачэньне яе значнасьці.
3. 60а-61а — аб прамудрасьці Божай.
4. 61а-62а — аб спакушэньні чалавека сатаною (шатанам) і аб анёльскай апецы.
5. 62а-64а — напамін аб сьмерці.
6. 64а-67б — размова Мусы (Майсея) з Богам.
7. 67б-72б — прыповесьці аб усемагутнасьці Божай.
8. 72б-74а — дыспут мусульманіна зь іўдзеем.
9. 74а-76б — дыялёг Мухамада з шатанам.

Мяркуючы з аб'ёму гэтага тэксту ў іншых кітабах (І.Луцкевіча XVIII ст., А.Карыцкага XIX ст., Я.Лебедзя 1771 г.), можна сказаць, што ў нашым рукапісе нестае 4-5 старонак згаданага дыялёгу Мухамада з шатанам, які абрываецца ў сярэдзіне сказу[2].

Межы паміж часткамі выразна вызначаныя ня толькі зьместам, але й афармленыя графічна. Так, частка заўсёды канчаецца словамі «амин» або «конец», а другая пачынаецца «в китабе так пише». (У дужках у нашым трансьлітараваным тэксьце падаем умоўнае найменьне гэтых частак.)

Упершыню даецца поўная публікацыя трансьлітараванага тэксту кітаба КУ-1446, якая, апрача літаратурна-пазнавальнага, мае й важнае гістарычна-філялягічнае значэньне як каштоўны помнік жывой старабеларускай мовы.

В.Чэкман у сваім артыкуле «Варажбітная кніга Хадыны з кітаба КУ-1446», не адмаўляючыся ад падрабязнага вывучэньня графікі арыгіналу з мэтай выкарыстаць яе для вызначэньня даты напісаньня помніка, выяўленьня асаблівасьцяў правапісу паасобных перапісчыкаў, запрапанаваў крыху спрасьціць трансьлітарацыю, што спрыяла б хутчэйшаму й больш плённаму прачытаньню тэксту й не ўскладніла б яго моўнага аналізу, і выканаў трансьлітарацыю «аракула» (арк.41б-55а)[3].

Дэталёва разгледжанае ўжываньне знакаў для перадачы зычных і галосных гукаў у кітабе ЛУ-893 і КУ-1446 дазволіла Г.Мішкінене абагульніць яго ў табліцах 1 і 2[4].

Улічваючы неабходнасьць азнаёміць з тэкстам кітаба магчыма шырэйшае кола чытачоў, у прапанаванай публікацыі былі дапушчаныя гэткія ступені адаптацыі тэксту: 1) спрашчэньне сыстэмы трансьлітарацыі; 2) распадзел паміж фанэмамі *о* і *у*, графічная фіксацыя якіх у арыгінальным тэксьце непасьлядоўная; 3) падзел тэксту на словы й сынтагмы.

Разам з тым, у задачу гэтае публікацыі не ўваходзіла распрацаваньне прынцыпаў трансьлітарацыі, якія б дазволілі цалкам пазьбегнуць элемэнтаў суб'ектыўнасьці пры інтэрпрэтацыі арыгінальнага тэксту.

Усе арабскія, турэцкія й пэрсідзкія формулы й паасобныя тэрміны падаюцца паводле прынцыпаў трансьлітарацыі, ужытых для перадачы беларускага тэксту. Іх пераклад і тлумачэньні выкананыя выкладчыкам арабскае мовы Цэнтру арыенталістыкі пры Віленскім Унівэрсытэце сп. Э.Рачусам, якому мы шчыра дзякуем.

Падрабязны камэнтар да публікаванага тэксту будзе зьмешчаны ў асобным дасьледаваньні, прысьвечаным мове кітаба КУ-1446.

*Галіна Александровіч-Мішкінене*
*Віленскі Ўнівэрсытэт, Вільня*

Табліца 1. Зычныя

| Ізаляваная | Пачатная | Сярэдняя | Канцавая | Гукавае значэньне | Трансьлітарацыя |
|---|---|---|---|---|---|
| ب | بـ | ـبـ | ـب | б, б' | б |
| ࢯ | ࢯـ | ـࢯـ | ـࢯ | ц | ц |
| ح | حـ | ـحـ | ـح | х | х |
| خ | خـ | ـخـ | ـخ | х | х |
| چ | چـ | ـچـ | ـچ | ч | ч |
| د | د | ـد | ـد | д, дз' | д |
| ࢮ | ࢮ | ـࢮ | ـࢮ | дз' | дз́ |
| ج | جـ | ـجـ | ـج | дж | дж |
| ف | فـ | ـفـ | ـف | ф | ф |
| غ | غـ | ـغـ | ـغ | ґ, ґ' | ґ |
| ه | هـ | ـهـ | ـه | г, г' | г |
| ى | يـ | ـيـ | ـى, ـي | й | й |
| ق | قـ | ـقـ | ـق | к | к |
| ك | كـ | ـكـ | ـك | к' | ќ |
| ل | لـ | ـلـ | ـل | л, л' | л |
| م | مـ | ـمـ | ـم | м, м' | м |
| ن | نـ | ـنـ | ـن | н, н' | н |

йешче цō тō кōгō пан бōг звезал | йешче цō тō кōгō пан бōг резвазал | йешче цō тō чеѓо пан бōг не знайеѓ || йакō тийе слова жид вуповедал | хацим йеćем рек | жиде | йеćли йа тӣ слōва ōпōведанйе твойо слӯшне ōдѓадни | ōдпōвим на тō з навуќи | тӣ дō вари муćулманćкōйи чи прийедеш зароз || и жед рек | зараз прийду дō иману || пōтōм тō й хатим пōчал ōдпōведаѓи тōму жиду || напрōд пан бōг не ма тōгō у ćебе кривди жлийи

73б никōму не чини | друѓу| в скарбе пан бōг свом не майе нитќи недостаѓку | пан бōг мōжний пан ни в кōго ниц не потребуйе | треѓа | чегō пан бōг у лудей хце | тō йеćѓ пан бōг хце | цōбӣ луди майеѓнийе пана бōга ра дōвали | уво йма бōжйо скарбу свойего убōгим дова ли | йалмужнӯйӯ и деćеѓину | чварта | кōгō пан звезал | тō йеćѓ звезал умислōм злим и варōйу злōйу жи вот йего запечатōван звазан | патейа | цō йеć кōгō пан бōг резвезал | тō йеćѓ хтō прийде дō ва ри дōбрōйи стōйи злōй | тōгō пан бог резве зал умуслōм а варойу дōбройу даćѓ муćулма нćкӯйӯ | шōстайа | цō йеćѓ чōгō пан бōг не знайе | пан бōг не знайе у ćебе деѓей | ни сина ни дōчќи || ни рōвни сōби никōго так жид слӣшōнц иж йему так слӯшне на вćō ōдповедал с к[у]ра новух айеѓов з навуќи || ѓеѓо часу пришед

74а дō вари муćулманćкōйи | йман пӣл и узнал пана бōга йединога прōрōке мухаме́да || кōнец ||

## [Дыялёг Мухамада з шатанам]

у шуруту селоѓу пишеѓ || прōрōк мухаммед мō вил | пане бōже | проше ѓебе | рескажи шетану сō мнōйу нехай мōвиѓ | ō штō йа йегō буду пӣтаѓ | нехай мне правду на вćō тō откажеѓ з навуќи с курана || пан бōг рек | дōбре | кажу нехей с тōбойу мōвиѓ уćо правдиво з навуќи || пан рек | шетане ресказуйу тōби пōд стрōгом керанйōм мōйим |

што бӣ йес́и ӯс́ӯ правду о̄ткезувал | што̄ буде у т́ебе пӣтат́ про̄[ро̄]к мо̄й мухаммед | бо̄ то мой мило̄с́ник велиḱий йес́т́ || шетан рек | пане бо̄же | мушу стро̄г̄о̄с́т́и твойи бо̄ йечис́е правду з́ ним мо̄вит́ | але йа би не хо̄т́ил што̄ у мене хто̄ навуḱи училс́е | нехей пӣтайет́

74б буду мо̄вит́и || шетан пришедши кличе пророке | това риши о̄бачили и рекли | сподару про̄ро̄че | але барздо̄ шпатна и страшна створенйо̄ т́ебе кличет́ || про̄ ро̄к рек | бо̄ то̄ шетан йес́т́ || то̄вариши рекли | спо̄да ру про̄[ро̄]че | н[а]в[у]к[й] йего отрекайуца ажно̄ зла реч || про̄ро̄к мухаммед рек | напро̄д ти шетан дет́и твойи хто йес́т́ || шетан рек |про̄роче дет́и мо̄йе то̄ йес́т́ хто̄ блӯд чинат́ | грешних речей нес́т́ерогут́ца || йешче про̄ро̄к пӣтал| шетане войс́ко̄ твойо̄ хто̄ йес́т́ || шетан рек | войс́ко̄ мо̄йо т́ийе | хто̄ пашнӯ купивши да до̄ро̄жини жджет́ || йешче про̄[ро̄]к пӣтал | шетане т́ебе и т́ело̄ твойо хто̄ рესто̄пит́ и чим а чим ресто̄ пит́ || шетан рек ѓазийо̄в рицелс́ḱийе ко̄ни | ирзанйо и потуп ко̄нс́ḱий то̄ мене и т́ело̄ мо̄йо ресто̄пит́ так | йак о̄ло̄во ресто̄пит́ ||

75а йешчо̄ про̄ро̄к пӣтал | шетане т́ебе хто̄ а ко̄ли задавит́ поврозо̄м за шийӯ || шетан рек про̄ро̄че мене задавит́ за шийу | ѓди навчо̄нийе луди зас́адут́ а будут́ з навуḱи резмовлат́ || йешче про̄ро̄к пӣтал | шетане т́ебе по̄йма вши черевико̄м хто̄ бийет́ по̄ виденйу || шетан рек | мухаммеду мене тийе луди по̄ймавши бийут́ по̄ виде нйӯ черевико̄м | ко̄то̄рийе луди на гришно̄йо̄ не гледат́ часто̄ | мене тийе бийут́ по̄ виденйӯ черевико̄м || йешчо̄ про̄рок пӣтал | шета не т́ебе на штуḱи по̄с́ечет́ хто̄ то̄ а ко̄ли то̄ бӣвайет́ || шетан рек | про̄роче мене на штуḱи пос́екут́ тийе луди | хто̄ ус́егди пана бо̄га хвалит́ и часто̄ бо̄га успо̄мина йет́ || йешчо̄ про̄ро̄к пӣтал | шетане

75б т́ебе у перс́т́и нутр твой рōжнōм хтō пребива йет́ || шетан рек | прōроче мене тийе луди нутр мōй рōжнōм пребивайут́ | кōтōрийе луди дō немаз́у квапет́ца и в першōм сафе[1] ради станут́ при шедши || йешчō прōрōк пӣтал | шетане твойи с́ветийе велеќийе навчōнӣ луди хтō йес́т́ || ш[е]тан | мухаммеду мōйи велиќийе навчонийе с́ветийе луди | ктōрийе питийе хмелнōйō предайут́ и шинкуйут́ | и кōтōрийе луди резберут́ тō мōйи шейхōве навчōнийе || йешче прō[рō]к пӣтал | шетане твойа братӣа рōжōнайа хтō йес́т́ || штан рек | прōрōче мōйа братӣа рōжōна йа тō йес́т́ луди | кōтōрийе луди лудей ради резгневи т́и | и тийе луди | хтō прōт́ив пōлудна вит́рӯ видит́

76а и стōйечи вит́ру видит́ и прот́ив месеца и сōнца вит́ру видит́ | тийе немōвивши бисми ллаги | немовивши пана бōга | невеспōмневши пана бōга вит́ру видит́ | и тийе свойих мōчет́ца нес́т́ерогут́ца | и тийе хтō менвегō джунуб[2] хōдит́ нечистим | и тийе кōтōрийе не ōбачне и недбале т́илō свойо укезуйут́ | иле тийе шлӯнки кōтōрийе грех оказуват́ | и т́ийе луди хтō там на т́их гледит́е | тō тийе вушпō менōнийе луди братӣа мōйа рōжōнайа и милайа || йешче прōрōк пӣтал | кōтōрих учинков лудќих нелӯбиш и нехōчеш штōб луди чинили || шетан рек | прōрōче мухаммеду тōгō учинку нелублу | кō[то]рий члōвек ставши кӯшлук[3] немаз́ будет́ пет́и | и тих лудей велми нелублу |

76б кōтōрий члōвек з навуќи бōгōмōлство чинит́ | йа т́их лудей никōли не могу звес́т́и | пōдōбнō волни тийе луди ōт мене будут́ || шетан рек | прō[рō]че йа дет́ей с войих пōсилайӯ и кажу пилнōват́и | гди купци тōвари прадайут́ | йес́ли кōтōрийе фалчиве прадайут́ | т́о йес́т́ ваги незаважит́ | лōкт́а недомирит́ | бōчќи недōмирит́ | т́еди мōйи тōйо сōби воз́мут́ | тӯм хтō фалчиве воз́

1 Рад, лінія.
2 Нячысты (з прычыны нейкага фізычнага выдзялення).
3 Малітва раніцою.

мут́ про̄дал ко̄рис́т́и небудет́ | и спо̄ру йим с то̄ рго̄вли небудет́ | и греху мно̄го̄ будет́ || йешче про̄ро̄к пӣтал | шетане твойи вернийе милӣйе то̄вариши хто̄ йес́т́ || шетан рек | про̄роче мо̄ йи вирнийе милӣйе то̄вариши судӣи | ко̄то̄рийе по̄сул берут́ | и за посуло̄м и сто̄ро̄не хо̄ч неправа правойӯ учинит́ | бо̄жо̄йо̄ право и твой

шери‘ат́ [...]

## СПАСЫЛКІ


[1] Антоновіч А. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. Вильнюс, 1968. С.120-131.

[2] Антоновіч А. Краткий обзор белорусских текстов, писанных арабским письмом // Полесье. 1967.

[3] Чекмонас В. Гадальная книга Ходыны из китаба КУ-1446 // Kalbotyra. Т.36(2). Vilnius, 1985. P.99-107.

[4] Мишкинене Г. К проблеме транслитерации китаба ЛУ-893 // Kalbotyra. Т.42(2). Vilnius, 1990. P.64-69.


*Апрацоўка тэксту й публікацыя*
*Галіны Александровіч-Мішкінене.*

# З УСПАМІНАЎ ПРА ВАЦЛАВА ЛАСТОЎСКАГА

Біяграфічных матэрыялаў пра беларускага навукоўца, пісьменьніка, публіцыста й палітычнага дзеяча Вацлава Ластоўскага маем вельмі мала. Дзеля гэтага асабліва важныя тыя пра яго весткі, якія ў сваіх успамінах падалі дзьве ягоныя дочкі — Ганна (па-літоўску Она) і Стася. Успаміны Ластоўшчынак напісаныя па-літоўску ўжо ў паваенным часе. Яны былі апублікаваныя ў віленскіх выданьнях. Хоць галоўная ўвага ва ўспамінах скіраваная на матку, Марыю Ластоўскую, ведамую літоўскую пісьменьніцу, але ёсьць у іх цікавыя факты й пра бацьку — Вацлава Ластоўскага.

Жонка Ластоўскага, Марыя Ластоўская, свае апавяданьні публікавала пераважна пад супольным зь сястрой Зофіяй, таксама пісьменьніцай, псэўданімам Lazdynų Pelėda. У гісторыі літоўскай літаратуры іхная творчасьць дзеля гэтага звычайна разглядаецца пад гэтым псэўданімам разам.

Марыя нарадзілася 1 чэрвеня 1872 году ў Шаўлях на Жамойці. Ейны бацька Нікадэм, як можна меркаваць зь ягонага беларускага прозьвішча — Іваноўскі — паходзіў зь беларускай апалячанай шляхты. Непадалёк ад Шаўляў Іваноўскі меў невялікі дварок Парогі (Paragiai). Быў ён мастаком, малярства вучыўся ў Мюнхене. Нікадэм Іваноўскі летуцеў пра кар'еру мастака, сёе-тое й маляваў, але ладзіць гаспадарчыя справы свайго занядбанага дварка ня ўмеў. Марыя, як і пяць гадоў старэйшая за яе сястра Зофія, не атрымалі ніякай сыстэматычнай адукацыі — вучыў, што ўмеў, сам бацька. Дочкі зачытваліся польскай сэнтымэнтальнай літаратурай, зь яе галоўна й чэрпалі сваю веду пра сьвет і жыцьцё.

У 1888 годзе Марыя вучыцца ў Шаўлях шыцьця, пасьля ж, ад 1890 году, яна працавала ў Варшаве ў цётчынай кравецкай майстроўні, у якой шыліся аздобы жаночае вопраткі. У 1898 годзе Марыя пераяжджае ў Пецярбург, там працуе ў кравецкай майстроўні. У 1901 годзе яна ўладжваецца на працу ў пэпээсаўскай чытальні (PPS — Polska Partia Socjalistyczna). Гэтым часам Марыя знаёміцца з студэнтам Вацлавам Ластоўскім ды знаходзіць прыстанішча ў чытальні й для яго. У 1903 годзе яны набраліся.

Калі ў 1905 годзе ў Ластоўскіх нарадзілася першая дачка — Ганна, Марыя з дачкой і мужам едзе да бацькоў, у Парогі. Пару гадоў пасьля ў пошуках працы яна наехала ў Рыгу. Стуль у 1908 годзе Ластоўскія пераяжджаюць у Вільню, дзе муж дастаў працу ў рэдакцыі беларускай газэты «Наша Ніва». Вясной 1910 году родзіцца другая дачка — Стася.

Друкуюцца тут у перакладзе на беларускую мову тыя часткі ўспамінаў дзьвёх сясьцёр Ластоўшчынак, у якіх увага скірананая галоўна на іхнага бацьку Вацлава Ластоўскага. Друкуюцца таксама ўспаміны пра Ластоўскага літоўскага паэта-пісьменьніка Людаса Гіры.

*Р.Максімовіч*
*Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, Нью Ёрк*

# УСПАМІНЫ ПРА ЛАСТОЎСКІХ-БАЦЬКОЎ

## Ганна (Она) Ластоўшчынка-Главацкая

Нарадзілася я ды ўсё маё маленства прабыла ў Парогах (двор дзеда аўтаркі па матцы, Нікадэма Іваноўскага, у павеце Шаўлі, воласьці Трышкі, на Жамойці.— *Заўв. перакл.*). Ад часу, калі я пачала помніць, сёстры-пісьменьніцы абедзьве жылі ўжо ў шырокім сьвеце: маці з бацькам у Пецярбургу, а цётка Зофія, якая тады была ўжо ўдавой, у Вільні. У Парогах жыў дзед, бабка, дачка цёткі Зофіі Міля й я. Толькі летнім часам, дый то ненадоўга, прыяжджалі маці, бацька, цётка Зофія, дзядзька Густаў (брат Марыі Ластоўскай.— *Заўв. перакл.*), які студыяваў у Дорпаце вэтэрынарыю, ды сын цёткі Зофіі Стась, які вучыўся ў Вільні.

...........................................................................................

Аднаго дня прыйшоў ліст зь Вільні, дзе жылі мае бацькі. Яны паведамлялі, што ў хуткім часе прыедуць у госьці зь нядаўна народжанай дачушкай Стасяй (нарадзілася 2 жніўня 1910 году.— *Заўв. перакл.*). У доме ўзьнялася мітусьня. Бабуля зь Міляй бегалі па ўсім доме, рыхтаваліся сустрэць дарагіх гасьцей. У доме запахла сьвежасьпечанымі пірагамі ды рознымі стравамі. Я нецярпліва чакала, хацела пабачыць сваю сястрыцу. Госьці прыехалі ўначы, і толькі раніцай, калі я прыбегла ў салён, пабачыла сіні вазок, у якім сядзела й сьмяялася прыгожая малая

O.Lastauskaitė-Glovackienė // Literatūra ir kalba. VI. Lietuvos TSR Mokslų akademija. Lietuvių kalbos ir literatūros institutas. Vilnius, 1962.

дзяўчынка зь сьветлымі кучаравымі валосікамі й вялікімі цёмна-рудымі вачыма.

Разам з маімі бацькамі леткаваць прыехала й цёця Зофія з сваім сынам Стасем. Прыехаў і дзядзька Густаў. Дом цяпер быў поўны людзей, сьмеху. Зьехаўшыся, госьці апавядалі розныя навіны і, успомніўшы недалёкае мінулае, любілі пагаварыць пра рэвалюцыйны рух у Пецярбурзе, у якім удзел брала й мая маці. Дзед і бабка, з свайго боку, апавядалі пра паўстаньне 1863 году, у якім быў дзед і бабулін бацька ды ейныя браты...

Але і ў мілы летні час, калі ў Парогах зьбіраліся ўсе блізкія, жыцьцё ў доме йшло далей сваім ладам... Ніхто нікога не турбаваў, кожны знаходзіў сабе занятак, і сустракаліся толькі пры стале ды вечарамі, калі дзённыя справы канчаліся, і ўсе сабраўшыся вялі гутаркі на розныя тэмы. Днём маці й цёця пакрысе пісалі ды дапамагалі ў хатняй працы бабулі.

Мой бацька, які ад маладых гадоў вельмі цікавіўся гісторыяй, шмат часу праводзіў на гары дому, дзе стаяла вялікая скрыня з старадаўнымі дакумэнтамі. Дакумэнты былі вельмі старыя, некаторыя сягалі пачатку пятнаццатага стагодзьдзя. Напісаныя яны былі старой мовай славянскай (найпраўдападобней старабеларускай.—*Заўв. рэд.*), мовай лацінскай і старой мовай польскай. Лісты паперы былі пажаўцелыя ад часу. Цімала дакумэнтаў было напісана на пэргамэнце, яны былі перавязаныя моцнымі шнуркамі, на якіх віселі вялікія чырвоныя пячаткі. Бацька любіў заглыбляцца ў сівую мінуўшчыну, умеў чытаць гэтыя дакумэнты. Вечарамі, калі ўсе зьбіраліся ў агульным пакоі, ён цікава апавядаў пра свае дасьледаваньні.

Гэтак непрыкметна праходзіла лета, а ўвосень дом у Парогах ізноў пусьцеў, сьціхаў і вечарамі ў бабуліным пакоі зьбіралася невялікая толькі сямейная грамадка, чакала чарговага лета.

Так менш-больш паўтаралася кожны год.

.................................................................................................

У 1912 годзе бацькі пасьля летніх вакацыяў павезьлі ў Вільню й мяне. Першы раз у жыцьці давялося расставацца зь мілымі дзядулем і бабуляй ды ўсімі куткамі дому й саду ў Парогах.

Нашае намешканьне ў Вільні (на вуліцы Завальнай, 4.— *Заўв. перакл.*) было вельмі малое, з аднаго толькі пакою, вокны якога выходзілі насупроць сьцяны другога дому. У кухні, якая зусім ня мела вокнаў, днём гарэла электрыка. Цёця Зося жыла на той самай вуліцы, колькі дамоў далей, у паўпадвале, у якім мела

пакойчык з кухонкай. Да нас яна заглядала блізу кажны дзень, дый мы, дзеці, часта да яе забягалі. Нашае памешканьне ў Вільні было вельмі заваленае, бо бацька, які любіў старасьвеччыну й мастацтва, хоць грошаў і нетавала, часта хадзіў на «таўкучку», дзе між рознага старога хламу часам знаходзіў за невялікую цану й запраўдныя мастацкія каштоўнасьці. Усе сьцены пакою былі пазавешваныя старымі абразамі, за што вельмі злаваўся собсьнік дому, бо, вешаючы абразы, даводзілася ўбіваць у сьцяну цьвікі.

Сярод гэтых абразоў было сёе-тое з галяндзкага й старога расейскага мастацтва. Над ложкам вісела вельмі добрая копія Вэляскеса, партрэт папы Інацэнта. Позірк папы быў вельмі няветлы, і я, калі была малая, яго баялася. Калі хварэла на водрыцу, я прасіла перавярнуць абраз тварам да сьцяны, каб папа на мяне не глядзеў. Ля сьцяны стаяў старавечны пісьмовы столік з скрытнымі шуфлядкамі, якія можна было адчыніць толькі ведаючы дзе ды як націснуць схаваныя кнопкі. Ля стала стаяла старасьвецкая, незвычайна прыгожая калыска. Яна была гэткая вялікая, што я, хоць хадзіла ўжо ня першы год у школу, магла ў ёй свабодна ляжаць. Калыска мела прыгожа ў дрэве выразаныя, у барокавым стылі, гірлянды з кветак і пладоў. Лежачы ў калысцы, было цікава глядзець праз ажуровыя шчылінкі між лісьця й пладоў. Софа, стол ды ложкі былі прыкрытыя каляровымі народнымі дыванамі.

У справах, зьвязаных з сваёй працай, бацька часам мог паехаць на правінцыю. У часе гэтых падарожжаў ён зьбіраў старыя дакумэнты, слуцкія паясы, якія зарысоўваў па старых манастырох, беларускія народныя тканіны, разьбу ў дрэве ды іншыя вырабы народнага мастацтва.

Нашае памешканьне было пры беларускай кнігарні. Адны дзьверы выходзілі на панадворак, другія — у самую кнігарню. У кнігарні часткова мясьцілася й рэдакцыя беларускай газэты «Наша Ніва», у якой працаваў бацька. Пры кнігарні, у вялікім падвале, быў склад кнігаў. У ім уздоўж сьценаў стаялі паліцы зь неразьвязанымі пачкамі кнігаў, частка іх ляжала проста на зямлі, і яны часам служылі за крэслы. Пасярэдзіне падвалу стаяла невялікая круглая зялезная печка, якую вечарамі распальвалі й ставілі на ёй чайнік. Сюды вечарамі й сыходзіліся бацькавы знаёмыя, бо памешканьне было цеснае і, калі дзеці клаліся, чужым не было як зайсьці.

Заглядалі сюды беларускі паэт Янка Купала, пісьменьнік Зьмітрок Бядуля, пісьменьніца Цётка (Пашкевіч). Прыходзіла цётка Зося, рэдчас наведваў добры цётчын прыяцель Людас Гіра (літоўскі паэт-пісьменьнік. — *Заўв. перакл.*). Заўсёднымі госьцьмі былі дзьве маладыя дзяўчыны — Уладыслава Станкевічанка й Канстанцыя Буйла. Яны бралі таксама актыўны ўдзел у літаратурных дыскусіях. К.Буйла гэтым часам ужо выдала зборнік вершаў («Курганная кветка», Вільня, 1914. — *Заўв. перакл.*), і У.Станкевічанка, якая працавала ў дзіцячым садку, пісала апавяданьні для дзяцей.

Літараты, сабраўшыся, чыталі свае новыя творы, абменьваліся думкамі. У падвале было ўтульна, ад печкі разыходзілася прыемнае цяпло, электрычная лямпачка зырка асьвятляла памешканьне. Часам на печцы заміж чайніка варылася ў гаршку бульба, якую елі з кішонымі агуркамі ці зь селядцамі, бо на лепшую пачостку ніхто з прысутных ня меў сродкаў. Але гэта нікому не псавала настрою. У гэтым падвале чыталася першы раз шмат каштоўных твораў. І мне хацелася пасядзець вечарамі з дарослымі, на жаль, мяне хутка высылалі спаць, бо раніцай трэ было ўставаць, ісьці ў школу.

......................................................................................

Бацька ня толькі працаваў у рэдакцыі газэты «Наша Ніва», але быў і ейным супрацоўнікам. Апрача таго, ён пачаў пісаць дзьве капітальныя навуковыя працы: гісторыю беларускай кнігі й расейска-беларускі слоўнік. Рэдакцыя была небагатая, бацька дастаў ледзь 15 рублёў у месяц. За літаратурную працу супрацоўнікам плацілі таксама мала, а бацькава навуковая праца вымагала шмат часу й дарабляць збоку не было калі.

Маці, хочучы дапамагчы бацьку ўтрымваць сям'ю, узялася таксама за працу, яна ўмела прыгожа шыць. Працавала дома. Заказы даставала зь вялікай працоўні жаночай вопраткі Герца. Працоўня маму вельмі цаніла, бо яна ня толькі шыла, дабіраючы з густам колеры, але й сама рабіла эскізы, асабліва ўмела дапасоўваць рысунак да вопраткі — пышных балёвых сукняў, шарфаў, розных фігаро й г.д. Гэта была сапраўды творчая мастацкая праца, якую маці любіла, хоць і вельмі замучвалася, бо заказы часта бывалі сьпешныя, тэрміновыя, шыць часам даводзілася й начамі.

Плацілі маці столькі ж, як і іншым, але заказаў яна заўсёды мела ўдосталь, бо паводле ейных эскізаў працадаўца даваў шыць

і іншым работніцам. Па абедзе, калі маці сядала за сваю машыну да шыцьця, Янка Купала, які часта наведваў наш дом, чытаў ёй свае новыя творы ці так вёў гутарку. Маці яму апавядала пра свае будучыя творы. Сама яна тады блізу зусім не пісала, бо малыя дзеці, хатняя праца й шыцьцё забіралі ёй увесь час.

Гэтак мы жылі ў Вільні ад 1912 да 1916 году. Але дзеля таго, што жыцьцё ў месьце, асабліва пры ўмовах ваеннае пары, было вельмі цяжкое, маці зь дзецьмі вярнулася ў Парогі...

.................................................................................................

У 1918 годзе, у студзені, памерла бабуля... Неўзабаве пасьля гэтага я паехала ў Вільню вучыцца. У сярэдзіне школьнага году бацька мусіў у справах выехаць зь Вільні, але вярнуцца ня мог, бо Вільню занялі палякі. Я засталася сама адна. Праўда, была тады ў Вільні цёця Зося, але, ведаючы, што жыве яна вельмі бедна, не хацела рабіць ёй яшчэ больш клопату. Жыць у памешканьні бацькі я баялася, ды сама й не патрапіла б. Дык, нікому нічога не сказаўшы, зьвязала ў вузялок колькі сваіх суkenак і бялізны, пайшла ў інтэрнат літоўскай гімназіі й папрасілася, каб мяне прынялі. У інтэрнат мяне ўзялі, і я яшчэ пару месяцаў хадзіла ў гімназію.

У Вільні тады шалеў тыф ды іншыя хваробы. Шмат вучняў гімназіі, у тым ліку й я, захварэлі на тыф. Пакласьці ўсіх хворых у шпіталь відавочна не было магчымасьці, бо хворыя ляжалі ў інтэрнаце разам з здаровымі. Хворых наведваў доктар Кайрукшціс, але зьмяніць умовы ён ня мог, дый лекі не заўсёды можна было дастаць.

Есьці хворым прыносілі, вяртаючыся з гімназіі, вучні-сябры. Ежа была аднолькавая й здаровым, і хворым. Кусочак чорнага хлеба, чорная кава з сахарынай, лыжачка кансэрваў, на якія нават і галодныя каты не хацелі глядзець, пара лыжак кашы — гэта была ўся ежа, якую польская панская ўлада давала для інтэрнату.

Ня помню, як доўга праляжала бяз памяці. Калі расплюшчыла вочы, пабачыла твар мілай цёці, якая сядзела пры маім ложку. І я сама была ўжо ў яе. Ва ўтульным цётчыным пакойчыку, як заўсёды, на падваконьнях цьвілі кветкі, праз вокны падалі прамяні сонца. Была ўжо раньняя вясна. Цёця, калі дазналася, што я хварэю, прыйшла ў інтэрнат і забрала мяне да сябе. З харчамі цяжка было і ў цёці — печаная толькі бульба з соляй ды чорная кава з сахарынай. Аднак сьпечаная на жаратку бульба

гэтак смачна пахла, а быць зь цёцяй было так прыемна, што я хутка пачала папраўляцца й вярнулася да жыцьця. Гімназіяльны інтэрнат быў ужо зачынены, бо ўлада зусім адмовілася ўтрымваць ды карміць вучняў.

Мы зь цёцяй пастанавілі варочацца ў Парогі. Зайшлі яшчэ на памешканьне майго бацькі. Там даўно ніхто ня жыў. Мэбля й абразы былі пакрытыя пылам. Панура глядзеў з рамаў папа Інацэнт. З скрытных шуфлядаў пісьмовага стала мы ўзялі на памяць колькі драбніц, замкнулі дзьверы ды выйшлі. Ніхто больш з нашае сям'і ні ў гэтае памешканьне, ні ў цётчына не вярнуўся. Хто пасьля адамкнуў дзьверы, дзе дзеліся ўсе рэчы — ня ведаю й сяньня. Як пазьней чула, частка сабраных бацькам мастацкіх твораў апынулася пасьля ў Віленскім Беларускім Музэі.

На дарогу ў Парогі ў нас не было ні кусочка хлеба. Цёця раздабыла недзе два кіляграмы гароху, які мы зварылі ды ссыпалі ў мяшэчак. Разам з намі йшла грамадка вучняў гімназіі, якія таксама варочаліся да сваіх родных. Нашае падарожжа трывала два тыдні, бо чыгунка слаба працавала ды зусім не вазіла цывільнага жыхарства. Пераважна йшлі пешкі, толькі рэдчас падвозілі нас выпадковыя вазы, калі нам было па дарозе. Бальшыня вучняў дайшла да сваіх мясьцін ды ад нас адлучылася... Засталіся толькі мы дзьве...

Калі мы ўвайшлі ў Парогах на панадворак, маці, якая з Стасяй глядзела праз акно кухні, сказала:

— Глянь, што нарабіла ваенная завіруха. З самай ужо раніцы йдуць нейкія няшчасьлівыя жабрачкі.

Выгляд у нас быў запраўды жабрачы. Нашая мізэрная вопратка ад дажджу, ветру ды сонца ў дарозе вылінала, а месцамі й парвалася, ногі былі пакрываўленыя, спухлыя. Калі я хварэла на тыф, мае доўгія косы мне абстрыглі, а ў чорных косах цёці зьявілася шмат сівых валасоў.

Калі «жабрачак» пазналі, у доме ўзьнялася вялікая мітусьня. Усе зыйшліся прывітацца з намі. Было шмат радасьці й апавяданьняў. У Парогі прыехаў і мой бацька, які, калі аднекуль дазнаўся, што мы выбраліся ў дарогу, прыехаў нас спатыкаць. Бацька, праўда, быў толькі дзён колькі ды йзноў паехаў. Гэта было ў 1920 годзе.

У Парогах мы жылі ад 1920 да 1925 году. Гэты пэрыяд жыцьця быў вельмі мілы...

Мае бацькі гэтым часам разыйшліся. Разыйшліся ціха, прыязна, застаўшыся добрымі прыяцелямі на ўсё жыцьцё. Маці ніколі не вінавацiла бацьку, віну складала на розьніцу веку. Яна была дзесяць гадоў старэйшая, дык нічога дзіўнага, што бацька пакахаў іншую жанчыну. На думку маці, кажны мае права раз у жыцьці быць шчасьлівым. Бацька вельмі шанаваў маці ды любіў яе, як старэйшую сястру. Ужо даволі доўга пасьля таго, як яны разыйшліся, калі маці цяжка захварэла, бацька прыяжджаў у Парогі, дзе прабыў каля двух тыдняў ды блізу ўвесь час правёў пры ейным ложку. Не абарваліся ягоныя сардэчныя дачыненьні і зь дзядулем ды цёцяй Зофіяй.

Пры канцы 1924 году я выехала ў Коўна, дзе гэтым часам жыў бацька з сваёй маладой жонкай Станіславай. Бацька скончыў пісаць свае навуковыя працы й рэдагаваў беларускі часапіс «Крывіч», які тады выходзіў у Коўне. У ягоным пакоі на пісьмовым стале ляжала шмат пэргамэнтаў ды іншых старадаўных дакумэнтаў. Уздоўж сьцепаў стаялі паліцы з кнігамі. Па двух гадох ягоныя навуковыя працы выйшлі з друку (гэта былі «Падручны расійска-крыўскі слоўнік» (1924) і «Гісторыя крыўскай кнігі» (1926). — *Заўв. перакл.*).

Я ў Коўне працавала на пошце тэлефаністкай.

..............................................................................................

Неўзабаве пасьля сьмерці цёткі (цётка Зофія памерла 14 сакавіка 1926 году. — *Заўв. перакл.*), я выехала зь Літвы ды апынулася ў Менску, дзе пражыла больш за трынаццаць гадоў. Гэтым часам у Менск прыехаў і мой бацька Вацлаў Ластоўскі, які быў акадэмікам Акадэміі Навук Беларускай ССР і дырэктарам мастацкага музэю (музэй у запраўднасьці называўся «Беларускі Дзяржаўны Музэй у Менску».— *Заўв. перакл.*). Жылі тады ў Менску й ягоныя старыя сябры Янка Купала ды Зьмітрок Бядуля. Янка Купала ўжо меў імя народнага паэта, быў шырока ведамы й любімы. Ягоная жонка, колішняя Ўладыслава Станкевічанка, працавала выхавальніцай у дзіцячых садкох ды ў палацы піянэраў. З друку выйшаў ужо не адзін ейны зборнічак апавяданьняў для дзяцей. Пры іхным гасьцінным стале зьбіраліся беларускія пісьменьнікі, наведвалі госьці й зь іншых рэспублікаў. Зьмітрок Бядуля таксама быў ужо жанаты, гадаваў дзяцей.

..............................................................................................

У 1941 годзе, калі Літва была ўжо савецкая, я з сынам Сяргеем наведала па доўгіх гадох сваіх. Маці за гэтыя гады вельмі

настарэла, зусім сьсівела, ейныя плечы сагнуліся, але чулася яшчэ добра, была энэргічная...

Калі пачалася вайна (нямецка-савецкая. — *Заўв. перакл.*), я з сынам не магла вярнуцца ў Менск, і мы накіраваліся ў Парогі... Там мы прабылі ўсе гады вайны...

..................................................................................................

Перад канцом вайны ў Парогі прыехаў мой муж Ёзас Прысас... Жыву цяпер зь сям'ёй у Менску. Жыве тут і Ўладыслава Луцэвіч — жонка Янкі Купалы ды жонка Зьмітрака Бядулі Марыя Ісакаўна. Янка Купала й Зьмітрок Бядуля ў часе вайны памерлі. Уладыслава Луцэвіч, якую ўсе называюць цёцяй Уладзяй, цяпер дырэктар Літаратурнага Музэю Янкі Купалы. Яна правяла вельмі вялікую й карпатлівую працу, засноўваючы гэты музэй, бо ў часе вайны згарэў іхны дом і ўсе архівы. Працягвае яна гэтую працу й цяпер (Уладыслава Луцэвіч памерла 5 лютага 1960 г.— *Рэд.*). Ва ўтульным доме цёці Ўладзі зьбіраюцца сёстры Янкі Купалы, іхныя дзеці і ўнукі. Наведваюць старыя прыяцелі.

Мы зь цёцяй Уладзяй прыяжджалі ў Коўню, каб адведаць маю маму. Маці была вельмі ўзрушаная ейнымі наведзінамі. Яны доўга гутарылі, прыпаміналі старыя часы. Маці ўспомніла, якой у маладосьці была Ўладзя: дзяўчына з тоўстымі косамі, у белай у чырванаваты гарошак сукенцы. І маці езьдзіла ў Менск, наведала Літаратурны Музэй Янкі Купалы.

Будучы ў Менску, маці пазнаёмілася зь беларускім паэтам Анатолем Астрэйкам і літаратурным крытыкам Сьцяпанам Карабанам. Анатоль Астрэйка чытаў маме свае вершы. Маці казала, што гэта прыпамінае далёкія часы, калі малады Купала чытаў ёй свае творы.

*Менск, 25.05.1957*

## УСПОМНІЎШЫ МІНУЛАЕ

Стася Ластоўшчыка-Матулене

Ластоўскія з часам пераехалі ў Вільню (пераехалі ў 1908 годзе з Рыгі. — *Заўв. перакл.*). Вацлаў быў навукоўцам, замахнуўся на вялікія працы, але доўгі час вельмі мала зарабляў. Цяжар

---

St. Lastauskaitė-Matulienė. Praeitį prisiminus // Pergalė (Vilnius). 1957. Nr.8. P. 80-88.

утрыманьня сям'і лёг на плечы Марыі (жонкі Вацлава Ластоўскага, маці Стасі Ластоўшчынкі. — *Заўв. перакл.*). Яна, апрача гэтага, заўсёды апекавалася людзьмі ёй чужымі, якія дзеля нейкіх прычынаў заставаліся бяз хлеба й прытанішча. З мужам Марыя жыла добра, але між імі ніколі не было запраўднае духовае лучнасьці. Муж цаніў Марыю як сьціплую гаспадыню дому, руплівую матку дзяцей, але не стараўся глыбей зразумець ейныя пагляды на жыцьцё й летуценьні. Вымучаная жыцьцём Марыя на сябе не зьвяртала ўвагі й выглядала старэйшай, як было ў запраўднасьці. Муж меў сваю кампанію, вольным часам выходзіў з дому, жонкі з сабой не запрашаў. Марыя гэтым не пераймалася, не крыўдавала. Яны так і засталіся адно аднаму чужыя. Чым далей, тым прагаліна між імі большала.

Каля дзевяцёх гадоў пражыла Марыя з сваёй сям'ёй у Вільні. Бачыла шмат гора й вельмі мала дабра.

........................................................................................................

Ды ўсё ж знайшоўся чалавек, які зразумеў Марыю й зацікавіўся ейнай асобай. Гэта быў малады беларускі паэт Янка Купала. Пісьменьнікі хутка пасябравалі, іх лучылі супольныя думкі, жаданьні й імкненьні ў галіне творчасьці, супольныя рэвалюцыйныя настроі. Марыя ажыла, пачала йзноў пісаць ды цікавіцца літаратурай. Янка чытаў ёй свае вершы. Яны мелі шмат што сказаць адно аднаму. Гэтае сяброўства трывала колькі гадоў. У жыцьці зьняможанай няўдачамі Марыі гэта былі найсьвятлейшыя дні.

У 1917 годзе (у лістападзе.—*Заўв. перакл.*) Марыя з двума дзецьмі, пасьля доўгай хваробы й змучаная падарожжам у цёмным вагоне, прыехала зь Вільні ў Парогі да бацькоў... Клопатаў і тут у яе было шмат: цяжкое эканамічнае палажэньне бацькоў, хвароба маці, схільнасьць да алькаголю брата Густава, беды сястры Зофіі. Найменш часу ў Марыі было думаць пра сябе, хоць ейнае жыцьцё дайшло да раздарожжа: лучнасьць з мужам ужо зусім абарвалася.

........................................................................................................

Маючы сорак шэсьць гадоў, Марыя пастанавіла, што яна ўжо старая, што ёй не падыходзіць такая вопратка, якую адзяюць маладыя й сярэдняга веку жанчыны. Да гэткага ейнага настрою прычыніліся і ўспаміны пра матку. Марыя заўсёды думала, што маці адзяецца й прычэсваецца не паводле свайго веку і што гэта ёй не падыходзіць ды кідаецца людзям у вочы. Марыя пашыла

сабе доўгую хатняга паўсуконнага вырабу спадніцу, адзела цёмную з доўгімі рукавамі блюзку, на галаву насунула чорную хустку, якую не зьнімала нават і ў гарачыя летнія дні. Пачала насіць жамойцкія дзераўляныя чаравікі, «клумпы», і была задаволеная, што сваім выглядам яна ня розьніцца ад вясковых жанчын. Панскага роду суседзі глядзелі зь іроніяй на Марыю, дзівіліся зь ейнага асаблівага адзетку й яшчэ дзіўнейшага спосабу жыцьця ды сябраваньня зь нейкімі кутніцамі. Усё сваё жыцьцё Марыя ня так словамі, як чынам, сьціплым жыцьцём, выбарам сваіх заняткаў і знаёмых падчырквала, што яна ня пані.

Нейк увосень (1918 году. — *Заўв. перакл.*) у парогі завітаў былы муж Марыі Вацлаў Ластоўскі. Доўга й па-прыяцельску гутарыў з Марыяй, але пра супольнае жыцьцё ні адзін, ні другі ня ўспомніў. Вацлаў часам быў разгублены, быццам хацеў нешта запытацца ды ўсё не асьмельваўся. Пагасьціўшы пару дзён, ён паехаў ізноў у Вільню. Толькі пазьней высьнілася, што яму быў патрэбны развод. Якім спосабам ён, не турбуючы Марыі, афіцыйна ажаніўся зь іншай жанчынай, так і засталося няясным.

Памерла Марыя Ластоўская 19 ліпеня 1957 году ў Коўні.

## З УСПАМІНАЎ ПРА ЛАСТОЎСКІХ

Людас Гіра

Гаруючы ў пэпээсаўскай чытальні (чытальня Польскай Партыі Сацыялістычнай у Пецярбурзе. — *Заўв. перакл.*), Марыя Іваноўшчынка спазналася зь яшчэ бяднейшым, даволі здольным маладым юнаком, які паходзіў зь Літвы, аднак уважаў сябе за беларуса, — Вацлавам Ластоўскім (В.Ластоўскі ў запраўднасьці паходзіў зь Беларусі, з фальварку Калесьнікі на Дзісеншчыне. — *Заўв. перакл.*). Выстараўшыся ў той самай чытальні прытулак і яму, пару гадоў пазьней яна выйшла за яго замуж. Жыцьцё нічым не палепшала й пасьля замуства, а клопатаў прыбыло яшчэ больш, калі нарадзілася першая дачушка (Ганна. — *Заўв. перакл.*). Ейны муж стаў тады заахвочваць варочацца ў Літву, у Парогі, памагаць бацьку даглядаць гаспадарку.

Liudas Gira. Dvi seserys Ivanauskytės // Lazdynų Pelėda. Raštai. T.I. Vilnius. 1954. P.424-425.

Урэшце, бадай на восьмы год пасьля жанімства, заашчадзіўшы 300 рублёў, Ластоўскія пакінулі Пецярбург, прыехалі ў радзімае гняздо Іваноўскіх, і В.Ластоўскі ўзяўся дапамагаць цясьцю (Нікадэму Іваноўскаму. — *Заўв. перакл.*) у гаспадарцы. Веда В.Ластоўскага ў земляробскай галіне была, аднак, невялікая, і ягоная дапамога была малая. Выявілася, што пражыць зь сям'ёй было цяжка й тут.

Марыя, калі пабачыла, што ейны муж толькі безь ніякай карысьці нэрвуецца ды што хатняя атмасфэра стае ўсё горшай, пастанавіла выехаць куды-небудзь у большае места хоць сама адна, каб падзарабіць. Спадзявалася, што, жывучы ў месьце, яна ня толькі зможа, не абцяжарваючы бацькі, пракарміць сябе, але сёе-тое будзе магчы выслаць і яму для гаспадаркі.

Пастанавіла — зрабіла: сама адна паехала ў Рыгу, дзе мела знаёмую — дачку ўласьніка суседняга двара Беляшнікі Гешо Даўкшанку, якая знала шмат мастакоў і мастачак, ад якіх можна было дастаць работу. Але з гэтым яна памылілася. Даўкшанка, стыдаючыся, што ейная сяброўка толькі швачка, адмовілася чымколечы ёй дапамагчы.

Марыя тады наняла ў вартаўніка дому жыда Цытронэнбаўма сабе кут, дзе магла паставіць ложак, пачала шукаць працу сама. Пакрысе праца знаходзілася, ды асабліва палягчэла, калі знайшла сабе памочніцу, сымпатычную дзяўчыну Марту, якая ўзялася насіць ейныя вырабы па кватэрах. У хуткім часе, пасварыўшыся зь цясьцём Іваноўскім, вельмі знэрваваны, да яе ў Рыгу прыехаў і муж — Ластоўскі.

Жылі яны гэтак у Рызе гадоў пару, пакуль муж не дастаў ад свайго прыяцеля, таксама беларускага дзеяча, Луцкевіча, ліст зь Вільні, у якім той паведамляў пра заснаваньне беларускай газэты (тыднёвіка) «Наша Ніва», запрашаў яго прыехаць у Вільню, абяцаў месца пры рэдакцыі. Вацлаў Ластоўскі, атрымаўшы запрашэньне, паехаў не марудзячы ў Вільню й запраўды неяк там уладзіўся, ды так, што ў хуткім часе мог запрасіць да сябе й жонку з дачушкай.

Хоць беларускі нацыянальны рух тады, можна сказаць, ставіў толькі першыя крокі (крыху перад тым выходзіў ужо коратка таксама ў Вільні беларускі тыднёвік «Наша Доля») і нацыянальна сьведамых беларусаў было яшчэ няшмат, ды ўсё ж «Наша Ніва», даволі ўмела й жыва рэдагаваная братамі Луцкевічамі й Ластоўскім, сяк-так трымалася й нават мацнела.

Рэдакцыя, а разам зь ёю й першая ў Вільні таго самага назову беларуская кнігарня, уладзілася непадалёк цэнтру места, на Завальнай (дом № 4. — *Заўв. перакл.*), дзе адзін пакой дастаў сабе й Ластоўскі. Ён вёў адміністрацыю тыднёвіка й справы кнігарні. Апрача гэтага, ён стаў займацца скупліваньнем і перапродажам старых абразоў ды іншых старых і рэдкіх твораў мастацтва, а таксама беларускіх народных вырабаў (калекцыянэрскага мастацтва В.Ластоўскі навучыўся яшчэ ў Пецярбургу), і ягоны пакой заўсёды быў пазавешваны й завалены.

У Вільні ў Ластоўскіх у хуткім часе нарадзілася яшчэ адна дачушка (вясной 1910 году дачка Стася. — *Заўв. перакл.*). Для Марыі Ластоўскай прыбыло яшчэ больш бедаў і клопатаў. Ды тут яна ўсё ж такі не была вышывачкай-папіхачом ды бяспраўнай кутніцай, а гаспадыняй хоць сякога-такога, але свайго кута, і вольнай парой, справіўшыся з сваёй невялікай хатняй гаспадаркай, магла ўжо па-свойму ўкладаць сваю працу й свой час.

Жывучы ў Пецярбургу й Рызе, яна нічога больш не пісала. Дастаючы няшмат за свае рукапісы, яна дні й ночы рабіла толькі тое, за што ёй, хоць і грашы, але адразу плацілі. А гэтых грошыкаў трэ было нямала, трэ было іх усё больш, дык і працай яна ўсё больш абкладалася й за ёю нічога больш ня бачыла. Толькі летам, калі прыяжджала на бацькавіну, сяк-так магла пісаць. Але працаю й клопатамі замучаная, пра кар'еру пісьменьніцы яна й ня думала ды ніякіх прэтэнзіяў да ймя й гонару пісьменьніка ня мела.

*Зь літоўскай мовы пераклаў Рыгор Максімовіч*

# ЛІСТЫ ЯНКІ ЧАРАПУКА З АМЭРЫКІ (1922-1923)

Немалое значэньне ў палітычнай гісторыі дзяржаваў, што ўтварыліся ў 1917-1918 гадох на руінах Расейскай імпэрыі, мела напружаная дыпляматычная й палітычная дзейнасьць нацыянальнага актыву за мяжою, асабліва ў вялікіх уплывовых дзяржавах — Нямеччыне, Англіі, Францыі, ЗША.

Для маладой беларускай незалежнасьці гэтая задача была яшчэ больш надзённая дзеля абмежаванасьці або й немагчымасьці палітычнае актыўнасьці на Бацькаўшчыне з прычыны няспынных войнаў і акупацыяў ды наагул неспрыяльнага аб'ектыўнага геапалітычнага кантэксту, у якім фармаваліся й разьвіваліся новыя беларускія палітычныя структуры.

Ужо з надыходам першае савецкае акупацыі (сьнежань 1918) дзейнасьць беларускіх палітыкаў перамяшчаецца за мяжу — у Бэрлін, Парыж, Прагу, Рыгу, Коўна. Дыпляматычныя прадстаўнікі БНР вядуць у эўрапейскіх сталіцах напружаную працу ў справе прызнаньня незалежнасьці Беларусі й аказаньня ёй дапамогі ў барацьбе з акупантамі.

Ганебны Рыскі мір, падпісаны ў сакавіку 1921 году, надоўга замацаваў на карце Эўропы новыя дзяржаўна-палітычныя канфігурацыі, паводле якіх Беларусь была падзеленая паміж мацнейшымі суседзямі. Спробы беларускіх палітыкаў прыцягнуць увагу цывілізаванага сьвету да нечуванага палітычнага гвалту над шматмільённым народам ня мелі амаль ніякіх вынікаў, і ў траўні 1922 году Генуэская канфэрэнцыя канчаткова замацоўвае на эўрапейскіх абшарах «новы парадак». Надзеі на найхутчэйшае справядлівае вырашэньне беларускага пытаньня ня спраўдзіліся. Наступіла пара новых рэаліяў, якія патрабавалі пошукаў прагматычных рашэньняў у наяўных палітычных умовах.

Якраз у гэтую пару й адбылося «адкрыцьцё Амэрыкі» беларускімі палітычнымі дзеячамі. У чэрвені 1922 году у ЗША прыбыў паўнамоцны прадстаўнік Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Янка Чарапук.

Янка Чарапук, сын Антонаў, нарадзіўся 12 жніўня 1896 году ў мястэчку Новы Двор Сакольскага павету Гарадзенскае губэрні. Пачатковую адукацыю атрымаў у Навадворскім гарадзкім вучылішчы, пасьля вучыўся ў Горадні й

Пецярбургу, скончыў гімназію Відэмана. У 1917 годзе быў сакратаром Украінскае Місіі ў Пецярбургу, пасьля быў скіраваны ў Міністэрства Замежных Справаў УНР, ад 1919 году — на дыпляматычнай службе ў БНР, дыпляматычны кур'ер, чыноўнік спэцыяльных даручэньняў, сакратар Беларускае Місіі ў Латвіі й Эстоніі, сакратар дыпляматычнага прадстаўніцтва БНР у Літве, дэлегат Міністэрства Замежных Справаў БНР.

У Пецярбургу займаў пасаду таварыша старшыні Культурна-Прасьветнага Таварыства «Вольная Беларусь», у Кіеве быў сябрам Беларускае Рады на Ўкраіне, там жа зарганізаваў Беларускую Партыю Незалежных Рэвалюцыянэраў, пазьней, у 1918 годзе, далучыўся да Беларускай Партыі Сацыялістаў-Рэвалюцыянэраў. Друкаваў артыкулы й карэспандэнцыі ў «Беларусі» (Горадня), «Родным Краі» й «Нашай Думцы» (Вільня).

Выезд Янкі Чарапука ў Амэрыку ня быў выпадковы. Яшчэ 18 лістапада 1919 году ён пісаў Антону Луцкевічу, выкладаючы свае пагляды на пэрспэктывы замежнапалітычнае дзейнасьці БНР: «...Зараз жэ пашлеце дзве місыі у Англію, асабліва зноў у Амэрыку [...] Пры гэтым, што датычыцца Амэрыкі та я сам падняўся каб быць Сэкрэтаром нашэй Місыі. У мене там ёсьць вельмі многа знаемых, адзін наш беларус Сукрановіч з якім я і цяпер маю зносіны...»[1]. Прыблізна ў гэтым самым часе ў Амэрыку выяжджае Янкаў бацька Антон.

Пытаньне пасланьня дэлегацыі БНР у Амэрыку не сыходзіць з парадку дня і ў наступныя гады, аднак на перашкодзе стаяць фінансавыя цяжкасьці, пра што красамоўна сьведчыць ліст П.Крэчэўскага з Прагі ў Коўна — В.Ластоўскаму й А.Цьвікевічу (21.12.1921): «Аб Амэрыцы я нічога пэўнага не магу сказаць, бо не ведаю як гэта зрабіць без грошэй. Калі у Вас не хапае грошай, каб прысылаць нам на абед, то як можна думаць пра Амэры[ку]...»[2]. У сакавіку 1922 году Я.Чарапук падае заяву ў Раду Народных Міністраў з просьбаю выдзеліць яму пазыку ў памеры 20.000 марак «на нацыянальна-грамадзкую працу ў Амэрыканскіх Злучаных Штатах», на што атрымвае няўмольны адказ: «Цяжкі стан Дзержаўнай касы к жалю не дае магчымасьці пайсьці па спатканьне просьбе грам. Чарапука, дзеля гэтага у здавольненьні памяненай просьбы адмовіць»[3].

І аднак у траўні 1922 году, знайшоўшы неабходныя на далёкае падарожжа грошы, Янка Чарапук разьвітваецца з Бацькаўшчынай — назаўсёды! — і адплывае зь Лібаўскага порту параплавам «Эстонія». Вялікую дапамогу ў атрыманьні амэрыканскай візы зрабіў сам консул ЗША ў Літве Эдвардс[4].

Цяжкі досьвед першага году эміграцыі й першыя ўражаньні ад кантактаў з амэрыканскай палітычнай і набытовай рэчаіснасьцю, зь беларускімі эмігрантамі — усё гэта знаходзіць адбітак у друкаваных ніжэй лістах Я.Чарапука з Амэрыкі. Захаваны правапіс арыгіналу, улучна з магчымымі памылкамі.

*S.S.*

**I. Паштоўка Янкі Чарапука (Данцыг) Тамашу Грыбу (Коўна, Vytauto pr. №30) за 15.06.1922** *(ДАЛ. 582.1.14:64)*

Даражэнькі

Шлю мае сардэчнае прывітаньне усім сябрам Грамады[5] . Сеньня моцно помню наш дэвіз

змагаймося — зможам

Цалую ўсіх

Ваш Я.Чарапук

Параход «Латвія» перад ад'ездам у Амерыку.

**II. Ліст Янкі Чарапука (Гранд Рапідз) Аляксандру Галавінскаму[6] (Коўна) за 5.08.1922** *(ДАЛ. 582.1.43:257&r-259&r)*

Даражэнькі Алесь! Ня дзівуйся мой дружэ, што можэ табе здаецца чаму я гэтак позно пішу гэты ліст да цябе. Адзін тыдзень я быў у Нью-Yорку, дзе хацелося мне разузнаць место. Чэлавечы розум папросту поўны падзівеньня як гэта ўсе можна было выбудаваць. Калі прышлося быць, каля найбольшаго дому у сьвеце, альбо каля помніка «Свабода» Пасьля я прыехаў да свайго бацькі у Grand Rapids. Тут таксама шмат часу прашло на чыста сямейныя справы. Працу грамадзкую распачаць заража трудно. Цяпер я знаемлюся толькі з агульным станівіщэм у гэтым краю. I заводжваю знаемства з беларусамі, украінцамі, і літвінамі. Выступаць цяпер чынна на грунце грамадзкім і палітычным ніяк нельга. Прычыны такія. Не разуменьне ангельскай мовы — ня дае магчымасьці выступіць і узяцца за працу. Німа тут сапраўды ні адной беларускай арганізацыі, якая маглабы памагчы хоць часова у працы і жыцьцю. Напрыклад дэлегатам Літвы, Польшчы ці Украіны — тут легка працаваць, таму што па ўсей Амэрыцы раскіданы іх арганізацыі нацыянальныя. I вось калі яны прыежджаюць ўсе памененыя установы паведомляны і толькі чэкаюць іх прыезду — дагэтага служыць іх пресса і арганізацыйныя грошы. Нам жа беларусам трэба рабіць тое, што палякі, літоўцы і украінцы рабілі 50 лет таму назад. З гутаркі з Беларусамі у Detroit, Grand Rapids, New-York'y і Chicago у якіх ужо мейсцах я быў мне удалося устанавіць, што сьвядомасьць ёсьць паміж імі — але каб з іх зрабіць сапраўды беларускіх грамадзян патрэбна многа многа працы і то мазольнай. Калі гаворыцца а беларусах, та іх трэба раздзеліць на две катэгорыі. У першую трэба залічыць беларусаў-каталікаў, якія паддаліся папросту шаленаму ўплыву польскаму клерыкалізму і так

называемаму «Polskiemu Związku Narodowemu». Апошні у Амэрыцы ёсьць самай сільнай арганізацыяй «дэмакратычнай» польскай з вялікім капіталам багатай дамовай маемнасьцю, школамі, унівэрсытэтам у Кэмбрідж. Да другой групы гэта беларусоў праваслаўных — тут ужо кірунак працы другі павінен быць — гэта элемэнт соцыялістычны і збальшэвічаны. Ужо з гэтай кароткай маей інфармацыі відаць, што адной асобе як мне няякім чынам нямажна вясьці працы у адным і у другім лагеры. Трэба выбраць адзін — злучыць тыя два лагеры у адзін на грунце нацыанальным гэта рэч вельмі трудная і спачатку немагчымая. Паперш трэба у іх яшчэ разбудзіць нацыаналізм.

Вос[ь] гэтая мая пакуль што кароткая інфармацыя для Сувязі і для Ураду аб становішчу беларускум тут у Амэрыцы. Цяпер некалькі слоў скажу аб складзе той дэлегацыі, якую намерываецца сюды выслаць Урад. Пасылаючы Урадум дэлегацыю належыць кіравацца той думкай і тым разлічэньнем, што дэлегацыя павінна больш кіравацца на падтрыманьне амэрыканцоў, чым беларусоў. А на грунце гэтаго зноў павінно лічыцца з амэрыканскай палітыкай. Цяпер урадуе «рэспубліканская партыя» з Гардінгом[7] Яна групуе каля сябе моцно капіталізм фабрыканство, вялізарную прамысловасьць. Другая партыя гэта «дэмократычная» стаўленнік яе быў Вілсон[8] — цяпер яна не урадуе Гэта дзве самыя моцныя партыі і трэцья соцыялістычная з Дэбсам[9] на чале, але ён сядзіць у турме соцыялісты яшчэ ні на адных выбарах ня атрымалі «крэсла прэзыдэнта» Затым ідуць уніісты — гэта арганізацыя адпаведае расейскай «Союз профессіоных Рабочих» але гэта чыста эканамічная арганізацыя у палітыцы нічога яна чыннага ня адыгрывае. У звязку з усім сказаным і прыняўшы пад увагу беларускае становішчо і амэрыканскую палітыку. Я лічу, што галавою дэлегацыі павінен быць не соцыаліст, бо інакшэй нічога з працы рэальнага ня выйдзе, затым павінен быць ксендз, для працы сярод каталікаў. І для працы сярод праваслаўных выдатны соцыаліст, добры прамоўца і літэратар. Пэўны, што такі склад дэлегацыі і меўбы успех Галава дэлегацыі могбы атрымаць падтрыманьне для справы з боку амэрыканскіх урадовых сфер, ксендз з боку духавенства, бо вышыя мейсцы духоўныя занімаюць ірландцы і немцы-каталікі кардынал і арцыбіскуп.

Прыняць таксамо трэба пад увагу мову, бо бяз мовы тут ні шагу нямажна ступіць Паперш начатак хаця трэба выучыцца

штокольвек, пасля ужо знаючы што небудзь можна лічыць што праз 1 год ужо можна добра знаць нават і выступаць з мовай. Затым, адна асоба мусіць знаць добра мову. А іначэй прыдзецца афіцыяльнасьць схаваць і ісьці працаваць да фабрыкі — бо інтэлігэнтнай працы атрымаць трудно, не знаючы мовы. Калі можэ ёсьць труднасьці з прыездам, та я іх магу ліквідаваць — мне ужо удалося мець знаемасьць з Сэнатарам вельмі уплывовым праз якога можна нават і хутко урэгуляваць справу. Што датычыць грошай та я таксамо прылажу усе стараньня каб 1.000 далляроў пажычыць і выслаць шыфскарты I класа, хаця і на 7%; калі будзе дана гварантыя звароту на акрэсляны час. Вось усе тое чым магу падзеліцца цяпер. У канцы гэтага яшчэ некολькі слоў напішу а сабе.

Апошнім часам я прыступіў да выучэньня мовы. кожны дзень 3 гадзіны. Атрымаў працу у фабрыцы вельмі добрую. Працую 8 гадзін ад 7 зрана да 5 п.п. і адну гадзіну маю на абед. Атрымаў ужо першыя паперы грамадзянства, бо бэз іх нельга мець работы за 6 мѣсяцаў буду лічыцца поў амэрыканінам, а цяпер як тут кажуць яшчэ «зелены чалавек» а праз 2 гады можна будзе атрымаць другія паперы грамадзянства, тагдэ ужо лічыцца амэрыканскім грамадзянінам. Атрымаў ад знаемага адваката запэўненьне, што калі захачу аканчываць юрыдычны факультэт, та ен за мяне унясе залог і я магу вучыцца а пасля толькі мушу у яго праз 2 гады працаваць Перэдай каму належыць — ніхай вышлюць рахунак доўгу які я вінен Ураду[10], а я пастараюся яго сплаціць часьцямі.

Шлю прывітаньне усім Янка 5/VIII 1922.

Adress John Czerepuk
585 Stocking Av.
Grand Rapids Mich.
North America

P.S. Прысылайце газеты, літэратуру і прэс-бюро.

**III. Ліст Янкі Чарапука (Гранд-Рапідз, Мічыган, ЗША) панне Гэлене[11] (?) (Коўна) за 4.11.1922** *(ДАЛ. 582.1.43:56&r-57&r-58)*

Wielce szanowna panno Heleno!!

Wstyd mi ze do tej pory do Was nienapisałem — lecz lepiej pózno, a nizeli wcale. I właśnie dzisiaj wspomniałem po raz pierwszy Kowno i Wasz ten cudowny miły domek gdzie tak "sielsko i anielsko" jak

opiewał Kornel Ujejski. Postanowiłem kilka słów napisać, choć z pewną trwogą, bo moze juz przyjemna i miła Helunia nie "panna" "a pani". Proszę bardzo mi odpowiedzić, jak Wasze zycie płynie. Co robi kochana Babunia i Mamusia i jak zyje tamta co pokoje ubierała — imię jej zapomniałem. W tą chwilę chciało by się być znowu blizko Was zartować, jak kiedyś i sobie "kołdunków spozyć", a czasami i "krupniczku" popić.... Bo u nas tu bardzo "sucho" t-j. pod zadnym warunkiem w całych Junejdet Stets nie mozna za dobry pieniądz nigdzie dostać, ani wódki, ani likieru, ani innych trunków, tu tylko piją tak zwany "munszajn" t-j. wyrob kazdego obywatela własny trunek. Nie ktore z robotniczej klassy na tym interesie zrobili szalone pieniądze. Prosze sobie wyobrazić ze ja od czasu kiedy wstąpiłem na amerykański brzeg ani nawet i nie powąchałem — tak ze gardło, za przeproszeniem zbyt jest za suche. Powodzi się mi dosyć dobrze. Mam dwie posady zarabiam świetnie. Na wiosnę kupuję automobil i poczynię staranie wziąść na wypłatę, złozywszy pewną gotówkę i swój dom. Pod względem materjalnym odczuwam zadowolnienie. Ale teraz pracuję od 7 rana az do 10 wieczorem. Oprocz tego uczę się angielskiej mowy, z którą jednak trudności wielkiej nie mam, ale juz czuję się jak u siebie w kraju. Udało się mi zgrupować koło siebie sporą liczbę białorusinów, tak ze to jeszcze milej odbija się na ogólnej harmonii zycia.

Miasto Grand Rapids zajmuje 3 miejsce po piękności w Ameryce. Cała w alejach pełnych uroczego widoku a pózniej jeziora, Miczygańskie jeziora pełne poetycznych opisów. Tu nie widać ni halasów New-Yorku ni dymów kominowych "czarnego" Chicago, do którego jazdy tylko 6 godzin. Oto w krótkiej treści — ten ogród gdzie przebywam. Na pierwszy początek jestem zadowolniony z Ameryki. Proszę jak najobszerniej opisać o sobie i swem zyciu o balach, o kawalerach i o pannie "Ludzie"...

Przy tem proszę serdecznie oddać ode mnie ukłon pani Ginz, a takze poprosić jej adres, bo ona tyle dobrego mnie zrobiła w moich spełnieniach rządowej posady. Chcę bardzo nakreślić jej parę słów — lecz nie znając adresu tego nie mogę.

Wogóle proszę nie skąpić się na pisanie bo tu jest juz wprost chorobą, ze jezeli człowiek otrzyma wiadomość od znajomych z kraju to u niego zawsze energii przebywa więcej niz wartość dolara.

Zawsze Wasz przyjaciel
John Cherepuk
585 Stocking Ave.
Grand Rapids, Mich.
U.S.A.

**IV. Ліст Янкі Чарапука (Чыкага) Леапольду Родзевічу[12] (Вільня) за 26.03.1923** *(БАНЛ. 21.291:2-4)*

Chicago, Ill.
26.03.1923

Вельмішаважаны грам. Родзевіч:

Ня даваў Вам адказу на Ваш ліст да гэтага часу, бо надта быў заняты грамадзкай працай. 24га сакавіка чытаў лекцыю на тэму «Палітычна-нацыянальнае становішча Беларусі». Сабралося беларусаў-эмігрантаў каля 400 асоб. Удалося таксамо у Чыкаго стварыць Беларускі Камітэт на чале якога сталі Гродзенцы Жук (прав.) і Лукашэвіч (католік). З'езд таксамо у восені адбудзецца. Чыкагоўчане спаткалі мяне прыхільна і на лекцыі цешуся сярод іх уплывам і павагай. Да наступаючай зімы ня чакайце дапамогі, бо наперад трэба стварыць арганізацыю вырабіць імя сярод эмігрантаў, а тагды ужо можна рэальна што небудзь асягнуць.

~

[*адрэзаны верх аркуша*]

А самае галоўнае. Пастарайцеся прыслаць мне рожныя здымкі для туманных карцін з жыцця Беларусі пад Польшчай. Асабліва рожныя мамэнты з жыцьця, маючы на мэці агітацыйны беларускі характар.

Усе прылажэцьце стараньня, каб пратрымацца як небудзь да зімы, а пасьля будзе лягчэй.

Газэту[13] прысылайце цяпер толькі 25 экзампляраў, бо як ужо канкрэтна устанавіў не магу знайсьці падпісчыкаў — усяго забраў толькі ахвяраў на 10 дол., нягледзючы на вялікія стараньня, бо масса тутэйшая, або аналячаная, альбо абмаскаляная — і беларускай мовы ужо абсалютна забылі і ня помняць.

Амэрыканцы якія будуць прысылаць свае запытаньня да нашых установаў на Бацькаўшчыне найлепей было бы, каб усіх напраўлялі да мяне, бо вы там ня знаючы настрою і псыхалёгіі нашай эміграцыі сваімі весткамі можэце спаралізаваць маю тут чыннасьць. Вы знайце, што душою і ідэяй я з Вамі — але трэба мець арганізаванасьць.

Мы панясьлі вялікую страту, што упярод ні Луцкевіч, ні Ластоўскі ня выслалі людзей для працы сюды, цяпер ужо наступіла халоднасьць да грамадзкіх спраў, апрытым ужо было многа такіх, што абабралі нашых эмігрантаў

З некаторых Вашых адрэсаў скарыстаю

Пакуль усяго найлепшага

Пішэце на стары адрэс
Ваш Ян Чарапук

**IV. Ліст Янкі Чарапука (Чыкага) невядомаму адрасату[14] (Вільня) за 26.03.1923** *(БАНЛ. 21.291:8, 9)*

Mr. John Charapook
1041 N.Wood Str.
Chicago, Ill.
[*канец траўня 1923*]

Паважаны грамадзянін:

Вашэ пісьмо ад 5.V.23 атрымаў. Справа расьце. У Чыкаго зарганізаваўся Камітэт. Антон Змагар, хаця і у расейскай мове робіць беларускую справу. Мы яму часова ня будземо перашкоды рабіць. 2го VI адбудзецца зноў лекцыя. Спагадаючых беларускай ідэі ужо ёсьць болей 1.000 асоб. Згаварыліся з украінцамі. Я быў у Нью-Іорку і Філядэльфіі. Выберэце паміж сябе з Віленшчыны і Гродзеншчыны 2х правасл. беларусаў, якія павінны быць гатовымі для прыезду у Амэрыку. Яны павінны быць добрымі літэратарамі, прамоўцамі і агітатарамі, уладаючы добра расейскай мовай і здольнымі эканамістамі для гандловых прэдпрыемств (коопэратары). Напішэця ад Б.Н.Камітэт. да укр. Dr. Lotozky 83 Grand Str. Jersey City NY., каб з даверэм адносіліся да мяне: памагалі мне у працы. Прышлеце весткі аб асобах імя свае, бацькі, век, скуль родам, жанаты, ці не, калер валос, ачэй, вага, рост. Дэлегаты павінны быць прэдстаўнікамі усіх арганіз. з Грод. і Віленшчыны. Помач у прыездзі акажэм толькі асобам, якія будуць прэдстаўляць, ўсе арганізацыі, а не паасобныя.

Усю коррэспондэнцыю і газэты напраўляйце на адрэсу, які падаў выжэй. Конф. ном. газэт ня атрымваемо.

Ваш Янка Чарапук

П.С. Высылайце мне «Виленскую Речь»[15] і адну польскую (няпрыхільную). Прысылайце стацьці, як мага больш дзеля памешчаньня у газэтах (у рас. мове).

**V. Ліст Янкі Чарапука (Чыкага) невядомаму адрасату[16] (Вільня) за 14.06.1923** *(БАНЛ. 21.291:5, 6)*

John Charapook
1041 N. Wood Str.
Chicago, Ill.
14.06.1923

Паважаны грамадзянін:

Пасылаю Вам чэк на 1.800.000 польск. мар. (30 долараў), якія асыгнаваў Беларускі Камітэт у Чыкага на дапамогу беларускім сіротам ў прытулках ў Вільні і Горадні. Будзьце ласкавыя грошы распрэдзеліць пароўні. А гэтым падайце у газэты. Камітэт пацярпеўшым ад Вайны за подпісам С.Рак-Міхайлоўскага і А.Сакаловай — няхай прышле афіцыяльную паперу на імя: «Whiterussian Committee. 1632 N. Robey Str. Chicago, Ill.» у атрыманьні грошай. Было бы вельмі пажадана ў інтэрэсах справы, каб аднаразова і самыя дзеці прыслалі падзяку у стасоўным лісьце, які можна было бы паказаць народу. Трымайцеся там як мага — на восень вышлемо значную помач, бо цяпер толькі што самыя арганізаваліся. Справа як надзіво пайшла добра. На 23 і 24 Змагар паедзе у Кэношу чытаць лекцыі. Газэты напраўляйце у значным ліку 25 экз. на Камітэт. Па 1 экз. усіх на мой адрэс.

Душою і сэрцам Ваш Я.Чарапук

P.S. Пажадана, каб зьвярнуліся з помаччай усе арганізацыі у адной адозве з прылажэньнем пячатак і належных подпісаў. Чэк за №31855 далучаю, як высланы Беларускім Чыкагскім Камітэтам праз Ноэл Стэйт Бэнк на Wilenski Prywatny Bank Handlowy.

**VI. Ліст Антона Чарапука (Чыкага) Беларускаму Камітэту[17] (Вільня) за 5.07.1923** *(БАНЛ. 21.291:7)*

БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ КАМІТЭТ У ІЛЛЫНОЙС
Whiterussian National Committee of Illinois
1632 N. Robey Street

«У БАРАДЗЬБЕ ЗДАБУДЗЕМО ЗЕМЛЮ, ВОЛЮ, ВОЛЬНУЮ БЕЛАРУСЬ».

CHICAGO, ILL., 5 ліпня 1923

Беларускаму Камітэту у Вільні

Паважаные таварышы:

Будзьце ласкавые прыслаць дэталічны даклад
1) аб становішчу Беларускай школы ў Заходняй Беларусі
2) аб становішчу беларускай прэссы
3) аб палажэньні сялянства

4) аб зямельнай справе

5) аб коопэрацыі

6) аб становішчу культурных устаноў (асабліва ц.кам.пом. пацярпеўшым ад вайны)

7) аб дзейнасьці паслоў

Такі даклад вельмі патрэбны для разгляду на Першым Беларускім Кангрэссе, які склікваецца на 1ое верасьня г.г. у Чыкаго.

Камітэтам робяцца стараньня аб прыезьдзі дэлегата з Бацькаўшчыны, але ня ведама ці можна будзе здзісьнець гэтую справу.

За Камітэт

А.Змагар

**VII. Ліст Янкі Чарапука (Чыкага) Вацлаву Ластоўскаму (Коўна) за 9.07.1923** *(ДАЛ. 582.1.49:168-169)*

БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ КАМІТЭТ У ІЛЛЫНОЙС
Whiterussian National Committee of Illinois
1632 N. Robey Street

«У БАРАДЗЬБЕ ЗДАБУДЗЕМО
ЗЕМЛЮ, ВОЛЮ, ВОЛЬНУЮ
БЕЛАРУСЬ».

CHICAGO, ILL., 9 ліпня 1923

Паважаны і Дарагі дзядзька Вацлаў:

Забудзем мінуўшчыну і аб ей ня будземо нават і ўспамінаць. Падамо руку згоды і далей станем тымі прыяцелямі, якімі мы былі ад часу першага знаемства і ў працы, аж да майго ад'езду ў Амэрыку. Вы знаеце, якім я быў праз ўвесь час з Вамі і пры Вас у супольнай палітычнай працы. Аб гэтым ня буду ўспамінаць, бо кожны з нас, калі загляне ў успамін прыпомніць. Цяпер падзелюся з Вамі тым, што ёсьць у мяне тут. Прыезд мой ў Амэрыку адбыўся пры самых цяжкіх варунках. Выяхаў з Коўны без нямецкай маркі, а хто, калі ня я аддаваў ня толькі урадовыя, но і сваі асабістыя грошы, каб устанавіць добрые адносіны з іншымі насольствамі і з ўплывовымі чыноўнікамі Літвы.

Мае становішчо зноў ў Амэрыцы было адным з самых страшэнных з'явішч у маём маладом жыцьцю. Ўсе аддаваў, ня для

сямейных спраў, ня для асабістых выгад, а пасьвеціў на Вялікую Справу Вызваленьня Беларусі з ярма польскага і маскоўскага. І дзеля гэтага пастанавіў нават парваць тое, што было і дарагое для сэрца т-е. асвабадзіць і самога сябе ад сувязі... сямейнай масковіі. Паступіў добра! Праз такое становішчо падняў сьцяг Беларусі у шырокім маштабе на зямлі Вашынгтона. Як ужо самые ведаеце чужаземная прэсса загаварыла аб беларускай справе, поўсталі і самые беларусы. Бэзумоўна ўсе маладое, але калі яно поўстало, дык будзе жыць, але патрэбные новые людзі, з новай энэргіяй, якіе павелі бы справу далей. Справедліво пра мяне напісалі галічане «што аднаму дужа цяжко працаваць на ніве, якая нікім ўперад ня была гарана». Першая баразна ужо згорана беларускім плугам, патрэбны людзі якіе павінны дакончыць са мною, альбо і бяз мяне. Таму я зьвярнуўся да галічан с по[м?]ачай. Яны абецалі мне выпісаць 4$^{x}$ челавек, гэтымі днямі я напісаў да іх ліст з просьбай каб далі часова магчымасьць аднаму прыехаць, другога зможамо ужо на свой кошт. Усероўна у самым хуткім часе пастараемося і рэшту выпісаць. Чаму я так руплюся? Я віджу патрэбнасьць у стварэньню ў Амэрыцы паважнага грамадзка-палітычнага цэнтру, які бэзумоўна у справах міжнарадовых і на Бацькоўшчыне фінансова і палітычна дапаможэ у змаганьню за вызваленьне Беларусі. Вялікая шкада, што Вы вышлі з Ураду[17]. Я думаю, але мажліва мыляюся, што у сучасны момэнт ніхто ня будзе паважна лічыцца з Цэнтрам у Коўне. Амэрыканские беларусы будуць толькі дапамагаць арганізацыям на Бацькоўшчыне. Зразу мы думалі рабіць ўсе праз Коўну, але цяпер там стварылося становішчо, якое дыктуе новую праграму дзейнасьці. Наогул мы будземо чакаць весткі аб тым, як там ўсе уладзіцца... Сам я хутка варочацца на Бацькоўшчыну ня думаю, негледзючы што здароўе страшэнна пагоршылося. Недаўна быў такі выпадак, калі гаварыў прамову раптам кроў пайшла праз горло і мяне замлеўшага вынеслі. Тыдзень таму назад адбылася апэрацыя горла (выцінали грыголы) у працягу 3$^{x}$ месяцаў забаропяно дактарамі выступаць з прамовамі. Надзвычайна цяжка пераносіць амэрыканскую жару, прыбыўшым з Еўропы. У працягу чэрвеня ад жары памёрло 43 чэлавекі. Мне вельмі пажадана мець весткі аб арганізацыях на Бацькоўшчыне, якія заслуговываюць давера — з якімі можна было бы зносіцца. Ці маеце Вы пэўные зносіны праз Коўну з Вільняй — куды можна было бы перасылаць даляры??

Дужа буду Вам ўдзячны за газэту. Карэспандэнцыю вышлю Вам гэтымі днямі. Пажадана мець Ваш адрэс. У другом лісьце напішу болей падробна.

Ваш Ячарапук
Mr. John Charapook
1041 N. Wood Str.
Chicago, ILL.
U.S.A.

**VIII. Ліст Янкі Чарапука (Чыкага) Барысу (?)[18] (Вільня) за 1.08.1923** *(БАНЛ. 21.291:1)*

Chicago, Ill.
1.08.1923

Паважаны дзяцька Барыс

Адкрыткі атрымаў. Цяпер пасылаецца Вам ад Камітэту 10 дол на аказаньне помачы Марысі Сівых. Прылажэце ўсе стараньне, каб гэту справу хутко урэгуляваць. Грошы ўсе даюцца у Вашэ распараджэньне на ўсе выдаткі, якія патрэбуюцца каб толькі справа у атрыманьні пашпарта і амэр. візы была зроблена хутка. Паедзьце самые у Варшаву і зрабеце усе для яе. Калі гэта справа удасца тады будзе яшчэ дзесяток такіх — а гэта дасьць там надтрыманьне вам усім, якіе групуецеся каля ред. «Н[ашага] С[ьцягу]» якую мы тут вельмі паважаем. Пастарайцеся, каб М.Сівых напісала сама добрае пісьмо пра Вас — угавареце яе. гэта у Вашых і нашых інтэрэсах. Затым нам паважана мець афіцыальнага прэдстаўніка нашага камітэту па Бацькоўшчыне праз якого будземо усе справы рабіць. Вызначце і паведамеце Камітэт. Затым напішэце сколько прыблізна каштавало бы выданьне штодзеннай газеты «Н.С.». Падайце суму у польскіх марках на ½ года. І сколько уважаеце патрэбным мець грошай ад нас, каб газэта выходзіла кожнаго дня. Затым хацелося бы ведаць Ваш нагляд на прыезд Варонкі да Амэрыкі? Ці маеце другога чалавека са сваей срады, як добрага рэдактара?..

Справа беларуская шырыцца і захоплівае ўсе новые штэйты. 19 жніўня адбудзецца пікнік — агітацыю распоўсюжываем вялікую — с заміраньнем душы следзімо якія будуць рэзультаты фінансавые

Гэта будзе першая помач Вам і тым, што мучаюцца у турмах. Нашая дапамога будзе бэзнасрэдна толькі перасылацца ар-

ганізацыям на Бацькаўшчыне, эміграцыю у Коуне і другіх гар. уважаем, што яна разлажылася, надобна расійскай і ўкраінскай, а таму да іх ня маемо веры. А ўся толькі надзея на тых, што знаходзяцца на роднай ніве. У сваей працы тут стаім на такім жа грунце, як і Вы там. Пажадана, каб Вы мне прысылалі па аднаму экзэмпляру кожнай газэты, якія выходзяць у Заходняй Беларусі.

Ваш Я[.Чарапук]

## СПАСЫЛКІ

[1] ДАЛ (Дзяржаўны Архіў Літвы). 582.2.32:112 (Ф.582, воп.2, адз. зах.32, арк.112).

[2] ДАЛ. 582.1.15:315&г.

[3] ДАЛ. 582.1.41:51&г.

[4] Беларускі Звон. 1922. №12(38). 13 траўня.

[5] Маецца на ўвазе Беларуская Партыя Сацыялістаў-Рэвалюцыянэраў (БПСР).

[6] Аляксандар Галавінскі — сябра БПСР, старшыня Беларускай Нацыянальнай Сувязі.

[7] Ўорэн Гардынг (1865-1923) — прэзыдэнт ЗША ў 1921-1923 гадох.

[8] Вудро Ўілсан (1856-1924) — прэзыдэнт ЗША ў 1913-1921 гадох.

[9] Юджын Дэбс (1855-1926) — сацыялістычны лідар, пяць разоў кандыдаваў у прэзыдэнты ў 1900-1920 гадох.

[10] Гэтае выказваньне сьведчыць аб атрыманьні пазыкі ад Ураду БНР, дакумэнтальнае пацьверджаньне чаго пакуль што ня знойдзенае.

[11] Асобу адрасата, а таксама згадваных у тэксьце ліста людзей выявіць не ўдалося.

[12] Леапольд Родзевіч — рэдактар шэрагу левых заходнебеларускіх выданьняў.

[13] «Новае Жыцьцё». Выходзіла ад 3.03 да 18.05.1923.

[14] Магчыма, старшыні Беларускага Нацыянальнага Камітэту Антону Луцкевічу.

[15] Віленская штодзённая расейская газэта, выходзіла ў 1922-1923 гадох.

[16] Магчыма, рэдакцыі газэты «Наш Сьцяг» (выходзіла ад 5.06 да 12.08.1923).

[17] У красавіку 1923 году.

[18] Адрасат невядомы.

*Публікацыя S.S.*

# У ПОШУКАХ МІТАЛЯГІЧНЫХ ГАРЫЗОНТАЎ БЕЛАРУСКАЕ ЛІТАРАТУРЫ

*(Два эсэ)*

Лявон Юрэвіч
Нью Ёркаўская Публічная Бібліятэка

## 1. «Русалчына бальляда»: міталёгія й дэманалёгія ў паданьнях С.Каўша

Калі б мне давялося ствараць сымбаль літаратуры, я зрабіў бы яго ў выглядзе кола — прыблізна так, як уяўлялася нашым продкам Кола Часу. Ідэі, жанры, мастацкія сродкі пастулова зьмяняюцца, зьнікаюць, каб вярнуцца йзноў на новым паварoце. А ў сярэдзіне кола зьмясьціў бы міталёгію — «сэрца» культуры, ад якога йдуць ніткі-«артэрыі», што злучаюць мінуўшчыну й будучыню: славутыя сто сюжэтаў — зь міталёгіі найбуйнейшыя творы сьвету — ад Гамэра да Т.Мана, Х.Л.Борхеса, Гарсіі Маркеса, М.Павіча — таксама бяруць свой пачатак у мітах.

Не адразу здолееш (а часам і падумаўшы — складана) прыгадаць твор — наш, беларускі, які б можна было безь перабольшаньня залічыць у гэты шэраг. І не ў адсутнасьці таленту, ідэяў, не ў правінцыйнасьці рэч. Зьвесткі пра багоў — у нашых казках і прыказках. А яшчэ, бадай, у працах гісторыкаў мінуўшчыны ды гасьцей вандроўных: у разнастайных сьпісах «Жыцьця Ўладзімера», Кроніках Бельскага й Стрыйкоўскага, гісторыях Арбіні й Таціщчава, працах Длугаша й Шлейзінга. Аднак тыя залацінкі, што ёсьць у нас, ідуць ад часу зьнішчэньня паганства і ўзвышэньня хрысьціянства, і ствараліся яны ўсе хрысьціянамі, што не прымалі старой рэлігіі, баяліся яе, як чорт ладану (дастаткова зірнуць на малюнкі ў кнізе Шлейзінга «Рэлігія Маскавітаў», 1712, дзе і Пярун, і Хорс, і Стрыбог — быццам розныя ўвасабленьні д'ябла). Пісьменства, што дайшло да нас, — скрозь хрысьціянскае. Летапісы, як і старажытна-царкоўная літаратура, імкнуліся па магчымасьці не называць імёнаў старых багоў. Чаму? З аднаго боку, гэта было жаданьне сьцерці суперніка з памяці народнай. З другога — паганства ўспрымалася як нячыстая сіла, якую лепей ня згадваць. Таму забароненыя (та-

буяваныя) імёны прапускаліся, зьмяняліся пры напісаньні, бо, як ні дзіўна, у хрысьціянстве захаваліся рэшткі магіі таго самага паганства, і ўжываньне сапраўднага імя асацыявалася з увасабленьнем зьвязанага з забароненым імем вобразу. У выніку гэтага старажытная беларуская міталёгія, прасеяная праз хрысьціянскую культуру, дайшла да нас мікраскапічнымі залацінкамі, захаванымі ў народных паданьнях, казках, легендах. Пісьменьнікам, якія імкнуліся аднавіць сувязі сучаснае культуры зь ейнымі старажытнымі вытокамі, вярнуць ёй жыватворную крыніцу — міталёгію, давялося браць на сябе ролю і гісторыкаў, і культуролягаў, і этнографаў.

Сёньня, калі паспрабаваць ахапіць беларускую міталягічную прозу, выразна бачым два кірункі ў аднаўленьні самых старажытных пластоў культуры беларусаў. Першы — Яна Баршчэўскага й Максіма Багдановіча, фальклёрна-міталягічны, наблізаны да народнага сьветаўспрыманьня (бо й выйшаў адтуль). Другі — кніжны, «элінскі», увасоблены найбольш яскрава ў творах Вацлава Ластоўскага.

Чаму я напісаў «элінскі»? У якасьці тлумачэньня хачу прывесьці ідэю В.Сянкоўскага, якая вабіць сваёю складнасьцю й прыгажосьцю. Магчыма, кнігі гэтага таленавітага пісьменьніка й філёляга ня ў кожнага пад рукою, таму дазволю сабе вялікую цытату. Можа, цяпер напаўзабытая тэорыя сустрэне большую прыхільнасьць калі не гісторыкаў, дык прынамсі філёлягаў:

> «Въ повѣсти Гомера о путешествіи Улисса къ Циклопамъ и въ выдолбленіи единаго глаза Полифему, что въ переводѣ значитъ Ярославу (титулъ скиѳскаго Геркулеса, готскаго бога Харсъ, Хорсъ, Несторова Хорса), въ этой на видъ безсмысленной повѣсти — мы надѣемся вывести это съ надлежащей точностію — рѣчь идетъ подлинно о Кривичахъ и ихъ одноглазомъ Одинѣ. А правоученіе сказки: хитродумъ Улиссъ былъ такой проворный и тонкій витязь, что, проникши случайно къ страшнымъ гигантамъ, Велико-Руссамъ, передъ которыми трепещетъ вся Скиѳія и вся Гостиная Пучина, справился и съ ними наславу: въ области ихъ, обитаемой одноглазыми Кривичами и Людоѣдами, скотопасами, онъ умомъ и хитростію своей искоренилъ премерзкую великорусскую ересь, которая Геркулеса ставитъ выше

Юпитера — Ярослава своего выше могучаго Жива-Дива — напоилъ этаго великана сладкимъ греческимъ виномъ и высверлилъ ему глазъ коломъ. Результатомъ такой смѣлой и удачной экспедицiи нацiональнаго героя-плута должна была несказанно восхищаться базарная публика Гомера, съ дѣтства наслышавшаяся отъ нянюшекъ о существованiи за Понтомъ, за Гостиною Пучиною, свирѣпаго народа Великановъ-Руссовъ и, между ними, племенъ Одноглазыхъ (Кривыхъ) и Людоѣдовъ (Литовцевъ), которыхъ ересь, олицетворенная въ образѣ первенствующаго на небѣ бога Ярослава, а по-гречески Полифема, съ однимъ круглымъ глазомъ (cycl-ops) во лбу, ужасало языческое правовѣрiе Грековъ»[1].

Вацлаў Ластоўскі быў знаёмы з гэтай тэорыяй і прымаў яе: «Можна сказаць, што большасьць грэцкіх мітаў цесна зьвязана з нашымі прашчурамі Гэтамі... Навет наш сягоньняшні край быў вядомы грэкам у той час, калі тварыліся ў іх першыя міты. Відаць гэта з Гамэра і іншых паэтаў старой Грэцыі»[2]. Трэба зазначыць, што тэрмін «элінская міталягічная плынь» умоўны, ён выкарыстоўваецца як сынонім паняцьцяў «кніжны», «літаратурны».

Рэзкае разьмежаваньне «элінскай» і фальклёрнай плыняў — зьява рэдкая. Часьцей бачым сынтэз або канглямэрат, што цудоўна выяўляе, прыкладам, кніга С.Хмары «Аб багох крывіцкіх сказы» (Таронта, 1986). Праілюстраваць сказанае можна творамі Сьвятаслава Каўша. Ён — адзін зь нешматлікіх беларускіх пісьменьнікаў, хто пісаў у жанры міталягічнай прозы. Нізка паданьняў і легендаў С.Каўша выяўляе цікавыя й значныя асаблівасьці беларускай міталягічнай прозы. Праўда, трэба зазначыць, што асаблівасьці гэтыя на сёньняшні дзень яшчэ вельмі мала дасьледаваныя, як і наагул міталёгія беларускай літаратуры[3].

С.Коўш слушна зазначае ў прадмове да кнігі «Русальчына бальляда»[4]: «Для беларуса, думаючага дзяржаўнымі катэгорыямі, ягоная Бацькаўшчына ўяўляецца як цэласнасьць у яе розных імёнах на працягу амаль што тысячагадовае пісанае гісторыі». Міталёгія — крыніца спачатку народных казак, пазьней літаратурных твораў — зьяўляецца старажытным культурным фондам народу. Гэты пласт культуры выпрацоўваўся не адно стагодзьдзе, падпадаў пад розныя ўплывы й зьмены, у выніку

якіх нараджаліся ўяўленьні, што заканамерна разыходзіліся зь першапачатковымі.

Натуральна, пад узьдзеяньнем часу мяняліся сюжэты, перайначваліся ролі. Нязьменныя заставаліся, мабыць, толькі сымбалі. Такія сымбалі — міталягічныя элемэнты — сёньня ня проста йснуюць паасобку, а ўтвараюць адзіную структуру, у якой міталягізуюцца ня толькі старажытныя вераваньні, але часам і рэальныя падзеі, якія набываюць другасны сэнс і выкарыстоўваюцца ў якасьці матэрыялу для стварэньня новых мітаў, новых дачыненьняў паміж рознымі міталягічнымі схемамі. Так узьнікае апакрыфічная (адраджэнская) міталёгія.

Можна заўважыць, што пры ўсёй тэматычнай разнастайнасьці легенды С.Каўша уяўляюць сабою своеасаблівую трансфармацыю архетыпаў — той базы, якую выкарыстоўвае апакрыфічная міталёгія.

К.Юнг, заснавальнік аналітычнай псыхалёгіі, адзначыў істотную для нас акалічнасьць — мэтафарычны (не алегарычны) характар архетыпаў; ён разглядаў іх як шматзначныя сымбалі, а ня знакі. Характэрна, што архетыпы К.Юнга зьяўляюцца пераважна вобразамі, часам — ролямі (у С.Каўша — постаці Ўсяслава Чарадзея, князя Кейстута, князя Клецкага замку).

Мэханізм стварэньня апакрыфічнае міталёгіі часьцей за ўсё не залежыць ад часу ці месца падзеяў. Для ілюстрацыі думкі возьмем, да прыкладу, дзьве ўмоўныя нацыі, каб не паглыбляцца ў палітычную гісторыю. Уявім працэс — добраахвотны або гвалтоўны — іхнага аб'яднаньня. Што адбудзецца зь іхнаю духоваю культураю, асабліва культураю прыгнечанае нацыі? Больш моцная й багатая культурная традыцыя або цалкам убірае ў сябе залежную, або міталёгія пераможанага народу губляе свой першасны сэнс, сваю сакральнасьць, і тады старыя формы міту напаўняюцца новым зьместам у адпаведнасьці з патрэбамі часу. Такая здольнасьць міталёгіі да рухомасьці, відазьмяненьня тлумачыцца падвойнаю структураю міту — гістарычнаю й пазагістарычнаю, часаваю й пазачасаваю. Але гэтая ўяўная супярэчнасьць паміж вечным і часовым здымаецца спэцыфікай міталягічнага пазнаньня, якое поўнасьцю грунтуецца на ўяўленьні, бо ўзьнікла, як ведама, тады, калі ўсіх іншых мэтадаў пазнаньня яшчэ не йснавала.

Разумеючы ролю міталёгіі ўвогуле й сымбаляў у прыватнасьці, В.Ластоўскі пісаў: «Трэба памятаць, што міталёгія многіх

народаў нічога супольнага з тэасофіяй ня мае, як прыклад можа служыць лацінская міталёгія. Лічу патрэбным гэта зазначыць дзеля таго, каб стала відней, *што* з нашай міталёгіі належыць да тэасофіі, а што зьяўляецца толькі сымбалем пройдзенай народам гісторыі»[5].

Беларускія пісьменьнікі, у адрозьненьне ад славутага героя Х.Л.Борхеса П'ера Мэнара, не перапісвалі гісторыю, не стылізавалі свае творы пад старадаўнія паданьні. Яны ўзнаўлялі тую гісторыю Беларусі, што ніколі не была адлюстраваная ў помніках.

Галоўная ідэя беларускіх пісьменьнікаў, якія ўзнаўлялі легендарную мінуўшчыну сваёй Бацькаўшчыны і на гэтай аснове стваралі апакрыфічную міталёгію, — ідэя магутнай дзяржаўнасьці, зьнітаванасьці сучаснага й мінулага, прысутнасьці ў сёньняшнім дні велічных постацяў нашых продкаў. Прыгадаем творы Янкі Купалы «На Куцьцю», Сяргея Хмары «Услонім- гарадок»[6]. Гэтую самую тэму працягвае і С.Коўш у легендзе «Зачараваны князь».

> «Над берагам павольнай Лані стагодні сон снуе стары курган. Увакол яго забытыя магілы зайздросна берагуць астанкі паўшых тут барацьбітоў. Іх шмат; ніхто імёнаў іх ня зьліча, ня паліць сьвечак ім у дзень Дзядоў. Там сьпяць сыны бязьмежных стэпаў, Татары — гадунцы Арды, там прэюць косьці сьмелых Швэдаў, а побач іх ляжыць Маскаль, Паляк і Беларус. Іх прыняла крывіцкая зямля, ім кветкі сее беларуская вясна, а Лань ім казкі свае бае. Няўмольных ворагаў у жыцьці, іх пагадзіла сьмерць. Старое замчышча — курган — іх сон вартуе».

Пасьля традыцыйнага для паданьняў зачыну, адданьня даніны павагі продкам, незалежна ад іхнага веравызнаньня й нацыянальнасьці, ідзе апавяданьне пра падзеі, што адбыліся «даўно, даўно, шмат соцен год таму назад». Тады на кургане стаяў Клецкі замак. Ён славіўся багацьцем і гандлем: з-за Прыпяці й Дняпра, з-за мора прыплывалі замежныя купцы, везьлі тавар і куплялі мёд, збажыну, скуры звярынаў. Калі ж нападалі татары, княжая дружына іх сустракала на мяжы й гнала прэч. Тады воям дапамагала й зямля: лясы, балоты, паплавы. Але на сьвеце нічога вечнага няма. І аднойчы татары штурмам узялі Клецкі замак, спустошылі зямлю, забілі князя.

> «Плылі гады, плылі вякі... Ды памяць вечная кругом жыве у погудцы людзкой аб справах прош-

> ласьці глухой. Сівыя кажуць там дзяды, што і дагэтуль князь жывы, што дух ягоны ад тых дзён вартуе верных вояў сон. І раз адзін на год старое будзіцца жыцьцё: апоўначы у замку тым ўстае дружына з дамавін, ды князь сядае на пасад, а зь ім княгіня. Вояў рад стае з дабытымі мячамі, іскрыцца толькі сталь агнямі: гатовы ў бой на князеў знак! Старыя людзі кажуць так, што мовіць слова князь тагды да ўсіх людзей сваёй зямлі аб тым, што час пакінуць сон і час закончыць свой прыгон. Хай ўсе зь няволі устаюць, што соннаю душой існуюць ды топчуць грэшнымі нагамі сьвятыя прадзедаў сьляды. Хай распачнецца валаданьне сваіх людзей у сваім краі! Ды пройдуць доўгія гады, а можа цэлыя вякі, аж словы тыя хтось пачуе, пайме заклятую ў іх моц, народ зь няволі уратуе, прагоніць немач з краю проч».

Легенда трансфармуецца ў міт на аснове галоўнага структурнага элемэнту гераічнага міту — другога нараджэньня, нараджэньня пасьля сьмерці. Тыпалягічнае адзінства міталягічных архетыпаў трансфармуе легенду ў гераічны міт. Адсюль ідэйная агульнасьць названых твораў Янкі Купалы, С.Хмары і С.Каўша, нягледзячы на адрозьненьне іх і ў зьмесьце, і ў форме. Сутнасьць справы не мяняецца ад таго, што ў паданьні С.Каўша замак загінуў не праз занядбаньне памяці продкаў, а саступіўшы навале ворага: каб узьняцца зь мёртвых, трэба выпіць той казачнай чароўнай вады — пачуць словы князя — адчуць, узгадаць сваю мінуўшчыну. Таму ж, хто топча сьвятыя прадзедавы сьляды, усё жыцьцё наканавана йснаваць у прыгоне. Ня так істотна, якім чынам трапілі мы ў такое становішча, бышцам кажа аўтар, выйсьце адно — помніць сваё мінулае, гераічных продкаў, шанаваць іхную памяць і чэрпаць сілы ў духовай сувязі зь імі.

Паданьне С.Каўша «Біруга» належыць да так званага Кнідзкага міту. Міт узьнік на пачатку нашай эры на паўвысьпе Кнід (Малая Азія). Першыя варыянты гэтага міту зьявіліся ва ўмовах барацьбы раньняга хрысьціянства з паганствам. Гэтая барацьба монатэізму з політэізмам суправаджалася пэўным узаемапранікненьнем абедзьвюх рэлігіяў: прыхільнікі старой веры й пасьля прыняцьця хрысьціянства не маглі адмовіцца поўнасьцю ад былой веры. (Прыгадаем Страціма з рамана Я.Дылы «На

шляху з варагаў у грэкі».) Такая самая рэлігійная сытуацыя была ў Беларусі ў XIII стагодзьдзі. Напрыклад, у А.Варлыгі мы чытаем:

> «Калі ў пачатку XIII веку на нашых землях заснавалася Вялікае Княства Літоўскае, дзе вялікія князі ўважалі сябе паганінамі, але пры сваіх дварох заводзілі хрысьціянскую культуру й пісьменства, дык тады ў сем'ях князёў і баяраў былі пераблытаны між сабой паганскія й хрысьціянскія звычаі, што тут нялёгка было адрозьніць, хто зь іх паганін, а хто хрысьціянін. Усё гэта спрыяла рэлігійнай талеранцыі ў краіне ды яднала між сабой і хрысьціянаў і паганаў. Можна прыпушчаць, што гэткі стан рэлігіі сярод і вышэйшага нашага грамадзтва цягнуўся аж да часоў рэлігійных звадак у краіне [...] Але сярод масаў ніжэйшага мяшчанства й сялянства мешаніна рэлігіі (хрысьціянства й паганства) працягвалася аж да XX веку. У бажніцах (цэрквах і касьцёлах) яны сумленна выконвалі хрысьціянскія абраднасьці й павіннасьці, дома — паганскія».

Сутнасьць Кнідзкага міту, ягоны стрыжань — разьяднаньне мужчыны й жанчыны духамі, багамі (што часьцей) або іх узьяднаньне праз перашкоды й выпрабаваньні. Героі гэтага міту звычайна пражываюць некалькі стадыяў: знаходзяцца пад уладаю ідала (статуі), належаць яму, сустракаюць чалавека, кахаюць яго, спрабуюць вырвацца з-пад улады ідала і, нарэшце, пасьля працяглай барацьбы з апошнім, перамагаюць або гінуць.

Паданьне С.Каўша пра рэальных асобаў нашай гісторыі — Кейстута й яго жонку Біруту. Паводле гістарычных зьвестак, князь — хрысьціянін, падзеі ж паданьня зьвязаны з культам паганскіх багоў.

> «Жыла там гожая жмудзінка, а сны аб ёй снаваў ліцьвін. Яна радзілася з туману, румянец ёй дала зара, сьвітаньне бляск уклала ў вочы, бяліла грудзі ёй раса. Шумелі пушчы верхавіны, гулі сярдзітыя дубы, зь Бірутай — звалі так жмудзінку — размаўляліся багі. Яна ім цноту абяцала, агонь паліла ім сьвяты, а ёй служылі казьляры. Складалі песьні вайдэлёты пра чар дзявочае красы, а ім падпейвалі лясы.

Была Бірута гожаю сьвятаркай. Сьвятыняй быў ёй гай сьвяты, а хорамам — дуб стары. У дубе тым жылі багі. Ахове Зьніча — вогнішча таго — Бірута прысягла жыцьцё. Ёй недаступны чары Лады, затое ў выраі левады ёй абяцаюць сьвятары. Багом аддацца кажа Крэвэ — найстарэйшы з казьляроў».

Як бачна, у паданьні ёсьць усе фазы Кнідзкага міту: Бірута цалкам належыць багом, але толькі да таго часу, пакуль не сустрэла ў лесе князя Кейстута, пакуль яны не пакахалі адно аднаго, нягледзячы на тое, што «за здраду вернасьці багом Біруце помсту Мара абяцала, чакала лютая расплата ад Перуна». Супраць Біруты паўстала зямля: гнуўся ад буры лес, зіхалі маланкі, выйшла зь берагоў Вяльля. Тым ня менш Бірута й Кейстут злучыліся.

У Кнідзкім міце зямное каханьне пераважна саступае, нясе страту, сьмерць — не збаўленьне. У «Біруце» каханьне перамагае: «Ці ж можна зьнішчыць пачуцьцё, зь якога зродзіцца жыцьцё, што славаю краіны стане». Цікава адзначыць, што гэтае прароцтва йдзе ад духа-вешчуна — служкі паганскіх багоў. Значыць, багі даравалі Біруце ейную «здраду» — дзеля славы Бацькаўшчыны. І таму канец апавяданьня — нібы пачатак новага: «Тваё імя уславіць сын, Вялікі Князь Літвы — ліцьвін. Яго прызнае ўся Літва, і Жмудзь скарыцца перад ім. А Вітаўт будзе гэты сын».

І яшчэ адно паданьне, якое можна аднесьці да так званага «элінскага» цыклу — «Усяслаў Чарадзей». Параўнальна з папярэднімі, у ім больш захавана гістарычнай праўды, адпаведна з рэальнымі падзеямі: паланеньне Ўсяслава ў Кіеве, княжаньне там і вяртаньне ў Полацак.

Тое, што загадкавы вобраз Усяслава Чарадзея выкарыстоўваецца ў апавяданьні С.Каўша — ня дзіва. (Успомнім шэраг літаратурных твораў ад манумэнтальнага «Слова пра паход Ігаравы» да вершаў Л.Геніюш.) Усяслаў княжыў 57 гадоў, і народ быў перакананы, што ён мае надзвычайную сілу, што ён чарадзей. Нездарма ж пра таямніцу яго нараджэньня згадваюць летапісы: хадзілі чуткі, што бацька ягоны — Зьмей, што маці нарадзіла яго ад чарадзейства. Быццам бы на галаве Ўсяслаў меў знак, мету, «язъвено», ад якогай йшла ягоная сіла. Ля яго калыскі зьбіраліся вешчуны.

Такая перадгісторыя стварыла вобраз Усяслава Чарадзея — быццам бы хрысьціяніна, але, па сутнасьці, прыхільніка паганства.

Насьледуе сюжэт і С.Коўш. Ягоны Ўсяслаў — перш за ўсё ахоўнік Полацкага княства, горды й літасьцівы. Разьбіўшы вояў Ноўгараду, ён згадвае, «як калісь Полацак ляжаў стаптаны чужынцамі, як наўгародзкая нага таптала дзедаву сьвятыню, як Рагвалод у дымох пажараў паміраў». Памятае пра ўсё, але ня помсьціць. І, здаецца, ствараецца канапічны вобраз, у якім няма месца міталёгіі.

Але С.Коўш бярэ з сымболікі міталёгіі параўнаньне «як воўк», якім і характарызуе Ўсяслава: «Ён нездарма, як воўк, па ночы краіну мераў борздым ходам, ад рубяжа да рубяжа... Для іх Усяслаў пакінуў Кіеў, каваны золатам пасад і шэрым воўкам ў Полацак зьлятаў». І тым самым пераводзіць вобраз у міталягічны плян.

Сымбаль ваўка ў міталёгіі шматзначны. Воўк можа займаць як ніжэйшую, так і вышэйшую прыступку ў іерархіі міталягічных істотаў (пар. у зораастрызме). Праўда, пры гэтым воўк заўсёды сымбалізуе адасобленасьць чалавека ад грамадзтва. Параўнаньне з ваўком ужо зьяўляецца характарыстыкай князя й таго месца, якое ён займаў у Полацку і ў Кіеве.

Аднак вобраз-сымбаль ваўка-ваўкалака глыбейшы. Перш за ўсё гэты вобраз-сымбаль нясе ідэю пераўвасабленьня. Усяслаў можа мець другое цела, ён становіцца ваўком або птахам. Зьменам цела адпавядае хуткая зьмена лёсу — зломы, што адыгралі істотную ролю ў асэнсаваньні князя як ваўкалака ў летапісах і фальклёры. Здольнасьць пераўвасабляцца зьвязаная з магчымасьцю аддзяленьня душы ад цела; душа (думка) ваўкалака вольна пераходзіць з адной цялеснай абалонкі ў другую:

> «Праз краты вузкага ваконца Ўсяслаў глядзеў, як прамень сонца гуляў у крылцах матылькоў. Ён лётаў думкамі у Полацк, ён чуў званоў радзімых голас, ён бачыў сьветлую Дзьвіну, сівое далечы смугу. На крыльлях вольных сакалоў днём лётаў думкамі дамоў».

Роля ваўка дваякая: ён і ахвяра, і паляўнічы. Матыў пагоні, у сваю чаргу, зьвязаны з хуткасьцю руху («Паночы князь Усяслаў, як здань, хадзіў няраз у Тмутаракань»).

Такім чынам, Усяслаў у абліччы ваўкалака надзелены здольнасьцю да цялесных пераўвасабленьняў і аддзяленьня душы (думкі) ад цела. Пералічаныя здольнасьці выяўляюцца ва ўладзе над часам і робяць Усяслава Чарадзеем. І, можа, таму, што

С.Коўш надае постаці князя такое значэньне, ён заканчвае апавяданьне наступным чынам: «калі памерла стомленае цела, магутны дух Усяслава Чарадзея трымае варту Беларускае Зямлі».

Разгледжаныя паданьні належаць да «элінскага» цыклу — апакрыфічнай, адраджэнскай міталёгіі. Іхнымі крыніцамі можна лічыць літаратуру й рэальную гісторыю, а таксама пэўныя гістарычныя падзеі ў часе напісаньня. Пералічанае робіць зразумелым, чаму адзначаны тып міталёгіі адносна малады.

Напачатку артыкула было згадана й пра другую плынь у беларускай літаратуры — фальклёрна-міталягічную. Пра яе, у дачыненьні да Яна Баршчэўскага, Р.Падбярэскі пісаў: «Тое, што піша п. Баршчэўскі прозай, не датычыць непасрэдна ні гісторыі, ні літаратуры, ні мовы Беларусі, але рэчы больш важнай, а менавіта духу й паэзіі народу, адкуль выйшлі і гісторыя, і літаратура, і мова. Ухапіўся ён за самую жыцьцёвую аснову і вырашыў паказаць у мастацтве вялікі народны вобраз. Ён мае перад сабою народ, часта з усёю прывабнасьцю фантазіяў з паганскіх часоў, якія ён апраменьвае сваім беларускім гафманізмам. Як у балядах ён стараўся паказаць пачуцьцёвы бок паэзіі народу, так у апавяданьнях — яго творчасьць і нібыта нейкую філязафічнасьць паняцьцяў пра быт, авеяных уласнай яго фантазіяй»[7].

Разуменьне сутнасьці й зьместу фальклёрна-міталягічных апавяданьняў грунтуецца на ўяўленьнях пра міталягічныя йстоты й чалавечыя зносіны зь сьветам ірэальнага, якія трансфармаваліся ў літаратуры ў ідэю йснаваньня некалькіх узроўняў нашага жыцьця. Вера ў прадказаньні, сны таксама паслужыла крыніцаю народнае фантастыкі. Увогуле, тэма сну надзвычай істотная ў літаратуры. (Прыгадаем, напрыклад, паэму «Тарас на Парнасе», «Лябірынты» В.Ластоўскага, «Багіню» А.Гаруна й г.д.) Сны ў міталёгіі — сувязь памяці з продкамі, генэтычная повязь нашчадкаў зь мінулым. Але — і невядомае, часам варожае (бо непадуладнае). Фальклёрна-міталягічная проза адлюстроўвае сьветапогляд і характар народу, становіцца асаблівасьцю мясцовага калярыту, складоваю часткаю народнага побыту. І, што асабліва цікавіць нас, яна захоўвае рэшткі дахрысьціянскіх вераньняў.

У дачыненьні да фальклёрна-міталягічнай прозы С.Каўша ў першую чаргу трэба адзначыць уласьцівы аўтару антыэкзатычны

падыход да сьвету міталягічных і дэманалягічных пэрсанажаў. Апісаньне йдзе без захаваньня «дыстанцыі», быццам знутры, і рэчаіснасьць у творах успрымаецца як нейкая патрыярхальная еднасьць і натуральнасьць. Сьвет патаемнага, містычнага стваераецца перш за ўсё шляхам адбору й выкарыстаньня спэцыфічнай спрадвечнабеларускай лексыкі:

> «Чароўны сьвет забытых казак... Табой спавіта Беларусь. Цябе зрадзілі нашы пушчы, расой паілі вечары; ты зачарована ў курганах, за сьведкаў маеш камяні. Твой дух лунае над краінай: выходзяць цені з дамавін і паржавелымі мячамі яны пра сьмелы сьведчаць чын; у лёхах замчышчаў забытых заснула вояў чарада; на вежы старае званіцы зьвіняць апоўначы званы: іх парушае дух — званар стары... Выходзіць з вод чарга русалак і ў сьлёзным зорна-месячным сьвятле спраўляе гучны карагод. Чароўны сьвет забытых казак! — цябе сьпяваюць калыханкі, ты дрэмлеш у ленасьці палёў, гамоніш шумам каласоў».

Месца дзеяньня, адлюстраванае ў паданьнях, сканцэнтравана звычайна каля воднай прасторы, рэк, дакладней, Ракі. Нават назовы твораў — «Белыя лілеі», «Чортаў вір», «Таямніца Сулы», «Сула шапоча» — паказваюць на гэта. А ў паданьні «Русальчына бальляда» згадваецца рэчка Вяльля, пра якую Юрка Віцьбіч напісаў: «Сама красуня Вяльля знайшла значны адбітак у паданьнях і мастацкай літаратуры трох народаў: беларускага, польскага й лятувіскага». Рака, адначасна з мовай, тэмай, настроем, аб'ядноўвае ў нешта адзінае нізку твораў, якія, здаецца, нічым між сабою ня зьвязаныя.

Абраньне Ракі месцам дзеяньня вызначаецца сымболікай міталёгіі, дзе яна выступае мяжою паміж двума бакамі сьветаўспрыманьня — людзей і дэманаў, жыцьця й сьмерці. У славянскай (дый ня толькі славянскай) міталёгіі Рака — пэўны аналёг хрысьціянскага чысца. Ён уяўляўся продкам як змрочнае месца, дзе грэшнікі павінны цярпець пакараньне. Пасьля больш-менш працяглага знаходжаньня па той бок Сьвят-ракі (г. зн. паміж Жыцьцём і Сьмерцю, канчатковай сьмерцю) яны пераходзілі да Сварога.

Разам з тым, Рака выступае й як геаграфічная мяжа: рэкі ахоўваюць краіну. І ў гэтым выпадку пераход ракі асэнсоўваецца

як сьмерць. (Напрыклад, неаднойчы прыгаданая Сула зьяўляецца мяжою ў «Слове пра паход Ігаравы».)

Сьвет прыроды ў паданьнях напоўнены жыцьцём — бачным і нябачным, відавочным і патаемным, прывабным і агідным. Духі прыроды — гаспадары багнаў і рэк — непарыўныя з прыродай, але сама яна не вычэрпваецца імі. Таму ў легендах сустракаюцца апісаньні прыроды, але звычайна невялікія. Падаюцца яны своеасабліва: апавядаецца ня толькі пра тое, што можа бачыць чалавек, але й пра нябачнае для ягонага вока, уяўнае, містычнае. Так краявід набывае другое вымярэньне — духовае, адлюстроўвае сувязь прыроды з дэманалягічным сьветам:

> «Паміж пяшчаных берагоў плыве Вяльля, плыве сягоньня, як плыла гадоў шмат тысячаў назад. У зялёнай тоні яе вод спраўляюць рыбы карагод: лускою зьзяюць шчупакі, паважна плаваюць ліны. Уночы месячныя косы расьсьветляць пар белавалосы і на заснуўшыя лугі русалка вынырне з вады. Вада сплывае зь яе веек, у косы ўблыталісь лілеі, а вусны шэпчуць дзіўны сказ» («Русалчына бальляда»).

Асноўны дэманалягічны пэрсанаж у паданьнях — русалкі, або, як яшчэ іх называлі, жаліцы, бо перарвалі сваё жыцьцё, няма ім сапраўднай сьмерці, няма ім супакою. Сустрэчы зь імі прыносяць толькі няшчасьце. «Каханьне хлопцам абяцае, іх песьняю вабіць, красой, а возьме ў абдымкі — загубіць, насьмешыцца так, як калісь хлапец насьмяяўся над ёй». Паколькі русалка, бадай што, адзіная постаць у міталёгіі, што некалі была чалавекам, яна служыць злучвом паміж людзьмі й дэманалягічным сьветам.

Зносіны чалавека з духамі прыроды, наяўнасьць апошніх у штадзённым жыцьці — ня проста паўстае ў паданьнях С.Каўша як магчымае, але зьяўляецца звычайнай формай існаваньня двух пачаткаў. І духі, і людзі ўключаныя разам у прыроду й нават культуру. У паданьнях амаль што не адлюстроўваецца праца людзей, іхны побыт. Творы населеныя людзьмі своеасаблівага лёсу, часьцей — ахвярамі жарсьці, якая прыводзіць спачатку да кантактаў з дэманамі, а пазьней — да непазьбежнай сьмерці. Так або йначай, сутыкненьне чалавека з патаемным сьветам надзвычай небясьпечнае. Паданьне «Чортаў вір» менавіта пра гэта. (Цікава адзначыць распрацоўку гэтай самай тэмы ў балядзе Я.Баршчэўскага «Дзявочая крыніца»[8].)

Каханьне млынаровай дачкі Галіны й вясковага хлопца Янука было сьветлае й ціхае. Маладым здавалася, што ня толькі іхныя сэрцы, але і ўсё вакол пра любасьць шэпча. Нават заможны млынар, даведаўшыся пра іхнае пачуцьцё, даў згоду — дарма што Янук бедны.

Ды вось у панскі двор прыехаў госьць.

> «Казалі — панін брат. Таемны быў ён, непрыветны. Дарма, што гожы быў сабою: яго ў палацы не любіў ніхто. У вачох нядобры бляск палаў. Глядзець у вочы іншым госьць нейк унікаў. Ня знаў ніхто, адкуль прыйшоў ён ды чаго, як доўга будзе і пашто начамі конна езьдзіць ён у лес».

Гэтага госьця баяліся і пан, і пані. Паступова чытач разумее, што перад ім — не чалавек.

Аднойчы, калі «пан» (узгадаем, што ў беларускім фальклёры так часта называлі чорта) прыехаў на млын, ён убачыў дзяўчыну. З таго часу

> «...начны прыход палохаў Галю. Бо кожны раз, як сон змыкаў павекі, зьяўляўся Ён, спакусьлівы і злы. Прыходзіў і вабіў халодным поглядам вачэй, пагрозы позіркам кідаў або багацьце абяцаў ёй за каханьне. Будзілася Галіна зь цяжкім стогнам — здань зьнікала. Як гасьне сьвечка, так Галя гасла з кожным днём».

Людзі й духі адчуваюць розныя патрэбы, якія, да таго ж, існуюць па-за тэкстам. І толькі на адной агульнай патрэбе — каханьні — акцэнтуецца ўвага. Роля каханьня ў жыцьці й паводзінах — выключная. Менавіта гэтае пачуцьцё зьяўляецца штуршком і рухавіком падзеяў у паданьнях. Подых пансэксуальнасьці ахоплівае ўсіх, і нават, як бачым, самога д'ябла. Каханьне людзей, замілаваньне адным аднаго і гвалтоўны націск чорнае сілы — розныя праявы сэксуальнасьці. У найбольш звычайных выпадках яна вядзе да сьмерці, да павелічэньня зла (пераўтварэньне ў русалак). А ў другіх (паданьне «Бірута») толькі каханьне становіцца галоўнаю перашкодаю сьмерці. Сэксуальнасьць духаў мацнейшая за чалавечыя пачуцьці, і накіраваная яна на сьмерць, а не на жыцьцё. Каханьне ж людзей часам можа зьявіцца адзінаю маральнаю сілаю, якая дапамагае ім супрацьстаяць злу.

Паміж людзьмі й сьветам духаў існуе пэўны бар'ер. З аднаго боку, гэтыя два сьветы падзяляюцца прыродай і рэкамі, якія ча-

лавек ня можа проста пераадолець. З другога боку, дом чалавека — яго ахова, уварвацца туды д'яблу — рэч складаная.

> «Было нейк раз [...] Шалела бура за вакном. Такое буры тут ніхто ня помніў. Праз гоман буры і дажджу выразны стук у дзьверы сеняў чуўся. Галіна выйшла адчыняць. Назад бяз памяці яе унесьлі. Хто стукаў ў дзьверы ў гэту пору? Аб чым Галіне ён казаў? Адкуль прыйшоў, куды ён зьнік? Галіна ведала аб тым, але яна бясслоўная ляжала».

Начны госьць (Ён) ня здолеў увайсьці ў дом, але думкі чалавека, ягоны сон (што адзначалася вышэй) падуладныя Яму.

Аб тым, што дакладна ўбачыла й пачула Галіна, мы ня ведаем. Але Агата, жабрачка з блізкага сяла, бачыла бойку Янука з «панам» і бажылася, «што Янук трымаў за чуб чарта, а чортам быў той панін брат. Зялёны бляск палаў у яго вачох і сьмех чартоўскім дробным рэхам рассыпаўся, калі парой гару ён браў над Януком. Змагаліся яны так доўга, аж пакуль Янук магутным штурханцом зваліў у вір ракі праклятага панка».

Вядома, Ён не загінуў: вір ракі для Яго — родны дом. Дый пазьнейшыя падзеі сьведчаць пра тое: Янук згінуў, млынар памёр, а млын сарвала вада (ці ж ня помста жыхароў патаемнага сьвету?). Аднак было б памылкай лічыць, што сэнс паданьняў (у тым ліку нізкі легендаў пра русалак — дзяўчат, што скончылі жыцьцё самагубствам) можна зьвесьці проста да перамогі д'ябла. Так, старыя багі зьніклі, новых яшчэ няма, і здаецца, што адзіны прэтэндэнт на вакантнае месца — Валадар Цемры. Але паданьні С.Каўша спрабуюць акрэсьліць шляхі ўтрыманьня сябе на гэтым баку Ракі: сапраўднае каханьне, разуменьне — хто Я, адкуль прыйшоў і куды йду.

Кніга С.Каўша дапамагае аднавіць і лепей зразумець згубленыя старыя міты й тую міталягічную рэчаіснасьць, што стаіць за імі. Бо міталёгія ўсіх краінаў, усіх часоў абавязаная сваім існаваньнем ня гэтулькі сьвятаром, колькі мастаком і паэтам.

## 2. «Лябірынты» Вацлава Ластоўскага: спроба разгорнутага камэнтара выбраных мясьцінаў

Мэтады пазнаньня й асэнсаваньня рэчаіснасьці фармаваліся на працягу не аднаго тысячагодзьдзя, і мітамысьленьне, якое грунтуецца на ўяўленьні, складала й складае базавую стадыю гэтага працэсу. Менавіта ўяўленьне служыла інструмэнтам пазнаньня, вынікі якога ўвасабляліся ў мітах. Сэміётыка мітамысьленьня невычарпальная, найчасьцей прыхаваная, часам нябачная. Мы маем справу зь літаратурнымі сюжэтамі, сакральнымі тэкстамі, археалягічнымі помнікамі. А першасны сэнс? Вобраз сьвету, вобраз чалавека?

Сэміясфэра была некалі мітасфэраю, міталягічнае мысьленьне разгортвалася як асобная мова, іерархічная сыстэма кодаў, што патрабуюць спэцыяльнай дэшыфроўкі. Тэрмін «міт» можа быць перакладзены з грэцкае мовы як «слова», «паданьне». І чым жа ў такім выпадку яно адрозьніваецца ад іншых словаў? Тым, што зьмяшчае ў сабе Існасьць, надзеленую сілаю найвышэйшага лёгасу. Сілу міту надае яго паходжаньне, бо міты — рытуальныя тэксты, вытворныя ад абрадаў. Міталёгія дае адказы на асноўныя пытаньні чалавечага быцьця, гаворыць пра касмагонію, рытуалы. Сапраўды, кожны рытуал узнаўляе Сьвятую гісторыю, апавядае пра сутнасьць Космасу. Ён мацнейшы за мову, якая здольная толькі апісаць, а не паўтарыць дзеі Найвышэйшага.

Паходжаньне міту зьвязанае з рытуалам. Рытуал — гэта драматызацыя міту ў асобах і рэчах. Міт жа выступае як вэрбалізацыя рытуалу, яго тлумачэньне. Сказанае дае падставы лічыць, што «сьвятарная драма» паганскага абраду спачатку разыгрывалася і толькі зь цягам часу стала апісвацца Словам.

Драма — дыялёг, драма — слова-дзея. Нават маналёг у ёй зьвернуты да аўдыторыі — таго сьвецкага, дэсакралізаванага жыхара сьвету, да якога зьвяртаўся ўдзельнік першай «сьвятарнай драмы» — рытуалу. Але ж мы сёньня палоньнікі прычынна-выніковага сьвету. Кожнае слова, рэпліка для нас — пытаньне «чаму» або «навошта» і адказ «таму што». У літаратуры гэта называецца сюжэтнасьцю твора. Сюжэт можа йсьці паралельна некалькімі лініямі, можа быць прыхаваны, але павінен быць абавязкова. У мітах жа прычынна-выніковага сюжэту няма. А разгортваюцца яны паводле прынцыпу аналёгіі, прэцэдэнту.

Старажытная рэлігія, касмаганічны міт адказвае ня толькі на пытаньне «як было», але й «як ёсьць», бо касмагонія не належыць мінуўшчыне, а працінае сабою ўсю рэчаіснасьць.

Рэлігійны культ немагчымы без эзатэрыкі. Міты зьмяшчалі сапраўднае веданьне і хавалі яго ад неўтаямнічаных, бо яно небясьпечнае перш за ўсё для самых прафанаў — Ісьасьць можа зламаць непадрыхтаванага, а можа проста схавацца ад яго, і той ніколі больш ня выйдзе за межы марнасьці пошукаў. Так нарадзіліся містэрыі.

Гэта былі рытуалы, як адзначана вышэй, што трымалі ў таямніцы як веды, так і самое сваё існаваньне. Драматычнымі відовішчамі й іншымі сродкамі містэрыі вучылі пра паходжаньне рэчаў, прыроду чалавечага духу, сувязь яго зь целам і сродкі ачышчэньня цела, вяртаньня да вышэйшага жыцьця. Існавала нават таемная мова; яна выкарыстоўвалася ўтаямнічанымі толькі пры абмеркаваньні сакральнага. Амаль кожны народ меў сваю містэрыю, сваю таемную мову, бязь веданьня якой містэрыі немагчыма зразумець.

Містэрыі нарадзіліся адначасна з словам, не памерлі яны й да сёньня.

Не адмаўляючы патаемнага ў творах мінулага, Умбэрта Эка мепавіта сучаснай культуры надае асаблівую схільнасьць да няпэўнасьці, падкрэсьлівае тыя працэсы, якія аддаюць перавагу полю магчымасьцяў перад адназначнай пасьлядоўнасьцю падзеяў, ствараючы амбівалентныя сытуацыі — адкрытыя для выбару й самага рознага роду інтэрпрэтацыяў[9].

Бадай што кожны сапраўдны мастацкі твор можна назваць містэрыяй, бо ён патрабуе ведаў і валоданьня «таемнай» мовай. Таму ня трэба дзівіцца, калі аповесьць В.Ластоўскага «Лябірынты» назавем беларускай містэрыяй XX стагодзьдзя, творам, дзе ідэі віюцца адмысловай лесьвіцай і прыступкі ад сонечнага сьвятла вядуць нас скрозь векавечны сон да мінулых пакаленьняў. Але «Лябірынты» В.Ластоўскага зьяўляюцца містэрыяй і ў непасрэдным значэньні слова. Гэта няцяжка паказаць, калі зьвярнуцца да шматлікай спэцыяльнай літаратуры, прысьвечанай містэрыям, вядомай чытачу на мяжы стагодзьдзяў.

Разам з тым аповесьць належыць да кніг, якія складаюць фундамэнт адраджэнскай літаратуры й філязофіі. Такіх фундамэнтальных кніг ня так і шмат, і далёка не заўсёды іх вылучаюць высокія мастацкія якасьці, калі гаварыць аб творах, што

належаць да мастацкай літаратуры, але заўсёды ў іх ставяцца й разьвязваюцца найбольш важныя, карэнныя, найбольш балючыя для нацыі праблемы. Гэтыя кнігі пісалі людзі вялікай эрудыцыі й шырокага кругагляду, якія, можа, упершыню адчулі надзею на адраджэньне беларускае культуры. Гісторыя беларусаў поўная стратаў, і адна зь вельмі значных для беларускае культуры — страта ўласнае міталёгіі. Аб яе былым багацьці можна меркаваць па казках, паданьнях, якія захаваліся да нашых дзён.

Дазволім сабе спаслацца на ведамага навукоўца Паўла Шпілеўскага: «Уклад жыцьця й звычаі, паданьні й павер'і, казкі й аповесьці адгукаюцца міталягічнаю даўнінoю... У Беларусі да сёньня захоўваюцца ў народзе казкі й паданьні пра паходжаньне фантастычных герояў, князёў і царовічаў, пра нябачных духаў і цудоўныя сілы, — ладзяцца сьвяткаваньні і йгрышчы паганскага побыту. Гэта таму, што цяперашняя Беларусь некалі была галоўным сэрцам славяна-рускіх паганскіх вераньняў, дзе ў гонар багоў ствараліся куміры. Безумоўна, з прыняцьцем хрысьціянскай веры ідалы й капішчы былі зьнішчаныя, але паданьні, захаваныя народам, не маглі быць зьнішчаныя, вусныя паданьні захоўвалі ў народзе ўспаміны пра вераньні продкаў. Гэтаму спрыяла й тое, што хрысьціянства не адразу ўмацавалася ў сэрцы старажытнай Русі, але паступова: гэта значыць, паданьні знаходзілі сабе апору ў паганскіх вераньнях суседніх славянскіх плямёнаў, і такім чынам жыхары сучаснай Беларусі, будучы хрысьціянамі, усё яшчэ мелі нагоду захаваць памяць і ўяўленьні пра паганскае жыцьцё. Прайшло некалькі стагодзьдзяў пасьля ўсталяваньня хрысьціянства ў Беларусі, а паданьні пра духаў, таемныя сілы, вядзьмарак, заклятых людзей, русалак, пярэваратняў і іншых страшыдлаў ня сьцерліся, але зь цягам часу ўвасобіліся толькі ў паэтычны вымысел і прынялі маляўнічы каларыт у вуснах апавядальніка.

Такая Беларусь сяньня!.. І таму ня можа не зьвяртаць на сябе ўвагу адукаванага чалавека, які імкнецца пазнаёміцца з старадаўнім побытам сваіх аднаплямецьнікаў... Нас цікавяць паданьні й вераньні старажытных грэкаў і рымлян, мы пішам пра іх звычаі, міталёгіі, мову, нават застольлі; чаму ж не пісаць пра родную Беларусь, якая так багатая сваімі самабытнымі звычаямі, міталёгіяй, мовай і, нарэшце, ігрышчамі й сьвяткаваньнямі»[10].

Нават калі й ня поўнасьцю пагадзіцца зь цьверджаньнем Ігната Абдзіраловіча, што Беларусь, паганская паводле сваёй сутнасьці,

не прыняла ні заходнюю, ні ўсходнюю культуру, трэба згадзіцца зь ягоным меркаваньнем, што ў выніку барацьбы заходняга і ўсходняга ўплываў зьнішчылася старажытная самабытная беларуская культура[11]. Гэтая думка Абдзіраловіча супадае зь меркаваньнем В.Ластоўскага: «Для ваяўнічага хрысьціянізму, які нішчыў усё паганскае, усе старой веры — і сьвятары, і грубыя шаманы, і варажбіты — былі агульна пагарджанымі жрацамі. Гэтая староверная, з высокай культурай, інтэлігенцыя, брыдзілася змагацца забойствамі з новай верай і эміґравала ў глухія пушчы на ўзьмежжы староверная і аднавернай зь імі Жмудзі»[12].

Дзеячы беларускага адраджэньня добра разумелі важнасьць вяртаньня да культурных вытокаў — каранёў нацыянальнай самасьвядомасьці. Сярод іх быў і Вацлаў Ластоўскі. Як сьведчыць К.Езавітаў, Вацлаў Ластоўскі быў «чулы й просты чалавек, паэт і навуковец, троху містык, якога цягнула да ціхае й пладавітае габінэтнае працы ў адзіноце, калі асабліва ясна працуе галава й шчыра адчыняецца сэрца для глыбокіх пачуцьцяў любові да Бацькаўшчыны»[13].

У асобе В.Ластоўскага шчасьліва спалучыліся розныя таленты: вучонага — гісторыка й філёляга, публіцыста й пісьменьніка, бібліёграфа й кнігазнаўцы, грамадзкага й палітычнага дзеяча. Ён, як ніхто іншы, усьведамляў ролю міталёгіі ў нацыянальнай культуры, ведаў, што параўнальнае вывучэньне міталёгіі сьцьвярджае агульнасьць мітатворчасьці ў культурах розных народаў.

> «Тое, што мы бачым у Грэцыі, паўтараецца ўсюды, дзе толькі цывілізацыя людзкая даходзіла да вышэйшых ступеняў: і ў Асырыі, і ў Бабілёне, і ў Эгіпце, і ў Індыі, у Кітаі й Японіі [...] Нашае няшчасьце ў тым, што край наш ня мае ні годнага да будоўлі камeньня, ні капальняў мінэралаў, а з гэтае прычыны адзіным, годным да будовы матар'ялам было дрэва, і нашыя мастацкія будоўлі былі драўляныя, малатрывалыя. Нашыя пісаныя памятнікі не на камянёх высякаліся, але начыркаліся на бяроставых пласткох, якія лёгка запаляліся і гнілі. Скажэце, каб у Эгіпце, Індыі, Бабілёне была драўляная культура, дык ці ведалі-б мы сяньня што-колечы аб ёй? Не»[14].

Разам з тым В.Ластоўскі добра ведаў гісторыю старажытнага Полацку, чуў пра йснаваньне шматлікіх падземных хадоў, якія

злучалі манастыры й храмы, лёхаў, тайнікоў, дзе захоўваліся скарбы й найбагацейшая ў Вялікім Княстве Літоўскім бібліятэка Сафійскага сабору. Нездарма дзея аповесьці разгортваецца ў Полацку й падзямельлях Верхняга Замку.

> «Старая веда й старая культура не загінулі. Кажуць людзі, а хто ж ведае, ці ёсьць у гэтым хоць кропля праўды, пад Верхнім Замкам, за магілай няведамага валадара, ёсьць склады з багацьцямі вялікімі. Кажуць, у вабход абшырнай грабніцы, направа, ёсьць мураваны праход крокаў на 60 удоўжкі, і празь яго ўваходзіцца ў сховы з старымі кнігамі. Часткай пісаны яны на дошчачках, часткай на бярозавых пластох. Зложаныя кнігі ў каваных серабром скрынях, у сярэдзіне абітых скурай. З гэтай кніжні пракавечнай ёсьць ход у скарбец... Толькі дужа страшнаісьці там»[15].

Аўтару ўдалося спалучыць у сваім творы ідэі параўнальнае міталёгіі з фактамі й легендамі з полацкае мінуўшчыны.

Першае й, бадай што, самае йстотнае пытаньне, якое паўстае пры чытаньні аповесьці — пра што «Лябірынты» і чаму менавіта «лябірынты».

Лябірынт — сусьветная рытуальна-магічная ўнівэрсалія. Пабудовы ў выглядзе лябірынтаў былі пашыраныя на вялізных тэрыторыях ад вугра-фінскіх паморскіх збудаваньняў да палаца цара Мінаса на высьпе Крыт. Герадот пакінуў апісаньне лябірынту, палова якога мясьцілася на зямлі, а палова — у сутарэньнях, куды забаранялася ўваходзіць староньнім. Там захоўваліся магілы тых, хто будаваў лябірынт, а таксама іншыя таямніцы. У Эгіпце йснаваў «нябесны лябірынт», куды сыходзілі душы памерлых. Традыцыйна лябірынты вызначаюцца як аселішчы мёртвых, шырэй — як мадэль сьвету мёртвых. А калі ўлічыць, што аналягічную архітэктуру маюць і некаторыя старажытныя сьвяцілішчы і што ў архаічнай сьвядомасьці «аселішча мёртвых», «царства продкаў» і «магічнае царства» не адрозьніваліся, лябірынт можна разглядаць шырэй — як абагульненую мадэль іншага быцьця. Прыгадаем таксама, што пасьля Галготы цела Хрыста было пакладзенае ў склеп, а сутнасьць Ягоная сышла ў Пекла, каб вывесьці адтуль праведнікаў. Ці не таму першыя хрысьціяне маліліся ў катакомбах Рыму япчэ да нэронаўскіх ганеньняў? Сцэсьце над зямлю сьлядамі Настаўніка сымбаліза-

вала адыход на «той сьвет», каб перажыць уласную сьмерць і адрадзіцца духова. Менавіта ў лябірынтах адбываўся галоўны рытуал містэрыяў — ініцыяцыя, тое, што складае зьмест і сутнасьць аповесьці «Лябірынты».

Ініцыяцыя — абрад пасьвячэньня, адзін з найбольш старажытных абрадаў, якія выкарыстоўваліся рознымі народамі сьвету. У Эўропе пасьвячэньні былі зьліквідаваныя адначасова са зьнішчэньнем апошняга паганскага храму. Пазьней гэты рытуал захаваўся толькі ў масонаў. Сама ініцыяцыя сымбалізавала пераход ад марнасьці жыцьця празь мяжу сьмерці да новага, духовага быцьця.

> «Я хутка глянуў на сьцяну, дзе вісеў каляндар, там відаць была дата. Гэта быў дзень, калі я прыехаў у Полацак і ўвечары 20 чэрвеня гасьцяваў у Івана Іванавіча.
>
> — Якая сяньня дата? — спытаўся я ў «Падземнага чалавека».
>
> — А якая ж, то ж, ведама, 23 чэрвеня, — адказаў ён пасьміхваючыся.
>
> — А калі я ў вас быў?
>
> — То ж вы заўчора былі ў нас, у аўторак, а сяньня мы маем, дзякаваць Богу, чацьвер, заўтра будзе пятніца. Сьвятога Яна»[16].

Ужо сама дата падзеяў, якія адбыліся з героем, невыпадковая. У старажытных календарох, у прыватнасьці друідзкім, для ініцыяцыяў найбольш спрыяльнымі лічыліся дні раўнадзенства й сонцастаяньня. Дзень летняга сонцастаяньня прыпадае менавіта на 22 чэрвеня. Невыпадкова абраная й пара — ноч. У сьведамасьці людзей замацавалася ўяўленьне пра ноч як час актывізацыі цёмных сілаў. Але ж ноч папярэднічае дню. У мітах пра стварэньне сьвету першапачатковы стан быцьця, хаос апісваецца як суцэльная цемра. Так, ноч — апазыцыя дню, але не супрацьпастаўленьне: ноч магутнейшая за дзень, яна больш прыродная, касьмічная й таму больш адпавядае для сьвятарным рытуалам.

Падзеі, перажытыя героем у гэтую ноч, можна назваць фантастычнымі, калі застацца на яе «паверхні», ня быць «дапушчаным». Бо як жа растлумачыць сьмерць, а потым зьяўленьне чалавека, рухомыя выявы, дзіўныя гукі ў сутарэньнях? І самае галоўнае: дзеля чаго адбылася ноч?

Размовы ў гуртку ахвотнікаў старасьвеччыны былі падрыхтоўкай-выпрабаваньнем перад магчымай ініцыяцыяй новапасьвячонага. Першае выпрабаваньне чакае яго ля старадаўняй труны — корста, муміі. Сам працэс муміфікацыі быў рытуалам глыбокай старажытнасьці і лічыўся найбольш сьвятарным. Акрамя таго, ускосна ён сьведчыў пра адукаванасьць народу, бо вымагаў дасканалага веданьня мэдыцыны й добрага валоданьня спэцыяльным інструмэнтам. Матэрыял для саркафагаў быў надзвычай разнастайны: чырвоны граніт, чорны базальт, алебастар, дрэва. Вельмі часта на саркафагах высякалі эпітафіі. Ёсьць і на труне такі надпіс, які сьведчыць, што пахаваны тут чалавек пры жыцьці быў ня проста валадаром або кніжнікам, а пасьвячоным — знаёмым з акультызмам, замагільным сьветам:

> «Я, Ярамір, ходы гэтыя працай многай утварыў і *дэманаў пяці моцай слоў тайных на пілнаваньне давечнае ўвязаў тут.* Хай уносячага сюды прапусьцяць, а на выносячым споўніцца слова»[17].

Перад труной герой павінен даць прысягу на вечнае маўчаньне — абавязковая ўмова для кожнага, хто рашыўся прайсьці выпрабаваньне. Самой прысягі ў аповесьці няма, толькі вядома, што «словы былі такія ўрачыстыя, закляцьці такія страшныя»[18]. Можна прыблізна ўявіць сабе тэкст прысягі, бо формулы-заклінаньні ў рытуалах ініцыяцыі былі больш-менш устойлівыя. Прысяга звычайна складаецца з абяцаньня захоўваць і не раскрываць ні ў якім разе ніводнай таямніцы з патаемных містэрыяў ніякімі магчымымі сродкамі: ні маляваць, ні друкаваць, ні вырэзваць, ні пісаць, ні даваць ніякай падставы для таго, каб гэта здарылася, на любой рэчы пад небам, рухомай і нерухомай, на якой бы яна магла быць прачытаная або зразуметая. Калі ж будзе парушаная прысяга, няхай будзе перарэзаная шыя, язык вырваны з коранем і закапаны ў марскім пяску пры нізкай вадзе, там, дзе прыліў і адліў кожныя дваццаць чатыры гадзіны[19].

Пасьля складаньня прысягі пачынаюць адбывацца зусім невераголныя падзеі — праваднік гіне, а герой заўважае на ліхтары надпіс: «Обятопрыімчэ, прымі другога, з чары тайн піўшага»[20]. Ён стараецца ўцяміць ягонае значэньне. Ці ж бы «Падземны чалавек», згодна з гэтым правам, павінен быў за раскрыцьцё мне тайны заплаціць сваім жыцьцём?»[21] Герой сумняваецца, здаецца, вось-вось і спасьцігне сэнс словаў, але ўсё ж такі пагаджаецца:

факты гавораць за тое, што «Падземны чалавек» стаўся «другім, ніўшым з чары скрытыя веды».

Безумоўна, ініцыяцыя накіраваная на абуджэньне пачуцьця містычнага адзінства чалавечае прыроды з боскаю. Тут мы знаходзім супадзеньне рытуалу пасьвячэньня з касмаганічнымі ўяўленьнямі. Ініцыюецца боскае. Ня толькі памірае Хаос, каб даць жыцьцё Космасу. Памірае чалавек, каб даць жыцьцё другому — у самым сабе! У містэрыях Ізыды нэафіт, паміраючы, сыходзіў у падземны сьвет, бачыў сьвятло ў поўнай цемры. Ён праходзіў усе ступені перараджэньня, усе ступені касмаганічнай ахвяры. Новы, ініцыяваны суб'ект лічыўся носьбітам ведаў і чысьціні, бо паўтарыў шлях ад Хаосу да Космасу.

Герой Ластоўскага не зразумеў, што надпіс — пра яго, што ён павінен памерці й нарадзіцца, дзеля чаго і йдзе на выпрабаваньні. А што выпрабаваньні сур'ёзныя — бясспрэчна. Ініцыяцыя ўлучае ў сябе жахлівую магчымасьць: чалавек губляе пачуцьцё старой рэальнасьці і можа не здабыць новай. Старыя каштоўнасьці загінулі, новыя йшчэ ня ўзьніклі. Дух чалавека нібы ў пустэчы. Інакш кажучы, ён на той мяжы, калі дух абвяшчае яму ўсякае жыцьцё як сьмерць. Матыў сьмерці ў ініцыяцыі — «калі пшанічнае зерне, упаўшы на зямлю, не памрэць, яно застанецца адно; калі ж памрэць, родзе шмат плоду» (Ян 12.24). Р.Генон называе такі стан «псыхічнай сьмерцю». Кажучы пра небясьпечнасьць ініцыяцыі, ён зазначае: «Такі працэс, нават пад кіраўніцтвам людзей мудрых, нясе зямную небясьпеку, фізычную сьмерць (часьцей самагубства), страту памяці, вар'яцтва»[22]. Нешта надобнае адбываецца й з героем Ластоўскага.

Аповесьць насычаная сымбалямі (парог, дзьверы, мост, лесьвіца), што здаўна былі мэтафарамі пераходу да патаемных ведаў, да сакральнага ўзроўню быцьця. У містычных філязофіях і містэрыях розных народаў існуе безьліч «лесьвіцаў»: брахманічная Лесьвіца, што зьяўляецца сымбалем Сямі Сусьветаў, кабалістычная Лесьвіца — сем ніжэйшых Сэфірот; Лесьвіца Якуба прыгадваецца ў Бібліі. А таксама Лесьвіца Мітры, Розэнкройцараў, Лесьвіца Тэалягічная й г.д. Нэафіт павінен прайсьці іх, каб убачыць сьвятло — як кульмінацыю пасьвячэньня.

Раскрыць некаторыя фантастычныя элемэнты аповесьці можна, зьвярнуўшыся да пэўных асаблівасьцяў містэрыяў, вузлоў ініцыяцыі. Зробім гэта на прыкладзе Містэрыі Одына, аднае з

найбольш вядомых містэрыяў. Сьвятарная драма, што ляжыць у яе аснове, гэткая.

Одын, аднавокі бог, пабудаваў на вяршыні гары казачны палац і назваў яго Асгард. Там жылі 12 багоў, і нага чалавека не магла ступіць туды. На той гары было й месца сьмерці, Вальгалла, дзе памерлыя героі біліся й балявалі. Кожную ноч іх раны загойваліся, а дзік, мяса якога яны ўжывалі, прыходзіў зноў.

Бальдэр Прыгожы — скандынаўскі Хрыстос, улюбёны сын Одына, ня быў ваяром: ягоны добры й чулы дух прыносіў радасьць багом, і яны ўсе любілі Бальдэра. Але дакладна як Хрыстос меў Юду, гэтак і сярод дванаццаці багоў адзін быў фальшывы — Лёкі, увасабленьне зла. Лёкі сваёю хітрасьцю й рукамі сьляпога бога лёсу забіў Бальдэра стралою з амялы. Зь сьмерцю Бальдэра зьнікла сьвятло багоў. Тады багі сабраліся, каб вынайсьці сродак ажыўленьня духу маладосьці й жыцьця, і вынікам іхных пошукаў сталася містэрыя.

Навапасьвячоны мусіў вярнуць Бальдэру жыцьцё. Яму адводзілася роля забітага бога. Пасьля доўгіх гадзін блуканьня па сутарэньнях, адмысловых калідорах і бясконцых залях нэафіт падыходзіў да выявы Бальдэра Прыгожага, якая стаяла пасярод залі. Толькі тады яму адкрывалася патаемнае. Пасьвячоны ўслаўляўся як чалавек зноў народжаны.

А цяпер прачытаем у В.Ластоўскага:

> «Урэшце, змучаны пераглядам кнігаў, я надумаў абыйсьці бібліятэку і з гэтай мэтай выйшаў у другую залю, а з другой у трэцюю й г.д. Прайшоўшы дзясяткі два заляў, напоўненых кнігамі, я апынуўся перад глыбокай нішай, у якой была зьмешчана фігура чалавечая з бліскучымі вачыма. У меру збліжэньня да яе вочы фігуры штораз ярчэй сьвяцілі, прычым чулася ў іх нейкая прыцягальная сіла. Калі я быў на адлежнасьці мэтраў дзесяць ад фігуры, я ўжо ня меў сілы стрымаць сябе, нешта незразумелае цягнула наперад, і высілкам усяе волі я ня мог спыніць сябе, каб ня йсьці далей. Фігура была з жоўтага мэталю, утрая большая за натуральны чалавечы рост»[23].

Ці не ідэнтычна перажытае героем апісаньню містэрыі Одына?

> «У гэты мамэнт фігура правай рукой ударыла тры разы ў шчыт, які быў у яе на левай руцэ. Аглу-

шальны патройны гук дарэшты спараліжаваў мяне, і я страціў прытомнасьць»[24].

Фантастыка? Крыпты, патаемныя падземныя хады, дзе адбываліся містэрыі й хаўтуры, былі поўныя цудаў, напрыклад, лямпадаў, што гарэлі стагодзьдзямі. Ёсьць дакумэнтальнае сьведчаньне, што ў Англіі селянін, выпадкова трапіўшы ў магілу розэнкройцара, ступіў на адзін з камянёў і тым самым прывёў у дзейнасьць мэханізм: фігура ў латах узьнялася й мэталічнай пікай ударыла па лямпе[25]. Прыкладна гэтаксама геніяльна былі пабудаваныя й самыя лябірынты, храмы Містэрыяў. Адмысловае разьмяшчэньне бронзавых вазаў прыводзіла да зьмены тону й гучаньня чалавечага голасу. Кожны пакой меў сваю акустыку: так, у адным памешканьні нэафіт быццам губляў голас, а ў другім нават уздых ператвараўся ў рык; у адной залі голас Іерафанта гучаў як званочак, а ў другім грымеў так, што ўсё вакол трэслася й гуло. Менавіта такія цуды ўбачыў і пачуў герой, напаткаўшы ў залі агромністую фігуру. І ня дзіва, што пасьля эмацыйнага, нэрвовага перажываньня ён страціў прытомнасьць. Ініцыяцыя скончылася.

Пэўную цікавасьць выклікае храм — той лябірынт, дзе адбывалася містэрыя. Старажытныя храмы вылучаліся адметнасьцю формы. Былі, напрыклад, пабудовы ў выглядзе яйка, зь якога, згодна з традыцыяй розных народаў, пайшлі людзі. Былі круглыя храмы, бо кола — сымбаль Сусьвету. Былі і ў выглядзе крыжа, бо крыж — сымбаль адраджэньня. А таксама ў форме зьмяі, крылаў і г.д. Які быў храм у аповесьці? Мы ведаем, што там было багата выяваў багоў, а яшчэ — «я заўважыў, што памешканьне, у якім я знаходжуся, мае трохкутную форму, трылук якой, звужаючыся, зыходзіўся ўверсе высокім скляпеньнем. Мне прыпомнілася чытанае некалісь апісаньне славянскае сьвятыні ў Рэтры, якая была збудаваная трыбочнай фігурай, як і сама сяліба пры ёй, якая мела з трох бакоў агароду й тры брамы на ўсход, паўдня і поўнач»[26].

Храм, які згадвае герой і які, напэўна, паслужыў правобразам храму ў аповесьці, ведамы з 1002 г. паводле апісаньняў Дытмара, біскупа Мэрзэбурскага (памёр у 1018 г.) і Адама Брэмэнскага, каноніка з Брэмэну (каля 1070 г.). Да іх працаў трэба ставіцца з пэўнай засьцярогай, бо, па-першае, ніводзін зь іх ня быў у Рэтры, па-другое, абодва яны былі хрысьціяне і таму маглі выказвацца неаб'ектыўна. Зазначым, што само слова *paganus* стала лаянка-

вым, хоць за часы Тэртуліяна яно абазначала ўсяго толькі невайсковага чалавека, бо хрысьціяне ўяўляліся ваярствам Хрыстовым. *Paganus* таксама — жыхар вёскі, селянін: калі ўжо ўсе гарады сталіся хрысьціянскімі, у вёсцы заставаліся прыхільнікі старой веры. Тым ня менш іхныя сьведчаньні — адзінае, што мы маем[27].

Сам горад Рэтры ў правінцыі Рэдаран быў пабудаваны трыкутнікам і меў тры брамы. Вакол сьвятарны для жыхароў вялікі лес, дзе ніхто ня меў права секчы дрэваў. Дзьве брамы адчыненыя для ўсіх, хто хоча ўвайсьці. Трэцяя, з усходняга боку, вельмі малая, шлях да яе ляжыць каля мора й выглядае жахліва. У горадзе няма нічога, апрача па-мастацку пабудаванага драўлянага капішча, якое падтрымваюць рогі разнастайных жывёлін. Сьцены аздобленыя выявамі багоў і багіняў дзівоснай работы, у сярэдзіне стаяць рукатворныя багі, апранутыя ў жахлівыя панцыры й шаламы.

Больш падрабязна апісаны Саксам Граматыкам Арконскі храм, супернік храму ў Рэтры й сучасьнік яго. Пасярод гораду, піша Сакс, ляжыць пляц, на якім узвышаецца драўляны храм, прыгожы ня гэтулькі майстэрствам, колькі веліччу бога, якому тут быў узьведзены кумір. Вонках ўсё зіхацела па-майстэрску выкананымі барэльефамі разнастайных фігураў. Толькі адзіны ўваход вёў у сярэдзіну храму. У храме стаяў вялікі, большы за чалавека, кумір з чатырма галовамі, на чатырох шыях, зь якіх дзьве выходзілі з грудзей і дзьве з хрыбту. У правай руцэ кумір трымаў рог, зроблены з разнастайных мэталаў, левай упіраўся ў бок, і была левая рука падобная да луку.

Такі гэта быў храм, такім ён уяўляўся В.Ластоўскаму, такім можам бачыць яго й мы. Нават фігура, якая моцна ўразіла героя падчас ініцыяцыі, магла быць часткова сьпісаная з куміра храму ў Рэтры або ў Арконе.

З гэтай залі пачынаецца новая, галоўная частка адкрыцьцяў героя В.Ластоўскага. І Праваднікам, Вэргіліем, выступае полацкі аматар-археоляг Іван Іванавіч, той самы, які, запрашаючы героя ў Полацак, пісаў, што каля яго ўтварыўся гурток ахвотнікаў старасьвеччыны. «У нашых вячорных вольных бясёдах заправўды ажываюць мінулыя вякі ў казках, легендах і фантазіях...»[28]. Іван Іванавіч прыводзіць героя ў круглую залю, «сьцены й столь якое пакрытыя былі рысункамі, а памост — мазаікай»[29],

і чытае яму бліскучую лекцыю параўнальнай міталёгіі, выяўляючы глыбокую эрудыцыю.

Углядаючыся ў паставу Івана Іванавіча — пэрсанажа аповесьці «Лябірынты», удумваючыся ў ягоныя разважаньні, можна прыгадаць іншага Івана Іванавіча. Ён таксама археоляг. Таксама праз усё жыцьцё зьбіраў нацыянальныя скарбы. Іван Іванавіч Луцкевіч... Ён належаў да ліку пачынальнікаў, якія стаялі ля вытокаў нацыянальнага адраджэньня канца XIX — першай чвэрці XX стагодзьдзя. Вучоны, грамадзкі дзяяч, адзін з заснавальнікаў першых беларускіх легальных газэтаў «Наша Доля» й «Наша Ніва». Стваральнік калекцыяў, якія спрыялі вывучэньню матэрыяльнай і духовай культуры беларускага народу і якія пазьней сталіся асноваю Віленскага Беларускага Музэю. Можна меркаваць, што менавіта пра Івана Луцкевіча думаў Вацлаў Ластоўскі, ствараючы вобраз Івана Іванавіча. Сама аповесьць «Лябірынты» ўспрымаецца як даніна памяці чалавеку, дзейнасьць якога мае для Беларусі неацэннае й не ацэненае яшчэ значэньне.

Іван Іванавіч, Настаўнік, паказвае выяву існасьці славянскай міталёгіі, тры постаці славянскай — Дака-Гецкай — Тройцы. Сапраўды, «усе рэлігійныя сыстэмы ад пачатку йснаваньня ў чалавецтве сьведамае думкі прызнавалі гэтую траістасьць рэчаў»[30]. Кожны народ меў сваю эзатэрычную й экзатэрычную рэлігію, адну для пасьвячоных, другую — для народу. Індусы, да прыкладу, мелі тры ступені пасьвячэньня. У Эгіпце таксама былі тры першыя, пачатковыя ступені, увасобленыя ў Містэрыі трыма хавальнікамі агню. У кітайцаў была вельмі старажытная Траістая Суполка, у Тыбэце й да нашага часу йснуе «трайны крок», сымбалізаваны ў Ведах трыма крокамі Вішну. Паўсюль старажытнасьць выяўляе ўслаўленьне Трыяды й Трыкутніка — першай геамэтрычнай фігуры. Шумэрыйцы прызнавалі бога паветра Энліла, які разам з багіняю Нінліл далі жыцьцё Нані, богу месяца. Урарцкаю тройцай былі Галдзі, Тэйтшэба і бог сонца, імя якога засталося невядомае. Асырыйскаю тройцай былі Ашур, Адад, Шамаш. У рэлігіі Бабілёну бог сонца Шамаш складаў тройцу разам з богам месяца Сіна і богам паветра Раману (або Ададу). Індуісцкая тройца (Трымурці) складалася з Брахмы, Вішну й Шывы. Яе часта ўвасаблялі ў постаці трохгаловага бога. Тройца грэцкіх багоў — Зэўс, Пасэйдон і Аід.

Натуральна, адпаведнае ім знаходзім і ў рымскай рэлігіі. Вядомыя трыгаловыя багі ў паморскіх славянаў, у сэрбскай і кельцкай міталёгіі. І ўспамінае герой, «што таксама ў трыкутную фігуру была будаваная слаўная, апяяная Гомэрам Троя, што ўсе бажніцы, ціто «багоды» старое славянскае веры, прысьвечаныя Найвельшаму, бацьку багоў, зваліся Троямі»[31].

У Дака-Гецкую Тройцу, паводле В.Ластоўскага, першым уваходзіць Найвельшы, бацька багоў. Імя, якое іўдзеі й хрысьціяне абвясьцілі «невымоўным», такім, у адрозьненьне ад пашыранай думк,і не зьяўляецца. Яно *не павінна вымаўляцца*, паколькі яно сымбалічнае. Менавіта гэтае эзатэрычнае значэньне й мае на ўвазе В.Ластоўскі, калі піша: «ня мае наймень ня»[32].

Другая постаць — Тур, бог сонца й пладаноснасьці. Пра яго йснуе багата зьвестак, праўда, часам функцыі бога розьняцца. (Напрыклад, М.Чулкоў у «Словаре русских суеверий» называе Тура богам весялосьці.) Але культ яго йснаваў у Рэтры, можа, ён быў ідэнтычны з богам Радэгастам; шырока ведамы таксама белы тур у славянскай міталёгіі, бык ці тур у сусьветных рэлігіях. Рогі, асабліва турыныя, адыгрывалі пэўную культавую ролю: узгадайма апісаньне куміра ў арконскім храме.

Трэцюю постаць В.Ластоўскі называе Сіціўратам, Сівай і падае ягоны эпітэт — Ярыла, Яравід. Верагодна, што аўтар «Лябірынтаў» меў на ўвазе Сварога (румынскі Скалаян, якога таксама называлі Траянам): сьветла-рогі, сьвята-рогі, яра-рогі. У санскрыце захавалася Svarga, што было сынонімам Неба, а потым стала яго азначэньнем. Тады становіцца зразумелай і сувязь зь Ярылам: яры рог.

У сувязі з постацьцю Сварога варта зьвярнуць увагу на такую паралель. В.Ластоўскі вуснамі Івана Іванавіча расказвае пра першага рэфарматара Зараду з народу гетаў. Зарада «навучыў ратайства й завёў свабодны выбар жон і жонамі мужоў. [...] Ніхто ня мог карыстацца чужой працай. Кажны пільнаваў ладу ў сваёй сям'і і дома быў поўным сувэрэнам. За крыўды, зробленыя суседу, караў сход суседзяў»[33].

А вось што чытаем у «Аповесьці мінулых часоў»:

> «У праўленьне гэтага Фэоста ў Эгіпце зь неба ўпалі абцугі, і пачалі каваць зброю, а перш паліцамі й камянямі біліся. Той самы Фэост пастанавіў, каб жанчыны выходзілі замуж за аднаго мужчыну і бы-

лі ўстрыманыя, а распусьніц загадаў катаваць. Таму й празвалі яго Сварог. [...] І пасьля яго правіў сын ягоны, імем Сонца, якога называюць Дажбогам»[34].

Інакш кажучы, Зарада Ластоўскага й Сварог — тая самая асоба. Лёгіка пярэваратня — продкавая форма прынцыпу эвалюцыі, якая належыць не да матэрыяльнай сфэры, а да сынкрэтычнай рэальнасьці. Ляйтматыў міталёгіі — ідэя пра пераход сьвету з адной ступені на другую, ад Хаосу да Космасу. Ініцыяцыя. На гэтай глебе ўзыдуць усе тыпы сьветапогляду, усе рэлігіі. А шлях продкаў, мітычных і рэальных, заканчваецца тым, што яны сыходзяць пад зямлю, пакідаючы па сабе знак, сымбаль, веданьне. Надзею на Адраджэньне.

Кожны сапраўдны пісьменьнік стварае свой сусьвет — паэтычны космас, дзе свая сымболіка, мэтафорыка, сэміётыка. Прэцэдэнт ёсьць: Сьвет створаны паводле Слова Божага. Сэміятычны сьвет мае складаную й шматмерную архітэктоніку; яна часам мітычная, часам паэтычная, часам Храм, часам майстэрня, бывае рэальная, бывае фантастычная, сюды ж дадаецца багацьце культуры — сусьветнай і роднай, цэлыя пласты або толькі імёны. І заўсёды — Адкрыцьцё.

## СПАСЫЛКІ

1 О. Сенковскій. Собраніе сочиненій. Т.VII. СПб., 1859. С.431-432.

2 Власт. Творы. Мюнхэн, 1956. С. 90.

3 Сярод шматлікіх працаў можна згадаць: Каваленка В. Міфа-паэтычныя матывы ў беларускай літаратуры. Менск, 1981.

4 Коўш С. Русальчына бальляда: Лягенды, апавяданьні, выбраныя рэфэраты. Саўт Рывэр, 1990.

5 Власт. Творы. Мюнхэн, 1956. С.96.

6 Л.Юрэвіч. «Нам палаць, а ня цьміць» // ЛіМ. 1992. 4 вер.

7 Пачынальнікі. Менск, 1977. С.68.

8 Niezabudka. Petersburg, 1841. S.223.

9 Eco U. The open work. Cambridge, 1989. P.44.

10 Шпилевскій П. Бѣлоруссія въ характерическихъ описаніяхъ и фантастическихъ ея сказкахъ // Пантеонъ (Санкт-Петербургъ). Т.8. Кн.4. 1853. С.72.

11 Абдзіраловіч І. Адвечным шляхам: Дасьледзіны беларускага сьветагляду. Менск, 1993.

[12] Власт. Творы. Мюнхэн, 1956. С.80.

[13] Цыт. паводле: Міхнюк У. Справа Вацлава Ластоўскага // Маладосць. 1993. №8. С.205.

[14] Власт. Цыт. пр. С.79.

[15] Власт. Цыт. пр. С.81.

[16] Власт. Цыт. пр. С.104.

[17] Власт. Цыт. пр. С.85.

[18] Власт. Цыт. пр. С.85.

[19] Пыпинъ А. Русское масонство: XVIII и первая четверть XIX в. Петроградъ, 1916. С.52.

[20] Власт. Цыт. пр. С.87.

[21] Власт. Цыт. пр. С.87.

[22] Guenon R. Aperçus sur l'initiation. Paris, 1964. P.180.

[23] Власт. Цыт. пр. С.103.

[24] Власт. Цыт. пр. С.103.

[25] Мэнли П. Холл. Энциклопедическое изложение масонской, герметической, каббалистической и розенкрейцеровской философии. Новосибирск, 1992. С.206.

[26] Власт. Цыт. пр. С.87-88.

[27] Прыведзеныя далей зьвесткі падаюцца паводле кнігі: Касторскій М. Начертаніе славянской миѳологіи. СПб., 1941. Разд.6.

[28] Власт. Цыт. пр. С.76.

[29] Власт. Цыт. пр. С.89.

[30] Власт. Цыт. пр. С.89.

[31] Власт. Цыт. пр. С.88.

[32] Власт. Цыт. пр. С.89.

[33] Власт. Цыт. пр. С.95.

[34] «Се повѣсти времяньных лѣтъ...». Москва, 1993. С.305.

## ХРОНІКА НАВУКОВА-КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

### 1991

**6-10 студзеня** адбылася 9-ая Сустрэча Беларусаў Аўстраліі. У праграме Сустрэчы былі прачытаныя некалькі рэфэратаў ды наладжаная мастацкая выстаўка.

**У студзені** закончылася мастацкая выстаўка твораў М.Басальгі, якая пачалася 15 кастрычніка ў Студэнцкім Цэнтры Ратгерскага Штатнага Ўнівэрсытэту ў гор. Нью Брансўіку, штат Нью Джэрзі.

**27 студзеня** ансамбаль «Песьняры» распачаў чароднае турнэ ў Злучаных Штатах выступам у гор. Чыкага, дзе таксама адбылася сустрэча зь мясцовым беларускім грамадзтвам.

**3 лютага** ў гор. Саўт Рывэры ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры адбылася выстаўка мастацкіх фатаграфіяў сп. Анатоля Клешчука зь Менску.

**8 лютага** д-р Ян Запруднік рабіў даклад на Калюмбійскім Унівэрсытэце ў Нью Ёрку на тэму «Сучасны культурны й палітычны стан Беларусі».

**23 лютага** ў БІНіМе ў Нью Ёрку сп. Алег Латышонак зь Беласточчыны чытаў даклад на тэму «Беласточчына й народзіны беларускае палітычнае думкі».

**2 сакавіка** ў БІНіМе ў Нью Ёрку адбыўся даклад беларускага дасьледніка зь Пецярбургу сп. Валянціна Грыцкевіча на тэму «Стан гістарычных дасьледаваньняў у Беларусі».

**3 сакавіка** Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва наладзіў у гор. Саўт Рывэры сустрэчу з паэтам Міхасём Кавылём з нагоды выхаду ягонае кнігі «Міжагнёўе». Прынагодна былі адзначаныя 75-ыя ўгодкі паэта.

**18 сакавіка** ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў гор. Саўт Рывэры адчынілася 18-ая гадавая выстаўка беларускіх мастакоў і ўмельцаў.

**Ад 18 да 28 сакавіка** ў гор. Чыкага ў Цэнтры імя Дэйлі праходзіла выстаўка беларускага народнага мастацтва.

**15 сакавіка** прафэсар Валянцін Грыцкевіч чытаў даклад на Ратгерскім Штатным Унівэрсытэце ў гор. Нью Брансўіку аб разьвіцьці грамадзка-палітычнае думкі ў Беларусі ў 20-м стагодзьдзі.

**28 сакавіка** сп-ня Паўля Сурвіла абараніла дысэртацыю на званьне кандыдата навук на Мішыганскім Штатным Унівэрсытэце. Тэма дысэртацыі — «Беларуская музыка ў Паўночнай Амэрыцы».

**Ад 4 красавіка да 5 травеня** ў ЗША й Канадзе знаходзілася дэлегацыя кіраўнікоў БНФ сп.сп. З.Пазьняка, У.Заблоцкага й Л.Баршчэўскага. Адбыліся сустрэчы зь беларускім грамадзтвам і з шматлікімі дзеячамі й палітыкамі Злучаных Штатаў і Канады.

**5-6 красавіка** беларуская мастацка-вакальная група ды народныя ўмельцы бралі ўдзел у Славянскім Тыдні, які ладзіў Унівэрсытэт Штату Пэнсыльванія ў некалькіх мясцовасьцях штату.

**14 красавіка** ў Нью Ёрку адбылася канфэрэнцыя ў справе падрыхтоўкі энцыкляпэдыі штату Нью Ёрк, у якой будуць зьмешчаныя нарысы пра нацыянальнасьці штату. Ад беларусаў меў даклад Вітаўт Кіпель.

**17 красавіка** ў Гарадзкім Каледжы Нью Ёрку адбылося адчыненьне выстаўкі, прысьвечанай Максіму Багдановічу. Арганізаваў выстаўку праф. Томас Бэрд.

**4-5 травеня** ў Таронта адбылася беларусаведная канфэрэнцыя, якая супала з адзначэньнем 25-х угодкаў Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады. Працы канфэрэнцыі праходзілі ў некалькіх сэкцыях: «Шматкультурнасьць й фінансава-арганізацыйныя справы нацыянальных групаў Канады», «Наступствы Чарнобыльскай катастрофы ў Беларусі», «Палітычная й культурная сытуацыя ў БССР», «Арганізацыйная праца з моладзьдзю», «Беларуская эміграцыя ў Канадзе перад 2-й Сусьветнай вайной», «Стан беларускае эміграцыі ў Канадзе ў 1991 годзе». У працах канфэрэнцыі бралі ўдзел: д-р Раіса Жук-Грышкевіч, Янка й Івонка Сурвілы, Паўлінка Сурвіла-Вахман, Зора й Вітаўт Кіпелі, Ян Запруднік, д-р Барыс Рагуля.

**14 травеня** ў Нью Ёрку БІНіМ ладзіў зборку, на якой абмяркоўваліся справы ўдзелу беларусаў у міжнацыянальных канфэрэнцыях у Вашынгтоне і ў Чыкага.

**15 травеня** ў Чыкага чытаў даклад для беларускае грамады гораду супрацоўнік Інстытуту Гісторыі АН БССР сп. Сяргей Тарасаў. Тэма дакладу — «Полацкая зямля й вытокі Беларускай Дзяржаўнасьці». Сустрэча адбылася ў залі каталіцкай царквы Хрыста Спаса.

**16-19 травеня** ў Гайнаўцы адбываўся Міжнародны Фэстываль Царкоўнае Музыкі. З замежных музыказнаўцаў у фэстывалі браў удзел сп. Гай Пікарда зь Лёндану.

**25-27 травеня** ў Менску адбыўся Першы Міжнародны Кангрэс Беларусістаў, у працах якога ўпершыню бралі ўдзел беларусы з замежжа блізкога й далёкага. На Кангрэс зьехалася больш за 160 спэцыялістаў беларусікі з больш як 20-х краінаў сьвету. З Злучаных Штатаў Амэрыкі ў Кангрэсе бралі ўдзел Томас Бэрд, Зора Кіпель, Вітаўт Кіпель, Ян Запруднік, Васіль Мельяновіч. Большасьць дакладаў Кангрэсу, а таксама дыскусія пры круглым стале выдрукаваныя ў выданьні «Беларусістыка/Albaruthenica», Менск, 1993.

**2-4 чэрвеня** ў Кінгстане (Антарыё, Канада) у часе гадавое канфэрэнцыі Асацыяцыі Канадзкіх Славістаў было зачытана не-

калькі дакладаў у спэцыяльнай беларускай сэкцыі канфэрэнцыі. Даклады былі на гэткія тэмы: «Рэлігійнае мастацтва як выяўленьне агульнае беларускае культуры» (Івонка Сурвіла), «Беларускі Трыстан 16-га стагодзьдзя: параўнаўчыя дасьледаваньні» (Зора Кіпель), «Рок-гурт Мроя» (Марыя-Паўля Сурвіла-Вахман), «Цяперашняе стаўленьне да эміграцыі ў Савецкай Беларусі» (Вітаўт Кіпель), «Сучасная палітычная сытуацыя ў БССР» (Ян Запруднік). Старшынявала ў беларускай сэкцыі праф. Зіна Гімпелевіч-Шварцман.

**23 чэрвеня** ў гор. Монрэалі, Канада, адзначалася сьвята Купальля. Сп. Я.Хрэноўскі выступаў з дакладам аб беларускіх народных звычаях.

**18-20 чэрвеня** ў Любліне адбывалася канфэрэнцыя «Рым-2», прысьвечаная вывучэньню ВКЛ і Рэчы Паспалітае, у працах якое ўзялі ўдзел беларускія дасьледнікі з БССР, Польшчы й краінаў дыяспары: Вера Рыч, Зора Кіпель, Вітаўт Кіпель. Кантынгент беларускіх дасьледнікаў з Бацькаўшчыны ўлучаў Адама Мальдзіса, Генадзя Сагановіча, Захара Шыбеку, Ігара Бабкова, Сьвятлану Грачухіну, Ірыну Лаўроўскую, Міколу Іванова, Аўгена Мірановіча й Сакрата Яновіча (два апошнія зь Беласточчыны).

**10 ліпеня** д-р Вітаўт Кіпель чытаў даклад аб беларускай эміграцыі ў штаце Нью Джэрзі прадстаўніком адміністрацыі штату ў гор. Трэнтане, штат Нью Джэрзі.

**1-5 жнівеня** ў Нью Ёркаўскай Публічнай Бібліятэцы адбылася выстаўка «Новыя беларускія кнігі» — лепшыя кнігі за 1991 год.

**12-16 жнівеня** адбылася выстаўка беларускіх мастакоў замежжа ў галерэі Ратгерскага Ўнівэрсытэту (Даглас Каледж) у гор. Нью Брансўіку, штат Нью Джэрзі.

**12 верасьня** д-р Вітаўт Кіпель рабіў даклад на тэму сучаснага стану вывучэньня новае беларускае гісторыі ў Беларусі.

**21-22 верасьня** ў гор. Джэрзі Сіты, штат Нью Джэрзі, адбыўся чародны этнічны фэстываль, у якім бралі ўдзел беларусы —

як у эстрадных выступах, гэтак і ў наладжаньні выстаўкі народнага мастацтва.

**20 кастрычніка** адбыўся адукацыйна-мастацкі вечар у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў гор. Саўт Рывэры, штат Нью Джэрзі.

**20 кастрычніка** ў рэлігійна-грамадзкім цэнтры пры Царкве Сьв. Юрыя ў Чыкага адбыўся вечар у памяць Максіма Багдановіча.

**27 кастрычніка** Беларускі Каардынацыйны Камітэт гораду Чыкага ладзіў ушанавальную акадэмію ў памяць Максіма Багдановіча.

**4 лістапада** ў залі Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў у Нью Ёрку адбыўся вечар, прысьвечаны 100-гадоваму юбілею Максіма Багдановіча. Даклад аб спадчыне беларускага барда рабіў сп. Генадзь Бураўкін.

**11 лістапада** беларускія арганізацыі гор. Мэльбурну, Аўстралія, адзначалі 100-гадовы юбілей Максіма Багдановіча.

**4 сьнежаня** ў Лёндане быў арганізаваны сэмінар «Круглы стол, прысьвечаны палітычным падзеям у Беларусі». Выступала панад 10 дакладчыкаў. Кіраваў сэмінарам праф. Джым Дынглі.

**16 сьнежаня** БІНіМ адзначаў 100-я ўгодкі ад дня нараджэньня Максіма Багдановіча. Былі зачытаныя рэфэраты, прысьвечаныя творчасьці й спадчыне паэта, выступалі В.Кіпель, З.Кіпель, Я.Запруднік, праф. Т.Бэрд. БІНіМ выдаў з нагоды юбілею адмысловую паштоўку й вялікага фармату плякат, які выканала мастачка Ірэна Дудко (Рагалевіч).

**Сьнежань:** у Чыкага на працягу сьнежня адбываўся Калядны Фэстываль, у розных імпрэзах якога бралі ўдзел беларусы. Каардынатарам беларускага ўдзелу ў фэстывалі быў Беларускі Каардынацыйны Камітэт гораду Чыкага.

*Падрыхтаваў Вітаўт Кіпель*

## ЗЬМЕСТ
## TABLE OF CONTENTS